# Фотаагляд месяца



## ЯК ВЫРАТАВАЦЬ ЯГО?

**«Беларусь»
яшчэ зусім нядаўна
называлі трактарам «Дружба».
І на тое былі
ўсе падставы:
канструкцыя машыны
створана ў Мінску,
тут яна, як кажуць,
атрымлівае пуцёўку
ў жыццё, але ж...
«Абуваюць» трактары
заводы Волжска,
Днепрапятроўска, Яраслаўля.
Шкляць кабіны ў Львове
і Саратаве. Падшыпнікі
і гідраразмеркавальнікі
Масква пастаўляе,
інструмент — Грузія,
прыборы
электраабсталявання —
Малдова і Латвія...
Усе прадпрыемствы,
якія працавалі
на галоўны канвеер,
цяжка peралічыць —
іх больш за трыста!**

# ФЛАГМАН ДЫХАЕ НА ЛАДАН



Што цяпер? Парушаны гаспадарчыя сувязі, адзіная банкаўска-фінансавая сістэма, а ў выніку гігант беларускай індустрыі — наш гонар і надзея — пачаў задыхацца. На пачатак 1994 года яго даўгі склалі 73 мільярды рублёў. Пакупнікі пачалі адмаўляцца ад прадукцыі, на складах і таварных пляцоўках яе назапасілі ажно на 140 мільярдаў рублёў.

Завод часта спыняецца, работнікаў адпраўляюць у «адпачынак» — і гэта пры чатырохдзённым рабочым тыдні!

Што ж прымусіла адміністрацыю пайсці на такія меры? Адказ вядомы: безупынны рост цэн на энерганосьбіты, сыравіну, матэрыялы і камплектуючыя дэталі. Кошт электраэнергіі, напрыклад, у параўнанні са снежнем 1990 года ўзрос у 3000 разоў, цеплавой энергіі — у 10 000, прыроднага газу — у 4000 разоў. Бязлітасна растуць цэны і на матэрыялы. Так, напрыклад, на метал яны ўзняліся ў 77 разоў, на дыскі колаў — у 25, на шыны і электраабсталяванне — 15—30 разоў...

Завадчанам у такіх абставінах нічога іншага не застаецца, як павялічваць цэны і на сваю прадукцыю; адпускныя цэны на працягу года пераглядваліся... 12 разоў. Калі ў студзені 1993 года трактар рэалізоўвалі па 13 мільёнаў рублёў, то ў снежні таго ж года — па 28 мільёнаў рублёў.

Здавалася б, вось ён, шлях з прарыву. Толькі ці шлях? Само па сабе павышэнне цэн станоўча не ўздзейнічае на эфектыўнасць вытворчасці, рост прадукцыйнасці працы, паляпшэнне якасці прадукцыі, што асабліва адчуваецца цяпер, калі цяжка ўплываць на ўзровень затрат. І толькі тое, што прадпрыемства з'яўляецца манапалістам, дазваляе яму прадаваць трактары па высокай цане, хоць далейшы безупынны рост немагчымы, бо стане пагражальнаю неканкурэнтаздольнасць, знізіцца пакупны попыт. Тое, дарэчы, што ў нейкай ступені ўжо здарылася на прадпрыемстве.

Памятаеце, раней трактары з маркай «Беларусь» карысталіся попытам у ЗША, Англіі, Францыі, Германіі, іншых краінах. Цяпер іх там не чакаюць. Больш таго, яны сталі не па кішэні і спажыўцам з краін блізкага замежжа. Ускладніла сітуацыю і тое, што калгасы і саўгасы, прадпрыемствы аграрнай прамысловасці аказаліся неплацежаздольнымі, бо ўрады многіх дзяржаў СНД своечасова не разлічыліся з імі за здадзеную прадукцыю.

Спад попыту на «Беларусь» звязаны і з рэзкім скарачэннем пасяўных плошчаў. Што, дарэчы, зрабіла царскую паслугу канадскім і амерыканскім фермерам, а таксама сельскагаспадарчым вытворцам Заходняй Еўропы, адкуль да нас ідзе збожжа (у крэдыт пад працэнты) і мноства харчовых тавараў, як правіла нізкай якасці, хоць і ў прыгожых упакоўках (адразу згадваецца, як некалі еўрапейцы дарылі абарыгенам Афрыкі і Амерыкі шкляныя пацеркі і бляшаныя слоікі ўзамен на алмазы, золата і слановую косць).

На тэрыторыі Мінскага трактарнага збіраецца нерэалізаваная прадукцыя, якая па кошту наблізілася да сусветных цэн, а, думаецца, хутка абгоніць і іх. Такім чынам у Беларусі вызваліцца рынак збыту для замежных фірмаў, якія пусцяць свае машыны ў продаж танней. Сумная перспектыва...

**Ці збіраецца ратаваць становішча ўрад! У ЗША кажуць: «Што добра для «Джэнерал мотарс», тое добра і для Амерыкі». Хацелася б пачуць ад В. Ф. Кебіча ці іншага кіраўніка краіны: «Што добра для трактарнага (аўтамабільнага, маторнага і г. д.) завода, тое добра і для Беларусі».**



**Аляксандр ШАМЕЦ.**
**Здымкі Віктара ДРАЧОВА.**





# КРЫЖ



**Аляксей ДУДАРАЎ**

Праўда — самы цяжкі на свеце крыж. Не кожнаму стае сілы несці яго праз усё сваё жыццё. Колькі светлых душ адмаўлялася яго несці, спасылаючыся на бессэнсоўнасць намаганняў і гэтым самым апраўдваючы сваю духоўную немач. Колькі людзей гэты крыж прыгнуў да зямлі, колькіх раструшчыў, а колькі скідвалі яго з плячэй на паўдарозе? І, мабыць, толькі адзінкі ўпарта, праз пакуты і боль, знявагу і прыніжэнне ад тых жа, дзеля каго і нясецца гэты крыж, крок за крокам, крывянячы ногі і душы, падымаюцца ўсё вышэй і вышэй. Падымаюцца, загадзя ведаючы, што нясуць свой уласны крыж на сваю ўласную галгофу.

Не бывае рознай Праўды — рознай бывае хлусня. Зменлівая і здольная мяняць сваю скульптуру ў адпаведнасці са зменлівымі ўмовамі сацыялогіі і палітыкі. Божа, у якім свеце мы жывём, што «не забі» і «не сведчы лжыва» да гэтага часу адкрыццё. А тыя, хто зацята паўтарае ісціны, якія не здолелі сцерці тысячагоддзі, лічацца ерэтыкамі. Яны могуць набыць вядомасць, могуць адзначацца прэміямі і званнямі, але галоўнай сваёй узнагароды не атрымаюць ніколі. Князі жыцця ніколі не зробяць іх ідэі жыццёвай ідэалогіяй, а простыя людзі генетычна прывучаны давяраць і верыць тым, хто пры ўладзе і сіле, у лепшым выпадку не заўважаць, а то будуць і ваяўніча наскокваць, калі князі загадаюць. Варта ўспомніць тыя знішчальныя публікацыі і абурэнні ў лістах герояў і генералаў, што суправаджалі ўсю творчасць Быкава. Барані Бог, не для таго, каб упікнуць некага ці абвінаваціць. Бог усім нам суддзя. Зразумець бы толькі. Уявіце, як яны сябе цяпер адчуваюць. Пасля ўсяго, што адбылося і што ўсім нам адкрылася... І пра камуністычны мір, і пра камуністычныя войны.

Мо пакаянне ачысціла іх душы? Ці мо стаяць «на новых рубяжах», як былы ваяўнічы атэіст стаіць сёння ў царкве са свечкай перад светлым лікам Збавіцеля. Стаіць і верыць, што свечка, купленая за сотню «зайчыкаў», і ёсць той масток і тая паходня, што асветліць шлях і прывядзе да ісціны.

Ёсць на свеце парадаксальная, нікім не разгаданая загадка. Чаму людзей, якіх прырода надзяліла дарам прадчуваць, чым адгукнецца ў будучым зробленае сёння, ніколі не слухаюць тыя, хто прымае рашэнні? Гісторыя сотні і тысячы разоў даказвала, на чыім баку праўда ў рэшце рэшт. Тыя, хто нясе на сваім гарбе Крыж Праўды, заўсёды папярэджваюць пра ўсё. У 1828 годзе вялікі Пушкін напісаў:

Беда стране, где раб и льстец
Одни приближены к престолу,
А небом избранный певец
Молчит, потупя очи долу.

За што будзе сорамна? За што давядзецца плаціць, што давядзецца пакутліва адпрацоўваць?

Мне няма з чым павіншаваць Вас, Васіль Уладзіміравіч... Дай Вам Бог здароўя!



● Васіль Быкаў і Пімен Панчанка.

Афармленне Алены ВАШЧАНКІ.

# ГОДНАСЦЬ МАСТАКА

**Алесь ЖУК**

Пісьменнікі звычайна прыходзяць да чытача кнігаю ці творам. Калі згадваецца імя Васіля Быкава, то ў маёй памяці адразу ўзнікае — «Жураўліны крык». І мяне ніхто не пераканае ў тым, што ўсё напісанае пісьменнікам, уключаючы яго апошнія апавяданні ў «Полымі», не прасякнута гэтым несмяротным і журботным крыкам.

А сам Васіль Уладзіміравіч бачыцца худзенькім і рашучым на трыбуне V з'езда пісьменнікаў БССР у 1966 годзе, куды мяне, студэнта, з добрае ласкі правеў Валянцін Тарас. І мне такім чынам удалося пачуць неспадзявана мужныя і смелыя словы ў абарону беларускай літаратуры ад каваных чыноўніцкіх ботаў. Сказанае актуальна і сёння, а тады яно было ўспрынята начальствам як нечуваная дзёрзкасць. Ці не пасля гэтых слоў устаў і пакінуў прэзідыум сам «гаспадар» П. М. Машэраў?



Праз многа гадоў, калі Васіль Уладзіміравіч ужо жыў у Мінску, мне пашчасціла пабыць у яго ў кабінеце, патрымаць у руках паштоўку А. Твардоўскага да гаспадара з цяпер ужо сусветна вядомымі словамі пра тое, што ўсё праміне, а праўда застанецца, пабачыць на фотаздымку сціплы помнічак на брацкай магіле пад Кіраваградам, на якім значылася і прозвішча Быкава... З усіх сустрэч чамусьці найперш успамінаецца тая, далёкая, і другая, адносна нядаўняя. Тады мы вярталіся з Віцебшчыны, спыніліся на кароткі прывал, дзе да нас і прыблукаў заблудзілы, ушчэнт змораны паляўнічы ганчак. Васіль Уладзіміравіч карміў яго з рукі. Фотаздымкі павінны быць ва Уладзіміра Крука...

Не магу не згадаць, пішучы гэтыя радкі, і адно з пасяджэнняў прэзідыума нашага Саюза пісьменнікаў, дзе па ўсталяванаму рэгламенту брэжнеўскага часу слухалі і маю справаздачу як рэдактара «ЛіМа». Відаць, я хваляваўся, бо неспадзявана атрымаў складзены ўдвая аркушык паперы, на якім была намалявана мая бульбашная морда, а замест валасоў на добра прыкметнай лысіне высіліся тры літары «ЛіМ». Шарж гэты быў ад Васіля Уладзіміравіча...

Васіля Быкава гэтулькі лаялі і хвалілі, што да таго і да другога цяжка і дадаваць што-небудзь, каб хто і хацеў. Праўда, лаялі больш дома, а хвалілі ў свеце. У тым вялікім свеце, дзе кнігі Васіля Быкава былі візітнай карткай Беларусі, пра якую не ведаў абывацель нават у еўрапейскай Францыі, не кажучы ўжо пра далёкія ЗША.

У кароткім слове з юбілейнай нагоды не буду сіліцца ацаніць напісанае Быкавым, яго значэнне для беларускай, еўрапейскай ды і ўсёй сусветнай культуры. Пра гэта ёсць і будуць яшчэ спецыяльныя даследаванні, гэтым распарадзіцца ўрэшце яе вялікасць Гісторыя. Але ўжо сёння бясспрэчны прыклад Быкава-пісьменніка, Быкава-грамадзяніна не толькі для сваіх равеснікаў, не толькі для людзей сярэдняга веку, але і для маладзейшага і зусім маладога ўзросту,— прыклад самаахвярнасці і подзвігу ў служэнні сваёй Бацькаўшчыне годнага мастака і сапраўднага сына.

Але дома Быкава працягваюць лаяць. Ужо за высокую грамадзянскую пазіцыю, за прыклад служэння свайму народу, за змаганне за сапраўднае адраджэнне роднай і святой для пісьменніка шматпакутнай Беларусі...

Відаць, і сапраўды няма прарока ў сваёй Айчыне, а вялікае бачыцца здаля. Дома цяжка прызнаць тое, што прызнана ў свеце і пра што сказана як пра само сабой зразумелае. «Великий писатель и страдалец за свой народ Василь Быков»,— натуральна і спакойна гаворыць цудоўны рускі пісьменнік, франтавік, чэсны і сумленны чалавек Віктар Астаф'еў. Дык давайце хоць запомнім і паўторым яго шчырыя і дакладныя словы...

З узростам пачынаеш даражыць, здавалася, самым звычайным у жыцці. І сёння я думаю, як гэта добра, што неспадзявана можна ўбачыць дзе-небудзь у горадзе добра знаёмую постаць у несамавітай, па-хлапчукоўску лёгкай куртачцы, убачыць глыбокія блакітныя вочы, добрую ўсмешку і пачуць спагаднае: «Як жывеш, Алеська?»

Дзякуй за прадчуванне сустрэч і здароўя Вам, дарагі Васіль Уладзіміравіч.

# КОСМАС ВАСІЛЯ БЫКАВА

**Рыгор БАРАДУЛІН**

Космас Васіля Быкава. Ён сілкуе дух беларускае нацыі. Ён дазваляе зрабіць небасхіл нашага слова далёкім і глыбокім, неба слова нашага ўдумлівым і высокім, сцежкі слова нашага прыступнымі й роднымі.

Космас Васіля Быкава недасяжны й хатні. Дык дзе ж усё-ткі пачатак ягоны? З чаго ўтварыўся ён? Чым трывае, чым вабіць і палоніць нас, чым наступнікам стане?

Космас Васіля Быкава шчодра выдаткоўваецца самім стваральнікам. А космас ад гэтага не менее, не бяднее, не прыніжаецца.

А пачатак Васіля Быкава зямны.

Вёска з брыклівым імем на ўшацкай зямлі дала свету й беларускаму чалавецтву (славазлучэнне пісьменніка ўжываю) чалавека, які ўвасобіў сабою сумленне й інтэлект Беларусі. Вёска гэтая Бычкі.

Можа азёры і ў прыватнасці адно з іх — Горадня, дзе яшчэ жылі дубы й не зусім сцерліся сляды паганскага капішча, хвалямі ды чаратамі нашапталі хлопчыку Базыльку пра таямніцы душы чалавечае, пра таямніцы роду людскога.

Можа ўзгоркі, якія на ўшацкай зямлі часцей за ўсё завуцца гарамі, пасадзілі яго на плечы па звычаі бацькі й скіравалі позірк маладога задумёнца ў неба, якое пазней прызнае яго за свайго. (У саміх Бычках ёсць нават Штундаравы горы ў гонар нейкага бычкоўца.) А пасля былі Балканы й Альпы, Забайкалле й Каўказ, горы гора, горы лютасці. Іх дасюль адольвае Васіль Быкаў.

Можа гэта алешнік, які сінеў ад холаду й грэў сабою грубку, ласкавеў ад вясковых салаўёў і казытаў шчымліва маладое сэрца, да матчынай шчырасці й ласкі дадаў чуласці, якой прырода дзеліцца не з кожным. І на чужыне ва ўспаміны й сны прыходзіў алешнік. Як зямляк, як свой.

І калі салдат Быкаў на пачатку вайны мясіў гразь на Украіне, а наўкол, куды ні глянь, гола — дужа ж хацелася яму ўбачыць ушацкі алешнік.

Васіль Быкаў казаў неяк, што трэба глядзець, не як чалавек недзе далёка й высока выглядае, а як дома.

Якраз дома, на радзіме ў душэўна-крэўным значэнні гэтага слова, а не ў халоднадзяржаўным, найболей пазнаецца Васіль Быкаў, ці, лепей сказаць, акрэсліваецца. Тут у галаву прыходзіць, вядома ж, далёкі вобраз, падабенства неадэкватнае й маленькаю драбніцай. У алешніку цёплай веснавой яшчэ маладой ноччу, калі толькі збіраюцца папуляцца, па-ўшацку кажучы, зоркі-вачапоркі, вожык, не адчуваючы нічыіх позіркаў і не чуючы блізкай небяспекі, на нейкі час расшпіліць свой калючы кажух. Вонкава спакойны, як алімпіец, Васіль Быкаў незаўважна для сябе не раз казаў: «Ува мне ўсё затрымцела».

Вайной і пасляваеннаю, надоўга адарваны ад роднага кутка, Васіль Быкаў вяртаўся на зямлю ўшацкую ў сваіх творах. Недзе годзе ў 1984-м прыкладна так казаў вялікі пісьменнік: «Я мала пражыў на гэтай зямлі. Але дзе б я ні быў, са мной былі вобразы гэтага краю, гэта нейкая дарожка, ручаёк, дуб і, вядома, людзі. Заўсёды ў творчасці карыстаемся тым, што заклалі ў нас родныя мясціны, людзі». Родныя мясціны, блізкія людзі жывуць у быкаўскіх кнігах.

І ўшацкая мова, слабейшая ў рэчах як бы чыста ваенных і мацнейшая там, дзе вайна й давайна сутыкаюцца, як прычына й вынік, пачынае пачуваць сябе гаспадыняю. Без падсветкі ўшацкай мовы, думаецца, халадней бы гучаў голас пісьменніка, галасы герояў, бо яны так ці інакш з ушацкае зямлі. Сам аўтар прызнаваўся, да прыкладу, што Сцепаніда — блізкая цётка, якую так і звалі. Зразумела, што гэта не дакладная копія.

Васіль Быкаў носіць у сабе сваю радзіму. І на адной сустрэчы з чытачамі на пытанне, як шмат часу йдзе на збор матэрыялу, адказаў: «Я не гістарычны пісьменнік. Увесь мой матэрыял у душы, у галаве. Прэса, успаміны, кніжкі ўздзейнічаюць. Спецвышукаў не раблю».

Васіль Быкаў помніць гукі й пахі роднае зямлі. І заўсягды, пачуўшы, што еду дамоў, пяшчотна наказвае: «Перадай паклон роднай зямельцы». Прывёз яму было яблык з мамінага саду, і ўспомніў ён, што дома казалі на гэты гатунак грапштына.

Прыходжу да Васіля. Гасцінная Ірына Міхайлаўна падае на стол разам з іншымі, невядома дзе здабытымі ці ашчаджонымі для гасцей, прысмакамі бульбу. Васіль Уладзіміравіч з пасвятлелай усмешкай, з непрыхаванаю радасцю тлумачыць, што гэта бульба з Бычкоў. Яшчэ той гатунак, які рос у маці. Брат Мікола не звёў гатунак.

Нарадзіўся Васіль Быкаў на Тройцу. Свята, калі зямля з небам гаворыць. З Богам у душы йдзе па жыцці народны пісьменнік. Распавядаў, што Усявышні бярог яго. Быў выпадак, калі пісталетам трос перад тварам воіна нейкі смершавец, пагражаючы расстрэлам. Праз колькі гадзін гэтаму цівуну з пагонамі адарвала абедзве рукі.

І калі на Дзевяці днях па Алесю Адамовічу Васіль прапанаваў устаць, пераксціцца і ў думках памаліцца за Алеся, бачыў, як ксціўся Васіль. Натуральна, па-беларуску, бо з маленства гэта, ксціўся. Стоена, урачыста, шчыра.

...Ксцілі Васіля ў Кублічах. Яшчэ засталіся рэшткі царквы. Помніць прозвішча святара — Забэла. Помніць прычасце — салодкую маленькую лыжачку кагору. Затое з каўша паілі гаркатою бальшавікі. І дасюль не шкадуюць яду. Пра нешта смачнае толькі помніцца да калгасаў. А ў калгасе бульба, й той да новай не хапала. Травянікі ў рот не лезлі.

...У Селішчах хадзілі ў касцёл, а перад касцёлам прадавалі дробную смажаную рыбку. Дужа яна тады смачная была!

...У Кублічах сцягвалі крыжы. Пасля ўсё раскралі. З рыз увесь раён насіў цюбіцейкі. Гэтакія ўшацкія мусульмане. З царкоўных фаліянтаў, дзе з вякоў у вякі прамаўляла славянская вязь, рабілі самалёцікі.

Перад вайной у Кублічах камендантам заставы быў Гіль-Радзівонаў. Васіль хадзіў у школу з ягоным сынам.

Ушацкая зямля абудзіла ў юнаку мастака. Перад самай вайной вучыўся ў Віцебскім мастацкім вучылішчы. На вайне алоўкам маляваў. У Вушачы на вуліцы, дзе стаіць наша хата, жыве Марыя Быкава, ураджэнка Бычкоў. Не адзін раз цёпла хвалілася яна, што ў школе яе партрэт маляваў Васіль Быкаў. Шкадуе, што не захавала.

Ушацкая зямля абудзіла ў душы юнака й гнеў. Супроць рэжыму. І гнеў гэты Васіль Быкаў не затушыў у сабе. Прыгадваецца, як у Нідзе (там, прыгадваецца, бачыў у дзюнах над залівам Быкаў зялёны промень) пры размове з мастачкай, якая пабыла вегетарыянкай, а пасля зноў стала мясаежкай, беларускі класік са спакойным гумарам зазначыў: «Вегетарыянства, як сацыялізм — крыху паспытаў, галоўнае ў час пакінуць».

Яшчэ дзе-нідзе ўцалелі прысады, якім наўпраслкі Васіль хадзіў у Вушачу. Як з туману, праступае даваенная Вушача ў нядаўняе аповесці «Сцюжа». Зноў жа гэта не копія. Калі ехаць у Вушачу з боку Полацка ці Менска праваруч таксама крыху засталося ад былога панскага маёнтка ў вёсцы Арэхаўка. Рэшткі прысадаў. Не да канца разбураны панскі маёнтак. І надзвычай гожае возера. Тут быў летам у піянерскім лагеры школьнік Кубліцкае сярэдняй школы Васіль Быкаў.

Мне пашанцавала колькі разоў з'ездзіць з Васілём Уладзіміравічам на радзіму. Вонкава той жа заклапочана-малагаваркі, крыху адчужаны ад самога сябе нават, бо беспрарастанку працуе думка. Але невытлумачна адчувалася, што душою адыходзіць, не раўнуючы, як намарожаныя пальцы ў цёплай вадзе — з марозу ў хату. Дома й сон птушыны: праз кожную гадзіну прачынаецца.

Недзе ў 1982 годзе былі ў Бычках. Былі й на беразе возера Супонец — любімага возера маці Васілёвай. У лесе яшчэ заставаліся знакі ад былой мяжы. Маці, так здарылася пасля падзелу Беларусі, была з Заходняй Беларусі. Хоць гэта фактычна праз возера чаўном улетку ці нагамі зімою можна было трапіць на матчыну дзедзіну. Па-хатняму ўтульна звалася вёска — Завулак. І значыць, маці была на прыкмеце ў чэкістаў-памежнікаў. З сумам распавядаў Васіль Уладзіміравіч пра невясёлы фінал рэвалюцыйна настроеных хлопцаў, якія рваліся ў Савецкі Саюз.

Гутарыў славуты зямляк са старшынёю калгаса. Той крыўдзіўся на надвор'е. На неспрыяльныя кліматычныя ўмовы была абэлка аж да распаду імперыі. Дый яшчэ й цяпер не забылася. Васіль Уладзіміравіч прапанаваў як бы сур'ёзна, што трэба ўвесці адказнага за надвор'е. Старшыня засумняваўся, бачце, ніхто б не пайшоў на гэтую пасаду. Цікава, што пры ўсім нігілізме, пры ўсіх установах зверху ад бацькоў ідэалогіі, што інтэлігенцыя гнілая й лайдачная, старшыня задумаўся: «Відаць, напісаць добры твор цяжэй, чым узараць гектар зямлі?..»

Гэта на Віцебшчыне, казала неяк тэлежурналістка, жанчына з былых рэпрэсіраваных вымяньвае любыя кнігі Быкава на іншыя кнігі.

На шчасце, захаваліся клопатамі маці фотаздымкі. У 1935 годзе невялічкі 4-ты клас Бяляўскай пачатковай школы з настаўнікам С. Р. Троцкім. У першым шаражочку стаіць голагаловы, у паддзёўцы з даўгаватымі рукавамі хлопчык. Позірк прыжмурана-засяроджаны, сур'ёзны. Тут яшчэ незразумела, хто на каго сур'ёзней пазірае, школьнік на жыццё ці жыццё на школьніка. (Мне ўспамінаецца, як дарослыя з нас нязлосна кпілі: замест «школьнікі» называлі «шкоднікі». Не ўкладвалі ў слова палітычнага сэнсу.) А можа жыццё адчувала, што гэты школьнік па часе створыць свой космас. Космас Васіля Быкава.

У 1938 годзе вучань Кубліцкай сярэдняй школы пазірае засамотнена. Кашуля ў палосачку, яўна мама пашыла, начы прыхапіўшы, як і мая некалі. Можа пра гэтую кашулю распавядаў аднойчы Васіль. ...Да вайны прывозілі мануфактуру рэдка. Як свята якое. Давалі па тры метры пайшчыкам. Чэргі. Каб пашыць гарнітур (а гатовыя не прадаваліся), трэба было купіць і матэрыял і падкладку, каб пашылі ў арцелі. Штаны натуральна ў хлапчукоў драліся. Усе ў лапіклах. Не паспявалі лапіклы ставіць. На дарослы розум, і што з таго, а тады гэта душа перашывалася. І трэба было ісці на вечар у школе. Кашулі няма. Маці пашыла з дзвюх шлякатых хусцінак у гарошынку. І адзін шлячок быў відаць, вытыркаўся. Як перажываў, хай бы гэты шлячок не відаць быў, думалі б, што не з хусцінак сшытая кашуля... Чуб, яшчэ непрывыклы да паслухмянасці грабянцу, зачэсаны набок, на прабор. Гэтак, як і цяпер, толькі ўжо ў фотавыявах паўтораны ва ўсім свеце.

У 1940 годзе ў Віцебску з сябрам С. Каліноўскім. У кажушках, у шапках. Аж чуецца ўшацкая народная песня пра жаніха, дзе ўпамінаецца «шапачка-баранкоўка». Пасля ўжо ў дзевяностыя гады скажа Быкаў: «У Віцебск еду з двайным пачуццём. Успамінаецца і стары горад, які я люблю. А на яве зусім іншы, новы горад...»

У Саюзе пісьменнікаў даўно неяк да чарговае даты перамогі зрабілі стэнд, на якім пададзены фота ўдзельнікаў вайны. Як не на ўсіх вайсковая форма ляжыць, як і належыць на карэспандэнтах газет, на штабніках, тылавіках. А па фотаздымку Быкава можна чытаць лёс вайны, лёс чалавека на вайне. І, напрыклад, болей важка за тамінныя даследаванні творчасці пісьменніка скажа фота, на якім малодшы лейтэнант Быкаў з салдатамі свайго падраздзялення на хвіліну запыніўся перад аб'ектывам (сапраўды аб'ектыўным) летам 1944 года.

Колькі тысяч кіламетраў жудаснага ворыва ляжыць за плячыма ў шараговага аратага вайны на фота ў Румыніі ў 1944 годзе, у Сафіі ў 1945-м.

Колькі цеплыні й надзеі, радасці й смутку на сямейным, што называецца, фота ў 1966 годзе ў Бычках. Маці Ганна Рыгораўна, бацька Уладзімір Хведаравіч, сястра Валянціна, брат Мікола, братавая Антаніна.

І ўжо ў 1980 годзе на прызбе сядзяць Васіль Уладзіміравіч з маці. Замілаванне й адчуванне ростані. Гэта тады сказаў ён напаўголаса, гледзячы на маці: «Ручкі, як у птушачкі лапкі...» Сфатаграфаваў Валянцін Ждановіч у вёсцы Ваўчо, што каля Вушачы. Ганна Рыгораўна жыла тады ў дачкі Валянціны, у хаце зяця, майго аднакласніка Шуркі Шымука. Аж чуюцца мне ціхія словы: «Зжылася ўжо... Зямля тут роўная, не трэба на горы гэтыя ўзлязаць... А тут другі свет...».



На фотавыявах запыненыя імгненні, праз шыбіну, захуканую дыханнем хадакоў па дарозе лёсу, глядзіць на абрысы знаёмых і родных людзей той, хто яшчэ застаецца, хто йдзе дарогаю лёсу.

На бацькаўшчыне, у родных мясцінах так і рупіць запытацца, што натхняла, што натхняе майстра, шчыруна, нават, якія сны сняцца, якія на фронце сніліся?

Бог і душа. Вечнасць і міг. Герой і ягоны прататып.

Радзіма — што яна для чалавека значыць?

Зайшоўся гэта я сёлета да Васіля Уладзіміравіча й на сцяне ягонае вітальні ўбачыў абразкі. Мастак-жывапісец пачаў штурхаць пад локаць мастака слова. Пазнаю мясціны. Родная хата ў Бычках. Выгінаючыся й адхінаючыся, як кума з п'янай бяседы дамоў ідучы, раз'езджаная да жывога пяску дарога падымаецца ўгору да хаты цяжка. Можа хоць каля ганка адпачне на хвілю. Абапал дарогі плот таксама падымаецца ўгору, як бы стараючыся падтрымаць дарогу. Плот даўні, ушацкі, ці, дакладней, бычкоўскі. Стаўшы ўдвух, слупы на перавязці трымаюць жэрдзя. Далёкі правобраз прашчы. А побач абразок — возера Горадня. Здаецца, лес у зялёныя прыгаршчы набраў ціхай і густой ад бадзягі й бузы вады, каб памыць аблічча, а тут якраз на ваду гэтую апала светлая аблачына. Як у песні гусі селі-палі на ваду. Пытаюся, ці даўно быў на Горадні, адказвае гаспадар гасціннага кутка, што толькі летась не быў, бо цяжка было з бензінам. А так штогод едзе на радзіму Васіль Быкаў. Казаў жа ён: «З гадамі болей цэнім добрую пагоду і лагоду душэўную...»

А яны там, дзе першым крокам сваім чалавек звярнуў на сябе ўвагу свету, дзе думка прабілася. Як крыніца...

Вечнасць жыцця робіць трывалай думку. Думка спрабуе дапамагчы жыццю затрымацца ў вечнасці.



**Віктар КАЗЬКО**

# СЛОВА, НЕ МОЎЛЕНАЕ

Так, дзесяць гадоў прайшло. Божа, як хутка бягуць яны і як марудна цягнуцца дні. Якія пустыя праходзяць гады і як напоўнены імгненні. Дзесяць гадоў мінула, а колькі ўжо страт. Чэрвень восемдзесят чацвёртага года. Няўжо ён быў, ці не прыдумаў я яго, ці не сасніў?

Яшчэ жывая ўся Беларусь. Яшчэ амаль два гады да 26 красавіка 1986 года — да Чарнобыля.

Яшчэ жывы Зміцер Рыгоравіч Сергіенка, дырэктар рыбгаса «Белае».

Яшчэ жывы Пётр Савельевіч Канапацкі, брыгадзір калгаса імя XX партз'езда.

Яшчэ сем з нечым гадоў да таго, як скане Савецкі Саюз.

Яшчэ амаль дзесяць гадоў да таго, як не стане Алеся Міхайлавіча Адамовіча.

Наша свядомасць яшчэ не зведала значных разрываў у прасторы і часе. Гэта ўсё яшчэ наперадзе.

А тады раскашавала лета, гожае і ўладнае. І ўсе навокал маладыя і дужыя, хуткія на смех і жарты. Васілю Уладзіміравічу Быкаву толькі другі ці трэці дзень на сёмы дзесятак. Жыццё яму зычыць доўгія гады, таму што недзе ў Прыбалтыцы ён пахаваны ўжо жывым у час вайны. Там на абеліску над брацкай магілай выбіта і яго імя.

Алесь Міхайлавіч Адамовіч зусім падлетак часоў свайго юнацкага партызанства. Як пайшоў у чатырнаццаць у партызаны, так да сённяшняга дня і працягвае змагацца. Толькі вось парадокс нашага савецкага часу і ладу, змагаецца ён сёння з вайной: змагар-пацыфіст. Ці не з гэтага ён зараз смяецца, жартуючы, смяецца па-сялянску, як нарабіць конь перад тым, як напяцца і пацягнуць воз ці плуг, ускідваючы без адзінага сівога валаска галаву.

Сарамліва ўсміхаецца захапленню гасцей яго гаспадаркай і Зміцер Рыгоравіч Сергіенка, нібыта нічога яго не тычыцца: ні гэтыя дагледжаныя сажалкі, дзе жыруюць карпы, ні хараство дубровы, якая разлеглася па-над возерам Белым. Ну чым тут захапляцца, дубы як дубы, ён іх не садзіў, самі растуць. І возера як возера. Пярун, здаецца, нейкі стварыў яго ў ледавіковы час. А карпы, што штукараць перад гасцямі,— ён ім не бацька. Ён толькі дырэктар рыбгаса. А ў рыбгасе ўсё ідзе як і належыць ісці. Ніхто яшчэ не ведае і не здагадваецца, што можа быць інакш. Што карп, звыкшы, каб яго кармілі людзі, з галадухі пачне страчваць свой пракавечны інстынкт да размнажэння, зарыецца ў твань і не пакажа свету свайго носа, што гадаваць яго чалавеку будзе не мэтазгодна і накладна, хаця таму ж чалавеку, як кажуць, кітайцу вельмі хочацца есці, але бачыць вока, ды зуб няйме. Неверагодна. Неверагодна, што пісьменнік з сусветным імем, з сусветнай славай будзе зведзены да становішча рабкора: атрымаў ганарар за кніжку, хапіла амаль аж на бак бензіну. Неверагодна, бацькі-дэмакраты, што ў посткамуністычны час прыйшлі на змену камуністам дзеля шчасця карпаў, дзеля шчасця родных дуброў, дзеля свабоды і шчасця таго ж пісьменніка. Толькі ці ж дэмакраты вы? Не, пэўна, як сказаў мой сябра: посткамуністычны час— гэта час, калі камуніст на пасту...

Але ж вернемся на дзесяць гадоў назад, у другую палову чэрвеня: Быкаву шэсцьдзесят, святкуе сусвет. Толькі што адгуло застолле ў Мінску. Раніца другога дня. З тыдзень ці два назад Васіль Уладзіміравіч звярнуўся да мяне, каб я дапамог наладзіць гасцям паездку на Палессе. Карыстаючыся імем Васіля Уладзіміравіча, у той час зрабіць гэта было зусім няцяжка. Хутчэй ганарова, хоць такім чынам быць далучаным да яго. Варта сказаць, што за гонар для сябе ўспрыняў тую паездку і мясцовыя ўлады. Мая роля была самая сціплая і маленькая — узгадніць маршрут і начлег. Я думаю, што гэта добра разумеў і Васіль Уладзіміравіч і толькі сціпласць і далікатнасць, уласцівая наогул беларусу, а ў ім, як у майстру, чалавеку сараматлівым і сумленным, узведзеная ў нешта нават гіпертрафіраванае, не дазволіла яму звярнуцца да тых жа ўлад напрамкі. Хаця, і гэта трэба адзначыць адразу, пра гэта пойдзе гаворка і далей, разам з такой вось сціпласцю і далікатнасцю Васілю Уладзіміравічу ўласціва і велічнасць, нават нейкая дзяржаўнасць. Без усялякай пыхі, зразумела, і мітусні, усё ж справядліва: «служенье муз не терпит суеты» — але ж што ёсць, тое і ёсць. І я пішу пра гэта без асуджэння, хутчэй з радасцю. Калі мы гаворым, што Быкаў — гэта сумленне нашай беларускай літаратуры, то вось такім, на мой погляд, гэта сумленне і павінна быць.

Дзевяць гадзін раніцы. Гасцініца «Юбілейная» — месца збору. На дзіва, пасля ўчарашняга застолля госці дысцыплінаваныя, як салдатынавабранцы. Усе ў зборы, Сяргей Пятровіч Залыгін, Лазар Ільіч Лазараў з жонкай. Алесь Міхайлавіч таксама з жонкай. Васіль Уладзіміравіч з Ірынай Міхайлаўнай. Усе бадзёрыя, усе падцягнутыя, як кадравыя афіцэры, даруйце ўжо гэтую вайсковую тэрміналогію, але на той час я так гэта ўсё ўспрымаў. І праўда, амаль усе яны былыя афіцэры.

Нарэшце можна адчальваць, але няма Данііла Граніна. Высвятляецца, што ў апошнюю хвіліну адмовіўся ад паездкі на Палессе: пільная патрэба быць дома, у Ленінградзе.

Яшчэ адна акалічнасць: у апошні момант убачылі, што ў нашага рафіка спусціла кола. Падрабязнасць і сцэнка з нашага літаратурнага жыцця, з таго, што ў нас завецца сацрэалізмам. Жорсткі, але звыклы рэалізм жыцця. Жанчыны напаўжартам, а больш сур'ёзна накінуліся на літфондаўскага вадзіцеля:

— Трэба ж думаць, каго вязеш, цвет літаратуры...

Цвет паблажліва пасміхаўся: што вы, маўляў, кеміце ў нашым літаратурным жыцці. Вадзіцель, разбітны цыганісты хлопец, рагатаў уголас: машыне ўсё роўна, каго везці і пад кім ламацца.

Пад час гэтай амаль што сяброўскай гаманы застаўся ўбаку адзіны толькі, пэўна, Сяргей Паўлавіч Залыгін. Ён адразу ж дастаў з кішэні блакнотік і пачаў нешта ў яго занатоўваць. Вакол віравала гасцінічнае жыццё. Мінск яшчэ быў родны, свой горад, яго яшчэ не захапіў ні Марс, ні Снікерс. Наша дзятва не ведала яшчэ прафарыентацыі, не мыла машын замежнікам. Мінск яшчэ не страціў вартасці беларускага працоўнага горада. Жабрацтва і прыніжанасць былі яшчэ далёка наперадзе.

Сяргей Паўлавіч Залыгін стаяў каля гасцініцы і, раз-пораз ускідваючы, мружачы вока на тых, хто абмінаў яго, не прапускаючы жыцця, і ў той жа час адрачоны ад яго, пісаў. Ён ні на хвіліну не разлучаўся з ручкай і блакнотам і на Палессі. Здаецца, быў толькі адзіны момант за ўвесь час паездкі, калі ён надоўга схаваў свой блакнот і ручку ў кішэню. У роднай мне па дзіцячаму дому вёсцы Вільчы ён прызнаўся жанчынам, што даўно не еў вясковага сала. І сала ўзнікла перад ім як з-пад зямлі. Яно ўвесь час, вядома, было і на стале, але нешта не падабалася Сяргею Паўлавічу ў ім, нарэзаным па-гарадскому, хацелася яму, карцела, каб абавязкова цэлым кавалкам, лустою. І кавалак сала, кілаграм а мо і болей, падбегам прынесла яму Марыя Герасімаўна Канапацкая, мая настаўніца з вільчанскай школы. Прама з кубла, з соллю і кменам, з ружовай прылісінай там, дзе прайшоўся нож.

Вось тады і схаваў у кішэню блакнот і ручку Сяргей Паўлавіч Залыгін. Сеў на высокім ганку перад калодзежам і чарэшняй, нахіліўся, панюхаў тое сала з кменам, узяў у рукі нож і акраец хлеба і пачаў есці. Сівы, проставалосы пад чэрвеньскім ласкавым ветрыкам у гарадскім даволі шыкоўным гарнітуры, сядзеў на ганку вясковай хаты і еў вясковае сала. Еў напоўніцу, ды так смачна, з такім вясковым спрытам і апетытам, што не варта тут ужо і ўзгадваць, у каго пацаклі слінкі. Еў, як ядуць касцы, што могуць за дзень спляжыць гектар і дваццаць пяць сотак сенажаці. Не, зусім не дарэмна ён быў некалі ў маладосці каморнікам... Але гэта я надта ўжо забег наперад. Да вясковага сала нам яшчэ дзвесце пяцьдзесят кіламетраў...

На мяжы Брэстчыны і Гомельшчыны, пазначанай сэрцападобнай глыбай граніту з Мікашэвіцкага кар'ера, нас ужо чакалі. Чакалі, вядома, Васіля Уладзіміравіча Быкава. І, здаецца, зачакаліся. Сустракальнікі, як рабочыя-дарожнікі, толькі ў стракатай святочнай вопратцы, сядзелі каля гранітнага каменя з разасланымі перад імі ручнікамі, выстаўленым на іх хлебам-соллю, нібы самі палуднавалі ўжо. Тут выйшла першая маленькая, а мо і не такая ўжо маленькая няўвязка. Тут аб ёй можна было б і не гаварыць, але справа ў тым, што яна будзе ўвесь час пераследаваць, пэўна, далей. І ёсць у той няўвязцы свой прыхаваны вузельчык, свой карэньчык. Ён у характары і нораве Васіля Уладзіміравіча, з усёй нашай пісьменніцкай брацііі, здаецца, толькі ў яго характары.

Сустракалі Васіля Уладзіміравіча па тым часе і па завядзёнцы таго часу. Трохі напышліва-ўрачыста. І быў у гэтым яўны перабор. Іван Фёдаравіч Карповіч, рэдактар раён-



най газеры, таксама былы франтавік, чалавек, бязмежна закаханы ў Быкава. Хацеў як лепей, каб былі і музыкі, і тыя ж ручнікі з хлебам-соллю, прамовы. Але ён не ведаў Быкава, не ведаў, што ён паламаў не адну такую ўрачыстасць. І тут да слова будзе такі выпадак. У Мінскім палацы прафсаюзаў сабраўся тады цвет савецкай літаратуры. Гаворка ідзе пра пісьменнікаў, заснавальнікаў ваеннай тэмы ў нашай літаратуры. Адзін за адным агучваюцца іканастасы імён. Усе лагодныя, усе задаволеныя, сабраліся пераможцы ў самай жорсткай з войнаў. У ганаровым прэзідыуме сам Пётр Міронавіч Машэраў з Залатой Зоркай Героя Савецкага Саюза. Надыходзіць чарга сказаць слова і Васілю Уладзіміравічу. Па тым ужо, як ідзе да трыбуны, адчуваецца, што слова гэта будзе не зусім звычайнае. Так ходзяць, пэўна, салдаты пад кулямі. Машэраў наструньваецца і як бы ўвесь падаецца да прамоўцы. Васіль Уладзіміравіч займае трыбуну, як салдат акопчык. Гучыць, здаецца, ужо чутае ў гэтай зале. І раптам першае прозвішча заснавальніка ваеннай тэмы — Віктар Някрасаў. Машэраў падымаецца і пакідае прэзідыум. Зала стаіла дыханне. Быкаў працягвае кідаць у залу камяні пад дробны перастук абзацаў першага сакратара.

Вось і тут на мяжы Брэстчыны і Гомельшчыны выйшла нешта падобнае, толькі наадварот. На нейкае няўлоўнае імгненне ствараецца ўражанне, што Быкаву вельмі карціць уцячы, пазбегнуць урачыстасці. Ён імкнецца застацца ў сярэдзіне нашага гурта. Алесь Міхайлавіч выцярэблівае яго, гаворачы нешта накшталт таго, што, маўляў, заварыў гэтую кашу ты, расхлёбвай яе, ты юбіляр — ты і пакутнік, такая ўжо твая доля.

Прабачце мне, Васіль Уладзіміравіч, я думаю, на сённяшні дзень не такое ўжо і горкае было тое пакутніцтва. Даруйце мне і тым людзям, калі яны пакрыўдзілі Вас. Яны сустракалі сусветна вядомага пісьменніка. Літаратуру сустракалі ў Вашай асобе. Сёння так ужо сустракаць, пэўна, не будуць. Сёння ўсе тыя людзі ў ачмурэнні, здранцвенні зусім перад іншай прозай, прозай іншага беспрасветнага жыцця.

І прашу я прабачэння не за людзей. Шчырасць — не нястача, а багацце, і ёй не патрэбны прабачэнні. Было ў той паездцы на Палессе, здаецца мне, у Вашых адносінах да яе нешта іншае, больш прыхаванае, глыбіннае. Сведчаць, што Стэндаль любіў нагадваць такую гісторыю. Недзе ў Аўстрыі, пад Зальцбургам, ёсць саляныя капальні. І жыхары Зальцбурга восенню, калі ападаў з дрэва ліст, любілі ламаць голае вецце і на вяроўцы апускаць яго ў капальні. А вясной падымалі і атрымліваўся букет, які пераліваўся, зіхацеў усімі колерамі вясёлкі, так выкрышталізоўваліся на ім пылінкі солі. Стэндаль захапляўся тымі букетамі і любіў паўтараць: падземная работа страсцей. Вось такая падземная работа страсцей, маркуючы па Вашых творах, заўсёдна і паўсюдна ўласціва і Вам. Яна не адступалася, трымала Вас і ў час паездкі па Палессі. Тым больш, што Вы перад гэтым недзе абмовіліся, што ў задуме ў Вас твор аб Палессі і палешуках. Пісьменнік, празаік такога таленту і напалу, як Вы, заўсёды чорнарабочы, нават за святочным сталом. І таму за тым святочным Вашым, юбілейным, сталом не было гучных слоў, не сказаў ніякага слова Вам і я тады, калі Вы былі на дзесяць гадоў маладзейшыя. Я гавару іх Вам сёння: жывіце, будзьце. Тое ж Вам хацелі сказаць, як здолелі, і ўсе астатнія людзі, якіх Вы сустракалі ў той паездцы.

Дырэктар рыбгаса «Белае» Змітер Рыгоравіч. Хаця ён, здаецца, падобна Вам, быў самы маўклівы на Вашай вечарыне і напярэдадні яе, калі ездзілі па яго гаспадарцы, глядзелі на тую ж замежную рыбу буфало, на айчынных бесцераў і карпаў, на процьму качак і качараў, што плавалі па сажалках, абіралі і елі з куста маліны, якіх таксама была процьма. Было што паказаць без слоў. Трохвядзёрная каструля на стале вараных чырвоных ракаў, горы вяндліны і вяндлёных карпаў. Ды што карпы ды ракі. Папярэднік Змітра Рыгоравіча меў намер пабудаваць пры рыбгасе аэрадром. «Белае — Гомель», «Белае — Мінск», «Белае — Масква», а мо і Парыж. Там жа, гавораць, ракі таксама ў пашане, а што тычыцца асаблівага французскага ласунку — жаб, дык іх на Белым больш, чым мух у Парыжы. ...Было жыццё, а цяпер, пасля Чарнобыля ды яшчэ перабудовы, і жабы, кажуць, зніклі з Палесся.

Гаспадар Белага загіне праз пяць гадоў ад нашай безгаспадарчасці і неахайнасці ў аўтамабільнай катастрофе. Мо ён тады ўжо прадчуваў яе і таму так пільна прыглядаўся і слухаў Вас.

Ад перажывання і болю за калгас праз тры ці чатыры гады сканае былы кулацкі сын, калгасны брыгадзір Пётр Савельевіч Канапацкі. Помніце, у маёй дзетдомаўскай вёсцы Вільча ён падбег да Вас у белым-бялюткім картузіку на галаве, са скуранай афіцэрскай планшэткай цераз плячо, сарамліва прыкрываючы рукою рот са зрэджанымі зубамі. Вось яна, вясковая сялянская шчырасць і непадробнасць. Вось што Вы для звычайнага чалавека, Васіль Уладзіміравіч. Ён папрасіў у Вас Вашу фотакартку. Фотакартку з подпісам Быкава. Ваша фотакартка жыве ў яго дзяцей, а яго самога ўжо няма.

Яшчэ адна дэталь такога ж характару, з пераборам ад шчырасці і чысціні сэрца. Старшыня калгаса XX партз'езда наладзіў сустрэчу на беразе Случы. Прывёз на бераг на грузавіку сталы і крэслы. Ну як жа гэта, сам Быкаў будзе сядзець на голай зялёнай траве. Адамовіч, Залыгін, Лазараў — на траве. Гэта Казько можа — ён свой. А Быкаву і ўсёй кампаніі так хацелася на траву, што іх абурылі тыя крэслы. Яны селі на пасляпаводкавую ласкавую вільчанскую траву і голымі рукамі бралі з карабаў і трускалі першыя ягады трускалкі — клубніцы, што паспелі якраз у час юбілею Быкава. А трапіў ён у самае што ні на ёсць клубнічнае царства. Навакольныя вёскі славутыя сваімі клубніцамі.

Але ж гэта я забягаю наперад. Мы ж яшчэ на Белым. Збіраецца стол, гудзе вечарына. Ракі, карпы,— то на скорую руку. А цяпер вось пачнецца. Госці млеюць ужо ад дзённай стомы, але гаспадары нешта муляюцца, хаця на сталах ужо ўсё і падрыхтавана. І нарэшце, калі ўжо селі за стол, узялі па першай чарцы, перад вокнамі завурчэла, бліснула фарамі і спынілася машына, высветлілася: гаспадары чакалі першага сакратара райкома партыі. Ён прыкапаціў з Мінска. Вучыцца ў ВПШ. Здаў першы ці другі экзамен і ўкінуўся ў машыну: у яго ж раёне Быкаў. Што з таго, што заўтра залік, яго можна атрымаць і пазней, а Быкаў паедзе ўжо.

Але трэба быць шчырым, з песні, як гавораць, слова не выкінеш, гасцям не вельмі даспадобы прыйшлося з'яўленне афіцыйнай асобы, тым больш партыйнага функцыянера, асабліва, здаецца, самому Быкаву. Толькі наладзіліся на простую гаворку, звычайную сяброўну, а тут патыхае ўжо этыкетам. Васіль Уладзіміравіч адчувана замкнуўся, твар яго абвастрыўся і набыў, як гавораць, дзяржаўную важкасць. Не, Быкаў усё ж ёсць Быкаў, і не варта яго спрашчаць, бо не простыя яго творы, і тая вышыня, якую ён займае, мо недзе і клятая ім самім вышыня...

Але тады, на маю думку, дарэмна было так, дарэмна. Зусім не функцыянер быў перад вамі, былы вясковы настаўнік...

Два белых катэры слізгаць па Прыпяці, па леце і вадзе Леты. І вада тая ўжо ўпала ў Лету, сцякла, збегла, адбыла сваё. Сёння Прыпяць — галоўная атамная рака Еўропы. Але тады яшчэ да Чарнобыля два гады. Толькі што скончылася паводка. І Прыпяць, падобная на парадзіху, маладую маці, што шчасліва разрадзілася дзіцём. Ля берагоў на ўгрэтай сонцам вадзе гуляюць яе дзеці — маляўкі ляшчоў, шчупакоў, язёў, акунёў і плоткі. Сярод іх яшчэ няма драпежнікаў. А сонца грэе аднолькава ўсім. Па рудаватай прыпяцкай вадзе сярод палескіх балот бягуць два белыя катэры да княжа-Турава. На першым з катэраў паасобку ад усіх, бліжэй да носа катэра, да штурвала сядзіць Васіль Уладзіміравіч Быкаў. Ён едзе ў старажытны Тураў, каб парадніцца з ім. Там, недзе прыхаваная ў зеляніне летніх садоў стаіць бальнічка. Страшная, зусім не княжацкая, сучасная бальніца. У хірургічным пакоі іншым разам паскокваюць улетку і жабы. Бальніца — боль людскі.

Боль і яго, Васіля Уладзіміравіча Быкава, віцебскі, палескі — наш беларускі боль у хворай краіне, сярод хворых людзей. Праз некаторы час жыткаўцы, тураўцы абяруць Васіля Уладзіміравіча дэпутатам Вярхоўнага Савета. І з тым болем Быкаў сутыкнецца вока на вока. Наказ выбаршчыкаў свайму дэпутату: пабудаваць у Тураве прыстойную бальніцу. І ўжо не на белым катэры будзе ўязджаць ён у старажытны, драўляны княжа-Тураў. Паедзе і на прамаржаным аўтобусіку, але бальніца будзе пабудавана. Ды гэта яшчэ наперадзе. Шмат чаго наперадзе і тады, і цяпер. А пакуль што Васіль Уладзіміравіч Быкаў на белым катэры па чыстай яшчэ вадзе маці-Прыпяці едзе ў старажытны княжа-Тураў, побач з ім малады яшчэ Алесь Адамовіч. Пасміхаюцца, жартуюць.

На гэтым паставім не кропку, а шматкроп'е...



# ДЗЕСЯЦЬ ГАДОЎ НАЗАД



● Сяргей ТКАЧЭНКА. (Санкт-Пецярбург.)

Партрэт народнага пісьменніка Беларусі Васіля Быкава.

нават калі яна гарчыць у душы перажытым, пераадоленым і не пераадоленым, нагадваючы, што нельга перамагчы аднойчы і назаўсёды, што трэба перамагаць штодня, штоміг — зноў і зноў. Гэта цяжка. Гэта неймаверна цяжка і патрабуе мужнасці. Мужнасці, на якую здатныя нямногія. Адзінкі. Часта — адзін.

Сем нялёгкіх дзесяцігоддзяў — сем вогненных, балючых адмецін часу — сем прыступак да сябе сённяшняга... А кожную ж Васілю Быкаву даводзілася браць з бою — праз напружаную барацьбу, праз супрацьстаянне тым, хто ўсе гэтыя дзесяцігоддзі прысвойваў сабе права вырашаць за ўсю нацыю — і бэсціў гісторыю народа, нішчыў яго мову, ваяўнічаю хлуснёю атручваў яго заступнікаў. Супрацьстаянне,— як бы і якімі б словамі ні адхрышчваліся ад нядаўняга мінулага яго валадары і служкі,— працягваецца і сёння. І ўсе, хто любіць Беларусь, хто верыць у яе будучыню, па-ранейшаму — у самыя нялёгія хвіліны — чакаюць слова Быкава, учынку Быкава, прыкладу Быкава. Гэта — больш чым прызнанне. Гэта — прыцягненне сілы, вялікай маральнай сілы, якая адна і можа аб'яднаць народ.

Не ўмелі і не ўмеем прызнаць гэта перад цэлым светам? Не спяшаліся, не спяшаемся падставіць, калі трэба, сваё ўласнае плячо і аблягчыць хоць бы адзін крок свайго мужнага суайчынніка? Не, не і спрабуем скарыстаць свае, не адпаведныя ні яго мужнасці, ні яго таленту, меркі? Усё так. Усё, на жаль, так. Адно, што ўзятая Быкавым вышыня па-ранейшаму недасягальная, усіх — кожнага, хто міжволі, часта падсвядома імкнецца суаднесці сваё жыццё з быкаўскаю мераю чалавечнасці, з быкаўскаю мераю адказнасці за ўсё, што адбылося ці не адбылося, змушае азірацца на яе. Азірацца — і на якую хвіліну-другую замаруджваць крокі, задумвацца: ці правільна выбраны кірунак? Ці тым шляхам ідзём? Ці не занадта лёгкая ношка за плячамі ў кожнага ў такі складаны час?

Адказ знойдзецца. Абавязкова знойдзецца! Іначай і быць не можа — таму што ёсць **вехі** Быкава, **кнігі** Быкава, **спадзяванні** Быкава. Спадзяванні на ўсіх нас, ягоных сучаснікаў і наступнікаў. Спадзяванні на народ.

Удзячнасць народа вымяраецца, будзе вымярацца не сённяшнім днём, не сённяшнім векам. Я разумею... І ўсё ж, словы ўдзячнасці яму, Васілю Быкаву, вялікаму пісьменніку, мужнаму сыну зямлі нашае, і сёння гучаць не адно ў маім сэрцы. За мною — калектыў і аўтары часопіса «Беларусь», за ўсімі намі — Беларусь.

Дзякуй, Васіль Уладзіміравіч! Нізкі, зямны паклон Вам!

Таіса БОНДАР.

Фота Яўгена КОКТЫША.



● Васіль Быкаў у час рэпетыцыі балета «Альпійская балада».

● У майстэрні Паплаўскага.



**ЧАСАМ Я СІЛЮСЯ ЎЯВІЦЬ, ЯК ПАВІННЫ ВЫГЛЯДАЦЬ ЗАЛЫ СЯРЭДНЯВЕЧНАГА ШЛЯХЕЦКАГА ПАЛАЦА. ВЫСОКІЯ СУТАРЭННІ. ВІТРАЖЫ. ЗБОРЫ ВЫКШТАЛЦОНАЙ ЗБРОІ НА СЦЕНАХ. А ЯШЧЭ — АБАВЯЗКОВА — ПАРТРЭТЫ СЛАЎНЫХ ПРОДКАЎ. І — ГАБЕЛЕНЫ. БЕЗ ІХ Я НЕ ЎЯЎЛЯЮ САПРАЎДНАГА ПАЛАЦА. ТОЛЬКІ ЯНЫ МУСЯЦЬ НАДАЦЬ ХАЛОДНЫМ КАМЕННЫМ ПАКОЯМ ПАЧУЦЦЕ ЎТУЛЬНАСЦІ, ЦЕПЛЫНІ, ЖЫЦЦЁВАЙ СУЛАДНАСЦІ.**

На жаль, палацаў, у якіх цеплілася б спадчыннае жыццё, на Беларусі не захавалася. Ці акрыяюць старабеларускія роды! Ці ўсталюецца на радзіме немітуслівы, заможны, трывалы лад жыцця!

А пакуль няма на Бацькаўшчыне нічога надзейнага, сталага, святога, няма даху над галавой. Усе і ўсё бадзяецца, сноўдаецца, жабрачыцца. Асабліва ў жахлівым становішчы тое, што непасрэдна звязана з заможным, спадчынным жыццём — традыцыі, звычаі, этычныя нормы, мастацкія густы, творы сапраўднага мастацтва. Габелены — з гэтага шэрагу рэчаў. Яны не могуць існаваць у хранічна жабрачым грамадстве. Ім не хапае паветра, «жылой плошчы», чалавечай увагі. Наша хворае грамадства ігнаруе габелены, успрымае іх як нешта чужароднае або як нейкі хамут на сваёй нядошлай шыі.

Наваполацкая габеленшчыца Таццяна Козік з маімі думкамі згаджаецца. Хаця прызнаецца, што развагі гэткага кшталту заўсёды настойліва гоніць ад сябе, маўляў, інакш рукі не паднімуцца працаваць. Развагі развагамі, але існуюць і факты. У родным горадзе габеленшчыцы зала ўрачыстасцяў «Новапалачанка», над аздабленнем якой яна працавала больш за год, летась была па-варварску разгромлена новымі гаспадарамі — у гэтым памяшканні вырашана размясціць аўтамабільны салон. Што сталася з працамі Таццяны, дасюль невядома. Толькі адзін габелен, які ўпрыгожваў залу, каштуе ў цывілізаванай краіне больш чым прывабна-зіхатлівы замежны легкавік.

Вось адна з прычын, чаму беларускія габеленшчыкі ўсё больш пачынаюць працаваць на замежжа. Там — увага, захапленне, грошы, тут — нэндза, здзекі, гвалт. Вінаватага не знойдзеш, кожны адказны кіраўнік пералічыць у апраўданне сотні сваіх праблемаў і бедаў. І ты яму будзеш толькі спачуваць.

Таццяна Козік любіць ткаць вялікія рэчы. Мінулай зімой яна пачала новы габелен. У майстэрні працаваць зімой халодна, таму мастачка перабралася ва ўласную кватэру. У цесным пакоі — дзесяткі шпуль нітак. Дзень за днём яны «худнеюць», а габелен «расце». Пэўна, не кожны аматар мастацтва ведае пра ўсе падрабязнасці творчага працэсу ткацкага мастацтва. Гэта — не толькі натхненне і мятлікавае блуканне з кветкі на кветку, але ж і праца, часам вельмі цяжкая. На вуліцы халодна, і ў кватэры няцёпла. Стамляюцца вочы. Мерзнуць рукі.

Недзе чытаў, што галоўнае ў жыцці — не астыць душой. Надзея абавязкова мусіць быць. А тым больш, калі адпачылі і сагрэліся рукі, ізноў пачынаецца чараванне спрытных пальцаў над вясёлкаю пульхнай пражы. Ці выпадзе новаму твору годнае жыццё? Таццяна верыць, што абавязкова ўзновяцца палацы, а калі вернуцца слаўныя продкі, то ў яе ім будзе што паказаць. Дай Божа, каб да таго часу не забылі рукі пра цяпло спрадвечнага мастацтва.

**Алесь ЗАРЭМБА.**
Наваполацк.

# «І ТЧЭ, ЗАБЫЎШЫСЯ, РУКА...»



● «Поле сумоўных кветак». Частка першая.



● «Хваля ў блакітнай прасторы».

● Габелен з былой залы ўрачыстасцяў «Новапалачанка».





# *Мечыслаў ГРЫБ:*

# «БЕЗ ВЫРАШЭННЯ ПЫТАННЯ АБ ДЗЯРЖАЎНЫМ УЛАДКАВАННІ МЫ НЕ ЗДОЛЕЕМ ВЫБРАЦЦА З КРЫЗІСУ...»

НЕКАЛЬКІ ШТРЫХОЎ ДА ПАЛІТЫЧНАГА ПАРТРЭТА СТАРШЫНІ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

***На** трынаццатай сесіі Вярхоўнага Савета РБ дэпутаты, аказаўшы недавер Станіславу Шушкевічу і большасцю галасоў вызваліўшы яго ад абавязкаў спікера парламента, кіраўніком Вярхоўнага Савета абралі Мечыслава Грыба.*

*Мечыслаў Іванавіч Грыб нарадзіўся ў верасні 1938 года ў вёсцы Савічы Дзятлаўскага раёна Гродзенскай вобласці. Ён прафесіянальны юрыст, закончыў юрыдычны факультэт Белдзяржуніверсітэта. З 1959 года працаваў на розных пасадах у праваахоўных органах рэспублікі. У 1985 годзе ўзначаліў упраўленне ўнутраных спраў Віцебскага аблвыканкома. Генерал-лейтэнант міліцыі ў запасе.*

*У 1990 годзе выбраны народным дэпутатам Рэспублікі Беларусь ад Віцебскай-Савецкай выбарчай акругі № 178. З 1990 года — член Прэзідыума, старшыня Камісіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па пытаннях нацыянальнай бяспекі, абароны і барацьбы са злачыннасцю.*

*Жанаты, мае дваіх дзяцей. Жонка працуе бухгалтарам. Сын урач, кандыдат медыцынскіх навук, дачка — студэнтка.*

## «Мы будзем арыентавацца на Усход»

*...У рэспубліцы разбурана старая сістэма ўлады, а новая не створана. Без вырашэння пытання аб дзяржаўным уладкаванні мы не здолеем выбрацца з крызісу, куды б ні накіроўвалі свае намаганні: на Усход або на Захад.*

*...Я не лічу, што мы павінны будаваць капіталізм. Я не лічу, што павінны будаваць камунізм. У нас ёсць свае перавагі, у нас ёсць свае «за» і «супраць», мы павінны будаваць новае грамадства з улікам і нашых пераваг — тых, якіх у «іх» няма. У прыватнасці, дзяржаўная ўласнасць і кааператыўныя гаспадаркі — гэта таксама наша перавага. Капкраіны не могуць сабе гэтага дазволіць, а мы быццам бы на першым часе ці хтосьці з нас хочам ад гэтага сёння адмовіцца... Гэта будзе няправільна.*

*...У пытаннях развіцця прамысловасці мы прытрымліваемся арыентацыі на Усход — на аб'яднанне грашовых сістэм і адзіныя цэны.*

(З выступлення на нарадзе прадстаўнікоў мясцовых і заводскіх камітэтаў Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі).

## «У Шушкевіча шмат добрых якасцяў, але...»

*...Як у чалавека і кіраўніка ў Станіслава Станіслававіча шмат добрых якасцяў. Але мы разышліся па палітычных напрамках. У першую чаргу, у пытанні аб адносінах Беларусі да Калектыўнай Бяспекі краін СНД...*

*Застаецца дадаць, што новы спікер мае дачны ўчастак ў Ждановічах. Мае машыну «Жыгулі». Вельмі багатую хатнюю бібліятэку. Праўда, асвойваць яе, па ўсёй верагоднасці, давядзецца ўжо дзецям і ўнукам — у самога вельмі мала часу. Нават на тое, каб чарговы раз судзіцца з журналістамі газеты «Свабода», якія вядуць на яго «паклёпніцкую атаку».*

*Не сакрэт, што нечаканае абранне генерал-лейтэнанта Старшынёй Вярхоўнага Савета многіх здзівіла. Але здзіўленне прайшло і палітычныя партыі пачалі даваць ацэнку перамэнам. Да прыкладу, нягледзячы на тое, што М. Грыб заявіў аб сваёй лаяльнасці да апазіцыі, сацыял-дэмакраты, Народны фронт і некаторыя іншыя арганізацыі так званага дэмапатрыятычнага накірунку заявілі аб тым, што рэспубліка коціцца да добраахвотнай здачы суверэнітэту.*

*Сёння, на наш погляд, цяжка даваць ацэнкі і рабіць прагнозы. І ўсё ж нават па выказваннях М. Грыба можна меркаваць аб тым, што пэўныя карэктывы курсу дзяржаўнага карабля павінны адбыцца.*

*Пажывём — пабачым.*

Фота Мікалая АМЕЛЬЧАНКІ.

# «Мы хочам дапамагчы вам стаць часткай новай дэмакратычнай Еўропы»





## Біл Клінтан на Беларусі

ПРАМОВА ПЕРАД БУДУЧЫМІ ЛІДЭРАМІ КРАІНЫ Ў АКАДЭМІІ НАВУК

Я рады, што знаходжуся тут, у вашай Нацыянальнай акадэміі навук, разам з прадстаўнікамі майго ўрада і прадстаўнікамі вашага. Але найбольш я рады тут бачыць так шмат маладых людзей, таму што менавіта пра вашу будучыню я хачу гаварыць сягоння.

Я хачу падзякаваць Старшыню Шушкевіча за запрашэнне і прапанову сустрэцца з вамі. Старшыня з'яўляецца лідэрам, якому ўласціва сапраўдная мужнасць: ён прама гаворыць пра страшны ўрон, нанесены Чарнобылем, і ён узначальвае рэформы ў вашай дзяржаве. І сёння я рады быць з ім тут.

Я хацеў пабываць у Беларусі, бо мяне ўзрушыла шмат з таго, што вы зрабілі, і таму што я веру: вы можаце і зробіце яшчэ больш. Вашаму пакаленню дадзена мажлівасць стварыць моцную і вольную нацыю. Нягледзячы на тое, што сёння ў вас цяжкі час, у вас ёсць добрыя шанцы, каб пабудаваць лепшую будучыню. Вы знаходзіцеся на ростанку кантынентаў. У вас высокаадукаваны народ і добрыя вышэйшыя навучальныя ўстановы. У вас добрая, моцная прамысловасць, якая мае высокія тэхналогіі. І самае галоўнае, вы зноў набылі свабоду, і ваш лёс сёння ў вашых руках.

І цяпер вы павінны вырашаць: што рабіць са сваёй краінай і сваёй будучыняй. Хачу запэўніць вас, вы не адзіныя, перад кім стаіць гэтае пытанне. Бо сёння — час глыбокіх перамен ва ўсім свеце. Паўсюль нацыі сутыкаюцца як з неабходнасцю вызначаць сваю будучыню, так і з выклікам, што кідае ім планета, ахопленая тэхнічнымі, эканамічнымі і палітычнымі пераменамі.

Сёння паўсюль дзяржавы павінны вырашыць пытанне, як канкурыраваць у сусветнай эканоміцы; як заахвочваць і падтрымліваць працавітыя сем'і і іх дзяцей; як зрабіць свае ўрады больш эфектыўнымі ды больш гібкімі; як справіцца з такімі сацыяльнымі праблемамі, як беспрацоўе, няроўнасць, злачыннасць; як паяднаць культурныя і духоўныя традыцыі з патрабаваннямі сучаснага жыцця; як вызначыць, што такое бяспека і веліч нацыі ў новую эру, калі грошы, інфармацыя і тэхналагічныя ідэі перамяшчаюцца па ўсёй планеце ў тысячныя долі секунды, калі, як мне здаецца, пра нас будуць меркаваць хутчэй

па тым, ці можам мы садзейнічаць поўнаму развіццю здольнасцяў кожнага мужчыны і кожнай жанчыны ў пэўнай краіне, а не па тым, ці можам мы ўказваць іншым народам, што рабіць ды як жыць.

Я прыехаў сюды не дзеля таго, каб указваць вам, якімі павінны быць, на маю думку, адказы на гэтыя пытанні для вашай краіны і вашай будучыні. Гэта толькі вам вырашаць. Я прыехаў сюды як друг, які падтрымлівае дэмакратычныя і эканамічныя рэформы, пачатыя ў вашай краіне. Я прыехаў, каб прадэманстраваць сваю падтрымку гэтым рэформам і вашай рашучасці ўзвесці лепшую, больш надзейную ды больш трывалую будучыню — дзеля вашай краіны і дзеля ўсяго гэтага рэгіёна.

Рэфарматарская праца, якую вы распачынаеце, мае і больш шырокі сэнс. Бо тое, што вы робіце ў сябе, можа натхніць і іншыя краіны, якія сутыкнуліся з тым жа выклікам. Гэта можа садзейнічаць пабудове больш шырокай Еўропы, не падзеленай, а паяднанай — паяднанай дэмакратычнымі ўрадамі, рыначнай эканомікай, мірным суіснаваннем ды павагаю нацыянальных межаў.

Калі мы зможам дасягнуць такога кшталту інтэграцыі паўсюдна ў Еўропе, на ўсходзе і на захадзе, дык зможам зрабіць і Еўропу, і Амерыку больш бяспечнымі ды больш працвітаючымі. Ваша нацыя, якая страціла ў часе другой сусветнай вайны кожнага чацвёртага свайго грамадзяніна, несумненна, лепш за любую іншую нацыю на зямлі павінна ведаць, які страшны кошт заплацілі еўрапейцы за свае пастаянныя рознагалоссі — не толькі ў дзвюх войнах XX стагоддзя, але і ва ўсёй гісторыі еўрапейскіх дзяржаў.



Сёння ўпершыню ў нас ёсць шанц пабудаваць Еўропу непадзельную, дзе ўсе краіны паважалі б граніцы адзін аднаго, усе краіны — захоўвалі дэмакратычныя традыцыі ўлады большасці ды паважалі правы асобы і меншасцей, усе краіны — свабодна гандлявалі адна з адной і дапамагалі адна адной дасягаць сапраўднае велічы праз развіццё талентаў сваіх народаў.

...Вы атрымалі ў спадчыну эканамічную сістэму, навязаную вам зверху. І, шчыра кажучы, яна пакінула вам неадназначную спадчыну. З аднаго боку, яна, несумненна, дапамагла аднавіць Беларусь пасля разбурэння другой сусветнай вайны. Але гэтая ж самая сістэма цэнтралізаванага планавання наўрад ці адпавядае варункам хутка зменлівай глабальнай эканомікі.

Гэта відавочна паўсюль. Па ўсім свеце, на кожным кантыненце маюць поспех менавіта тыя людзі, якія жывуць ва ўмовах эканомікі, дзе капіталаўкладанні і высокакваліфікаваная працоўная сіла ствараюць магчымасць для вытворчасці высакаякасных тавараў і паслуг і продажу іх як унутры краіны, так і за яе межамі.

Таму вы сёння апынуліся перад выбарам лепшага, што ўласціва вашай эканоміцы, вашаму высокакваліфікаванаму народу, вашай развітай прамысловасці, і зменамі ў адпаведнасці з патрабаваннямі гэтай глабальнай канкурэнцыі. Гэта цяжкі пераход. Практычна паўсюль, дзе спрабавалі зрабіць гэта, як і вы, сутыкнуліся, апроч усяго іншага, з нястрымнай інфляцыяй — вы бачылі гэта летам, калі падняліся кошты на мяса і масла.

У выніку гэтай інфляцыі шмат хто быў вымушаны рабіць намаганні, каб выжыць. Самым жорсткім чынам інфляцыя б'е менавіта па тых людзях, якіх любая эканамічная сістэма павінна заахвочваць і дзячыць найбольш, па тых, хто проста падымаецца ўранку і спяшаецца на працу, не парушае законаў і робіць сваю справу.

Аднак ёсць падставы і для надзеі, паколькі чым большую частку сваёй эканомікі вы прыватызуеце, чым большая яе частка будзе функцыяніраваць ва ўмовах рынкавай сістэмы, тым больш будзе падстаў у

людзей класці на яе сродкі і спрыяць шпарчэйшаму эканамічнаму росту. Планы ўрада прыватызаваць сёлета 20 працэнтаў дзяржаўнай уласнасці, мяркую, з'яўляюцца крокам у правільным накірунку.

Злучаныя Штаты хочуць падтрымаць такога кшталту перамены. З часу, калі вы сталі незалежнымі, мы аказалі вам дапамогу прадуктамі харчавання, медыкаментамі і іншым на суму звыш 150 мільёнаў даляраў. У часе цяперашняга візіту я абвясціў пра дадатковыя захады па садзейнічанню вашаму поступу да рынкавай эканомікі: стварэнне бізнес-цэнтра тут, у вашай краіне, каб садзейнічаць каардынацыі бізнесу як у вашай краіне, так і за яе межамі, не толькі з маёй краінай, але і з усім светам; новы рэгіянальны фонд прадпрымальніцтва, каб дапамагаць запачаткоўваць новую справу: ён будзе ўключаць Беларусь, Украіну і Малдову; Амерыкана-беларуская дамова аб інвестыцыях, каб садзейнічаць разгортванню прыватнага гандлю і капіталаўкладанню паміж нашымі дзвюма краінамі.

Урэшце ваш поспех у эканоміцы будзе



залежаць ад вашых намаганняў. Але вам трэба мець добрых суседзяў, якія хочуць стаць добрымі партнёрамі. Злучаныя Штаты хочуць быць адным з іх. І я ўпэўнены: няма тых прычын, каб Беларусь заставалася ў хвасце гэтага поступу да глабальнай эканомікі. Я настойліва раю вам працярэбліваца наперад і рэалізоўваць гэтыя эканамічныя рэформы; рабіць гэта па мажлівасці самым разумным і ўразумелым чынам; вучыцца на вопыце іншых краін, таму што я ўпэўнены, што ў гэтым ключ да лепшае будучыні.

Вы таксама знаходзіцеся перад настойлівасцю палітычнага пераходу. Накшталт таго, як сучаснай эканоміцы не абысціся без апірышча на прадукцыйную сілу кожнага асобнага чалавека, так і сучасныя дзяржавы — яны не могуць не грунтавацца на разнасці і самавітасці светапогляду ўсіх сваіх грамадзян. Грамадства больш не можа добра функцыянiраваць, калі ім камандуюць зверху. Яно мае патрэбу ў актыўным удзеле кожнага індывіда.

Калі галасы і думкі ўціскаюцца аўтарытарнай сістэмай, закрытай палітычнай сістэмай альбо іх не чуваць з-за апатыі саміх грамадзян, як гэта сёння адбываецца ў шматлікіх дэмакратыях (проста таму, што людзі не выходзяць з дому і застаюцца ўбаку ад палітычнага дыялога), тады знікае мудрасць, дэбаты становяцца пустымі, ад цяжкасцяў ухіляюцца, замест таго, каб сустрэць іх твар у твар,— і ўрэшце тыранам лягчэй захапіць альбо ўтрымаць уладу ў сваіх руках. Мы ведаем, куды вядзе гэты нягодны шлях. Ён вядзе да застою ў эканоміцы і да сацыяльнай нецярпімасці.

...Найбольшую надзею на эканамічнае абнаўленне падае палітычнае браджэнне, што поўніць свядомасць вашых людзей. У вас ёсць новыя палітычныя плыні, такія як Беларускі народны фронт. Я быў рады сустрэцца сёння з прадстаўнікамі некаторых з іх. У вас ёсць групы па абароне навакольнага асяроддзя, якія сфарміраваліся пасля чарнобыльскай катастрофы. Групы такога кшталту побач з вольнымі прафсаюзамі, асацыяцыямі бізнесменаў і гэтак далей могуць садзейнічаць стварэнню культуры зносін, дыскусій, асабістага ўкладу ў будучыню вашай нацыі. Гэтыя прыватныя асацыяцыі вельмі важныя, амаль настолькі ж важныя, як і правы голасу ў часе выбараў.

...Няма лепшага прыкладу, чым ваша рашучасць стаць бяз'ядзернай дзяржавай. З таго часу як я стаў прэзідэнтам Злучаных Штатаў, я поўны гатоўнасці працаваць з іншымі ядзернымі дзяржавамі, найперш з Расіяй, каб дапамагчы іншым рэспублікам былога Савецкага Саюза стаць бяз'ядзернымі; і мы ўжо фінансуем гэты працэс. Беларусь зрабіла першы крок, і вы заслугоўваеце даверу і ўдзячнасці грамадзян усяго свету.

Тут знаходзілася 76 ядзерных боегаловак, калі распаўся Савецкі Саюз. Адным з першых вашых рашэнняў у якасці новай дзяржавы было рашэнне пакончыць з імі. Было б куды лягчэй успомніць мінулае і сказаць сабе: о, гэтыя 76 боегаловак увогуле робяць нас вялікай дзяржавай; яны робяць нас мацнейшымі, мы захаваем іх, мы будзем выкарыстоўваць іх і пагражаць імі, калі нам не будуць дапамагаць або не рабіць тое, што мы хочам. Вы, аднак, зрабілі больш мужны і лепшы выбар — стаць бяз'ядзернай краінай.

Упэўнены, што трагічны вопыт Чарнобыля дапамог зрабіць гэты выбар. Але я таксама мяркую, што вельмі многія з вас цудоўна разумеюць, што гэтая зброя, якой бы магутнай і застрашальнай яна ні была, не так і шмат значыць у плане рэальнай бяспекі. Рэальная бяспека заключаецца ў інтэграцыі з вашымі суседзямі — у павазе іх палітычных і эканамічных каштоўнасцяў, іх межаў.

Такім чынам, ваш вольны выбар у тым,

каб пазбыцца гэтае зброі. Вы сталі першымі з новастворaных дзяржаў, хто ратыфікаваў дамову СНУ і далучыўся да дамовы аб нераспаўсюджанні ядзернай зброі. У пэўнай меры менавіта таму я быў так рады вітаць старшыню Шушкевіча ў Вашынгтоне ў ліпені мінулага года, у самым пачатку майго знаходжання на пасту прэзідэнта. Я хацеў выказаць сваё захапленне мужнасцю і дальнабачнасцю, якія ён і ўсе вы прадэманстравалі, калі зрабілі выбар на карысць бяз'ядзернага статуса.

Мы абавязаліся дапамагчы вам прадэманстраваць усяму свету, што гэта быў правільны выбар, што вы ствараеце новую і лепшую бяспеку. Мы дапамагаем вам без рызыкі пазбыцца гэтае зброі і даём тэхнічныя кансультацыі па бяспецы. Вы перажылі ўжо адну ядзерную трагедыю. Мы поўныя рашучасці не дапусціць для вас яшчэ адну.

...Паколькі вы развітваецеся са зброяй ранейшай сістэмы бяспекі, мы хочам дапамагчы ўладкаваць вам новую бяспеку, дапамагаючы вам стаць часткаю новай і дэмакратычнай Еўропы.

...Сёння вы апынуліся сам-насам з праблемай, якая вымагае поўнай самаахвярнасці,— ажыццяўлення палітычнага і эканамічнага пераходу. Ён нагэтулькі выпрабоўвае вашы сілы, што можа нават дэзарыентаваць. І калі вы прыйдзеце да выбараў, на што я маю спадзеў і аб чым я малюся, вы ўбачыце, што, калі людзям цяжка, разам з іхнімі надзеямі часам галасуе і іхняе расчараванне. Сёння гэта можна сказаць і ў дачыненні да Злучаных Штатаў, а мы ж працуем над гэтым ужо дзвесце гадоў.

Але другой альтэрнатывы няма: за рулём павінен быць народ той ці іншай дзяржавы... У сённяшнім свеце так шмат адбываецца ў эканоміцы, палітыцы, культуры, перамены такія імклівыя, што не можа толькі адна група людзей наверсе прымаць рашэнні, дастатковыя для забеспячэння паўнацэннага жыцця для ўсіх, хто жыве ў гэтым грамадстве.

Таму я перакананы, што свабодныя палітычныя і свабодныя эканамічныя сістэмы таксама ўяўляюць сабой добрую сістэму для свету, у якім мы жывём, і для свету, у якім будзем жыць у XXI стагоддзі ў агляднай будучыні. Перад вамі магчымасці такія ж маштабныя, як і ваша зямля. Новая свабода, якую вы ствараеце, нясе шмат цяжкасцяў, але яна ж дазваляе тварыць цуды. Яна зробіць вашы гарады прыгожымі і развітымі, яна зробіць вашу зямлю квітнеючай. Самае важнае, яна можа даць рэальную надзею тым цудоўным дзецям, чые рукі я паціскаў некалькі хвілін таму.

Калі вы возьмецеся за гэтую цяжкую работу, каб паяднаць гэтую новую свабоду з вашай багатай культурай, вашай гісторыяй, вашымі смелымі марамі, вы, спадзяюся, не забудзеце, што амерыканскі народ з вамі. Мы жадаем быць вашымі партнёрамі і вашымі сябрамі, таму што мы верым у вашу мужнасць і ўпэўнены ў вашай будучыні. Спадзяюся, што такое партнёрства здзейсніцца, будзе працяглым і прынясе вам мір і росквіт, якіх я жадаю гэтай краіне і ўсяму свету. Дзякую вам.

15 студзеня 1993 г.

**Здымкі Васіля ФЕДАСЕНКІ, Віктара ДРАЧОВА і Віктара СТРАЛКОЎСКАГА.**

**Вядучы рубрыкі Валерый ДРАНЧУК.**





Раней на гэтым тыдні разам з нашымі саюзнікамі па НАТО мы стварылі «партнёрства дзеля міру». «Партнёрства дзеля міру» запрашае ўсе краіны былога Савецкага Саюза і былое Варшаўскае дамовы і ўсе дзяржавы Еўропы, што не ўваходзяць у НАТО, далучыцца разам з НАТО да гэтага партнёрства, якое дазволіць нам усім разам загарантаваць агульную бяспеку. Гэта дазволіць не членам НАТО ажыццяўляць сваё ваеннае планаванне, падрыхтоўку і вучэнні разам з членамі НАТО пры ўмове павагі суверэнітэту, незалежнасці ды існуючых тэрытарыяльных межаў усіх дзяржаў-удзельніц.

Я спадзяюся, што Беларусь уважліва вывучыць перспектывы гэтага партнёрства. Наша стратэгія грунтуецца таксама на памкненнях да стварэння Еўропы, якая ўпершыню за сваю гісторыю была б непадзельнаю, у якой перспектыва ваеннага супрацоўніцтва скарыстоўвалася б дзеля забеспячэння міру, а не дзеля падрыхтоўкі вайны.



# «МАЦІНІНКАЙ» ПАСЯБРАВАЎ З «СЯБРЫНАЙ». А МЫ?





KORPORACIJA
MATININKAI
Tel. 75 13 57
Fax 370 2 75 27 03

Клуб аматараў народнай творчасці «Сябрына» быў першай зоркай на небасхіле беларускага адраджэнскага руху ў Літве. Ля яго вытокаў стаялі такія дзеячы айчыннай культуры, як Зоська Верас, Янка Багдановіч, Павел Каруза... Сёння, на жаль, ужо нікога з іх няма сярод жывых. Але агонь іх душы, вера ў свой народ былі перададзены нашчадкам. І цяпер нам, людзям малодшага пакалення, трэба дбаць аб тым, каб гэты агонь не згас, каб ён і надалей асвятляў людзям дарогу з цемры ўсеагульнага бяспамяцтва, далучаў іх да сваёй гісторыі і культуры.

Следам за «Сябрынай» утварыліся таварыствы беларускай культуры, беларускага пісьменства «Наша ніва», беларускай школы, іншыя грамадскія згуртаванні.

На літоўскім радыё і тэлебачанні з'явіліся перадачы на беларускай мове. Выдаецца газета «Наша ніва». На факультэце славістыкі Віленскага педагагічнага універсітэта створана катэдра беларускай мовы, літаратуры і этнакультуры, адкрылася першая беларуская школа (гімназія). На могілках «Росы» ў Вільні пастаўлены помнікі Францішку Аляхновічу і братам Луцкевічам. Мемарыяльнымі шыльдамі была ўшанавана памяць аб Францыску Скарыне, Кастусю Каліноўскім, Рыгору Шырме.

Адраджаюцца беларускія народныя звычаі і традыцыі, уваскрасае з небыцця жывое беларускае слова.

І ўсё гэта — дзякуючы жменьцы апантаных ідэяй нацыянальнага адраджэння энтузіястаў — такіх, як Лявон Луцкевіч, Хведар Нюнька, Аляксей Анішчык, Юры Зімніцкі...

Аднак апантанасць апантанасцю, але для важнай справы патрэбны грошы. І немалыя! А грамадскія арганізацыі, як вядома, іх не маюць. Вось і даводзіцца прасіць дапамогі ў разнастайных камерцыйных і дзяржаўных структур Літвы і Беларусі.

У ажыццяўленні намечанай праграмы адраджэння пайшлі нам насустрач дэпартамент па справах нацыянальнасцяў Літвы, закрытая акцыянерная вытворча-камерцыйная суполка «Гуда», згуртаванне беларусаў свету «Бацькаўшчына», Міністэрства культуры РБ, Беларускі фонд культуры. Вялікі дзякуй ім за гэта! Але як доўга можна хадзіць з працягнутай рукою? Ці не наспеў час паспрабаваць з іншага боку глянуць на гэтую праблему?

У пошуках выйсця са становішча і было вырашана павярнуцца тварам да літоўска-беларускага прадпрымальніцтва, супрацоўніцтва з якім, на думку ініцыятараў гэтай ідэі, якраз і магло б дапамагчы ім. Тым больш, што і з геаграфічнага пункту гледжання гэта вельмі зручна.

З першай такой спробай мы звярнуліся да літоўскай карпарацыі «Мацінінкай», якая ажыццяўляе аперацыі з нерухомай маёмасцю: аказвае пасрэдніцкія паслугі пры набыцці ці продажы кватэр, дамоў, віл, памяшканняў пад офіс, вытворчую ці камерцыйную дзейнасць, афармляе ўсе неабходныя дакументы, дае юрыдычныя кансультацыі. Дзейнасць карпарацыі распаўсюджваецца на аперацыі з зямлёй: купля-продаж жыхарамі Літоўскай Рэспублікі, арэнда грамадзянамі іншых краін. Арганізацыйная структура дазваляе прапаноўваць кліентам нерухомую маёмасць практычна ў кожным кутку Літвы.

«Мацінінкай» супрацоўнічае са шматлікімі замежнымі фірмамі і імкнецца да пашырэння сваіх сувязяў. Як сказаў прэзідэнт карпарацыі спадар Кястуціс Крысцінайціс, яго фірма, зыходзячы з агульнай гістарычнай спадчыны, традыцыйна добрасуседскіх узаемаадносін паміж беларускім і літоўскім народамі, узаемнай талерантнасці,— была б зацікаўлена і ў супрацоўніцтве з беларускімі дзелавымі коламі. А калі прыняць пад увагу і магчымую зацікаўленасць беларускага боку ў перспектыве мець у Літве свае аддзяленні, фірменныя крамы, дамы адпачынку, вілы на ўзбярэжжы Балтыйскага мора, то такое супрацоўніцтва магло б быць карысным для абодвух бакоў.

Паглыбляецца, набывае новыя формы і наша супрацоўніцтва з «Гудай», у падмурку дзейнасці якой ляжыць ідэя прапаганды і папулярызацыі ў Літве вырабаў народных майстроў Беларусі, кніг і сувеніраў, прадметаў дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. Непаўторная па прыгажосці беларуская саломка, палатно і гліна, шкло знаёмяць жыхароў гэтай прыбалтыйскай рэспублікі з побытам беларусаў, іх матэрыяльнай культурай. Суполка аказвае вялікую дапамогу грамадскім згуртаванням Літвы. Але рэаліі сённяшняга дня значна ўскладнілі гэтую добрую місію,— з-за непамерных падаткаў займацца ёю становіцца немэтазгодным.

Калі мы хочам захаваць у Літве свае карані і надалей, зберагчы мову і культуру, урэшце, выжыць у гэты складаны час, трэба шукаць нейкія шляхі паратунку. Бо без гэтага ўсе нават самыя добрыя намеры застануцца пустым гукам. А каб такое не сталася, запрашаем беларускія прадпрымальніцкія колы як на прыватным, так і на дзяржаўным узроўні да супрацоўніцтва.

Спадзяёмся, што карысць ад гэтага будзе ўзаемнай.

Нашы каардынаты ў Вільні: 75-27-03 і 76-48-43.

**Ангеліна РУСАК.**



● **На здымках:** карпарацыя «Мацінінкай» і яе прэзідэнт спадар К. Крысцінайціс запрашаюць да супрацоўніцтва; «Сябрына» пад час рэпетыцыі.

# «ЧЭКАВАЯ ПРЫВАТЫЗАЦЫЯ МАЕ МЭТАЙ ПЕРАДАЧУ НАСЕЛЬНІЦТВУ ЧАСТКІ ГРАМАДСКАГА БАГАЦЦЯ»



***Што б там ні казалі, але нашай соннай эканамічнай прасторай усё ж такі авалодвае рынак. З кожным месяцам багацее яго інфраструктура. Нядаўна, напрыклад, беларускімі бізнес-будаўнікамі створаны Першы рэспубліканскі інвестыцыйны фонд. З яго старшынёй праўлення* А. Г. САМАНКОВЫМ *сустрэўся журналіст* МІХАСЬ СТЭЛЬМАК.**

**— Маскоўскія радыё і тэлебачанне, Аляксандр Гаўрылавіч, прадудзелі нам усе вушы аб сваіх інвестыцыйных фондах, якія «робяць залатымі ваўчары расійскіх грамадзян». Вы, спадзяюся, ставіце перад сабой такія ж высакародныя мэты толькі ў дачыненні да грамадзян Беларусі. Аднак мы нічога не ведаем пра ваш фонд. У прыватнасці, ці патрэбен ён нашай рэспубліцы?**

— Бачыце, грамадзяне, знаёмыя з асновамі рынкавай эканомікі, безумоўна, ведаюць, што адной са складаючых яе частак з'яўляецца рынак каштоўных папер. А інвестыцыйны фонд — адзін з галоўных удзельнікаў такога рынку. І гэта не толькі ў тэорыі, але і на справе. Напрыклад, у амерыканскай эканамічнай сістэме, якая найбольш адпавядае прыведзенай тэорыі, бо поруч з банкамі, пенсіённымі фондамі, фінансавымі і страхавымі кампаніямі інвестыцыйныя фонды займаюць ключавое становішча ў гандлі акцыямі фірмаў, іншымі каштоўнымі паперамі. Іх яны купляюць за грошы дробных і сярэдніх інвестараў — фірмаў альбо прыватных асоб.

Паколькі Беларусь у эканамічным будаўніцтве ўзяла рынкавы курс, то ёй, зразумела, не абысціся і без стварэння адпаведнай інфраструктуры. Наш фонд — гэта першая цаглінка ў шэрагу інвестыцыйных элементаў айчыннага рынку каштоўных папер.

**— Мяркуючы па тым, што вы крочыце ў фарватэры цяперашняй дзяржаўнай палітыкі ў эканамічнай сферы, Першы інвестфонд адносіцца да дзяржаўных арганізацый?**

— Ля вытокаў яго нараджэння стаяць семнаццаць заснавальнікаў, якія ўтрымліваюць у сабе розныя формы ўласнасці, у тым ліку дзяржаўную. У сукупнасці фонд уяўляе закрытае акцыянернае таварыства, і кантрольны пакет акцый дзяржаве не належыць.

**— Вы сказалі пра закрытае акцыянернае таварыства? Але ж дасведчаныя людзі сцвярджаюць, што гэтым шляхам ідуць заснавальнікі, якія дбаюць галоўным чынам пра свае мэты, без аглядкі на эканамічныя інтарэсы ўсяго грамадства?**

— А па-мойму, справа тут у іншым. Дзеючае рэгістрацыйнае заканадаўства складзена так, што закрытаму таварыству прасцей ды танней нарадзіцца. У прыватнасці, статутны капітал патрэбен меншы. Але праз месяц-другі мы збіраемся адкрыцца. Неабходнасць перарэгістрацыі фонду дыктуе спецыфіка яго будучай дзейнасці.

**— Дык у чым жа тады яго спецыфіка?**

— Разгортванне нашай функцыянальнай актыўнасці практычна супадзе па часе са стартам прыватызацыйнага марафона ў рэспубліцы. Не за гарамі ўступленне ў сілу закона аб імянных прыватызацыйных чэках. Грамадзянскія «ваўчары» і будуць якраз прадметам нашых галоўных клопатаў.

**— Клопатаў, кажаце? Які сэнс вы ўкладваеце ў гэтае слова?**

— Чэкавая прыватызацыя мае мэтай перадачу насельніцтву часткі грамадскага багацця. Кожны грамадзянін рэспублікі атрымае на рукі пэўную колькасць чэкаў. Яна вызначаецца ўзростам чалавека, працоўным стажам. Берагчы іх у шуфлядзе стала — неразумна. Бо яны могуць прыносіць прыбытак. Праз акцыі нейкага прадпрыемства. Скажам, інструментальнага завода, швейнай фабрыкі... Асабіста вы, напрыклад, самастойна вырашылі купіць на свае чэкі акцыі, напрыклад, першага прадпрыемства. Але праз нейкі час інструментальны завод становіцца банкрутам і — як вынік развейваюцца вашы салодкія мары пра багатае жыццё.

А вось ваш сусед паступіў па-іншаму. Ён перадаў свае чэкі Першаму інвестыцыйнаму фонду. А мы на іх набылі акцыі швейнай фабрыкі, якая доўгія гады будзе працаваць прыбыткова. Вынік — бадзёры настрой вашага суседа, які атрымлівае высокія дэвідэнды.

Узнікае пытанне: а чаму мы не купілі акцыі інструментальнага завода? Ды па вельмі простай прычыне. Эксперты фонду, вывучыўшы яго справы, прыйшлі да высновы аб яго немінучым банкруцтве, што ўрэшце і здарылася...

**— Калі я правільна зразумеў, прыватызацыйныя чэкі насельніцтва будуць абменьвацца на акцыі фонду. Затым адбудзецца паўторнае размяшчэнне чэкаў, г. зн. іх абмен на акцыі прадпрыемстваў, якія прыватызуюцца.**

— Так. Сфарміраваўшы пакет акцый, мы прыступім да кіраўніцтва ім. Наогул, фонд плануе ажыццяўляць вельмі актыўнае кіраванне вытворчасцю. Растлумачу на прыкладзе. Уявім, што фонд

набыў кантрольны пакет акцый завода медпрэпаратаў. Фармацэўтычная вытворчасць — галіна перспектыўная, аднак на гэтым прадпрыемстве з пэўнага часу перасталі расці даходы. Прааналізаваўшы прычыны застою, камісія фонду прыйшла да высновы аб замене дырэктара прадпрыемства. Рэкамендацыі камісіі, як пакажа далейшае жыццё, могуць аказацца слушнымі.

**— Пра таварны рынак рэспублікі, Аляксандр Гаўрылавіч, чытачы часопіса, спадзяюся, маюць больш-менш пэўнае ўяўленне. У куплю-продаж рэчаў як сродак выжывання сёння ўцягнута практычна ўсё насельніцтва. А вось у якім стане зараз айчынны рынак каштоўных папер, дзе мяркуе дзейнічаць ваш фонд?**

— Калі адным словам — у зародкавым. Гэта, бадай, найдакладнейшая ацэнка. На ім функцыяніруюць цяпер акцыі ўсяго толькі двух-трох банкаў ды некалькіх акцыянерных таварыстваў.

На маю думку, мы будзем мець на Беларусі рынак каштоўных папер толькі тады, калі набярэ размах прыватызацыя. Ёсць два шляхі працэсу акцыяніравання — стварэнне новых прадпрыемстваў у форме акцыянерных таварыстваў і перавод у іх існуючых дзяржпрадпрыемстваў. Наіўна чакаць, што з'яўленне першых прывядзе да хуткага стварэння рынкавага клімату. Застаецца другі шлях, адзіна рэальны. Аднак тут нас пакінулі далёка ззаду суседзі. Па ацэнках амерыканскіх экспертаў, Беларусь адстае ў прыватызацыі, напрыклад, ад Украіны на 90 дзён. Яшчэ больш — ад Літвы і Расіі.

**— Скажыце, калі ласка, а ў чым сутнасць надыходзячай прыватызацыі беларускага ўзору?**

— Сусветная практыка налічвае некалькі яе варыянтаў. Скажам, у Англіі альбо Мексіцы змена дзяржаўнай уласнасці адбывалася праз выкуп. Але ж у Беларусі, зрэшты, як і ў іншых постсацыялістычных дзяржаў, асаблівы гістарычны шлях. Тут адзяржаўлены практычна ўсе сродкі вытворчасці. А ўсе ж грамадзяне ў той ці іншай ступені маюць дачыненне да іх стварэння. Таму і павінен кожны — калгаснік, вучоны, прыбіральшчыца — атрымаць сваю долю дзяржаўнага багацця. Бо як, у процілеглым выпадку, растлумачыць ткаллі Івановай альбо швачцы Пятровай, чаму прышлы бізнесмен з-за мяжы можа купіць яе рабочае месца, а яна не? І гэта не фантазія. Варта нейкаму сумеснаму прадпрыемству ўвезці сюды хаця б адзін мільярд долараў — і яно выкупіць на такую суму паўрэспублікі. Для іншаземнага ж інвестара гэта дастаткова сціплая лічба.

Былыя савецкія рэспублікі падыходзяць да працэсу прыватызацыі па-рознаму. У Расіі, напрыклад, у кошт ваўчараў было ўключана ўсё багацце краіны, якое прыватызуецца. Беларускія заканадаўцы прагаласавалі за кампрамісны варыянт. Пяцьдзесят працэнтаў дзяржаўнай уласнасці ўключаны ў імянныя прыватызацыйныя чэкі, а астатнія пяцьдзесят будуць прапанаваны для выкупу.

Наш шлях, такім чынам, пралёг паміж сацыяльнай справядлівасцю і эканамічным разлікам. Многія лічаць такі выбар найбольш правільным. Бо як паказвае практыка — у Расіі, Літве — кожны трэці грамадзянін трымае свае чэкі альбо ваўчары пры сабе.

**— Вы хочаце сказаць, што пад замком яны, не падазраючы ці не ведаючы, утрымліваюць курыцу, здольную несці залатыя яйкі! Але чаму так атрымліваецца! Па аналогіі з літоўцамі і расіянамі можна чакаць і ад нашых суайчыннікаў глыбокай абыякавасці да сваіх прыватызацыйных чэкаў...**

— Сапраўды, такое развіццё падзей не выключана. Дадатковыя складанасці, можна чакаць, узнікнуць з-за імяннога характару нашых чэкаў. Райвыканкомы і ашчадныя банкі, якія стануць галоўнымі цэнтрамі па ажыццяўленню прыватызацыі, мяркуючы па ўсім, будуць тануць у моры працы. Насельніцтва мусіць спісаць горы папер. Наўрад ці ўсе грамадзяне пойдуць на такі «подзвіг». Асабліва жыхары вёсак. Акрамя таго, многае будзе залежаць ад інфармацыйнага забеспячэння працэсу прыватызацыі. Ці здолеюць нашы сродкі масавай інфармацыі данесці да кожнага яе грамадскую і асобасную важнасць — пытанне, якое будзе дыктаваць сцэнарый развіцця падзей.

**— Хаджэнне грамадзянскіх чэкаў разлічана на пэўны перыяд. Першы інвестыцыйны фонд пасля яго сканчэння прыпыніць сваё існаванне!**

— Не, вядома! Іх месца зоймуць іншыя каштоўныя паперы, на якіх засяродзіцца наша дзейнасць.

**— І апошняе, Аляксандр Гаўрылавіч, пытанне. Аб кадравай базе фонду. Яго супрацоўнікі — свайго роду беларускія першапраходцы ў той справе, аб якой вы паведалі. Адкуль яны ўзяліся!**

— Больш правільна гаварыць аб маючым месца працэсе фарміравання кола супрацоўнікаў інвестфонду. А «бяруцца» яны з розных сфер народнай гаспадаркі. Мы іх вучым альбо перавучваем на новы занятак. У Еўрапейскім гуманітарным універсітэце, напрыклад, з якім у нас склаліся цесныя дзелавыя сувязі. Адпраўляем таксама нашых людзей у замежныя камандзіроўкі, у прыватнасці, да нашых суседзяў, з мэтай пераймання практычнага вопыту. Разлічваем, што з абсалютнай большасці іх атрымаюцца выдатныя прафесіяналы.



Фота А. КЛЕШЧУКА.

## Турыстычная карта дзяржавы

# У Слоніме вы скарбы знойдзеце...

Як год таму, але ўжо разам з вамі, я зайду ў ягоныя святыні і пастукаю ў дзверы простых дамоў, па кроплі збіраючы звесткі пра падзеі далёкіх эпох. Мы ўзбяромся пад самы дах касцёла Святога Андрэя, каб пабачыць цудам ацалелы ўзор лепкі на столі. У былым касцёле бернардзінак мы пашукаем успаміны пра Слонім на пажоўклых старонках даўніх выданняў. І вось ужо ведаем, што на пераломе першага і другога тысячагоддзяў Слонім — горад Чорнай Русі, фарпост, «услона» рускіх князёў на мяжы славянскіх і балцкіх плямёнаў, што ў 1040 годзе, згодна з хронікай Длугаша, Яраслаў Мудры перамог літвінаў «на палях слонімскіх», а Эрдзівіл, сын Мантывіла, захапіў рускія землі «да Слоніма». А праз некаторы час праслаўлены Міндоўг уключыў Слонім у склад нованароджанага Вялікага княства Літоўскага, калі заслаблая Русь пала пад Ардой: Гедымін, дзелячы ўладанні паміж сынамі, Слонім аддаў старэйшаму Манівіду.

А калі прысмерк запаўзе ў вузкія высокія вокны, а скляпенчатая столь згубіцца ў паўцемры, і развітаюцца з настаўніцамі-манашкамі дзеці, што прыходзяць сюды вучыцца любіць і разумець Бога, мову і радзіму, давайце сядзем разам і паслухаем старое паданне.

...1382 год. Невялікі аршак коннікаў пад'язджае да Слоніма. Чалавеку, што едзе на чале, толькі некалькі дзён як удалося вырвацца з сутарэнняў Крэўскага замка, дзякуй, жонка дапамагла — вось яна, Ганна, побач. Ён ужо ведае, што па загаду Ягайлы яго бацьку задушылі наёмныя забойцы, а маці ўтапілі ў Бузе. Ведае — усё зробіць Ягайла, каб схапіць яго — вунь якую моц узняў у пагоню: і літоўская дружына, і нямецкія рыцары-наёмнікі йдуць па слядах. Але не здрадзілі паганскія багі, выратавала векавечная пушча. Невядома, хто з жыхароў Слоніма наважыўся схаваць уцекачоў, пакуль гойсала вакол Ягайлава пагоня. Але ўпарта жыве ў Слоніме легенда, што менавіта Слонім даў прытулак праследаванаму князю.

Пройдуць гады — і будзе ён, вялікі князь літоўскі Вітаўт, стаяць побач з каралём польскім Ягайлам на ўскрайку поля ля мястэчка Грунвальд, каб разам павесці аб'яднаныя войскі ў бітву, якая вырашыць лёсы народаў на многія стагоддзі.

Пад харугвамі Вітаўта, пад славутай Пагоняй будзе стаяць супраць жалезных крыжакоў і слонімскі полк.

Перагорнем яшчэ некалькі старонак гісторыі Слоніма, адзначаючы знаёмыя прозвішчы прадстаўнікоў славутых беларускіх родаў, слонімскіх старастаў Яна Літавара Храптовіча, Івана Гарнастая. Спыніць нас у шаснаццатым стагоддзі легендарнае імя Льва Сапегі, аўтара Літоўскага статута — адной з першых у Еўропе канстытуцый, ва ўзнагароду за стварэнне якога вялікі канцлер і атрымаў у 1586 годзе слонімскае староства. Сапега надаў гораду герб: у блакітным полі залаты леў з падвойным срэбным крыжам, накшталт герба Ліс — родавага герба Сапегаў. Можа, і само імя слонімскага старасты паўплывала на выяву ў гербе горада?

У час кіравання Сапегаў, Ільва і пасля яго сына Лявона, Слонім — адзін з буйнейшых палітычных і культурных цэнтраў Вялікага княства і Рэчы Паспалітай. З 1532 года па прывілею караля Жыгімонта Старога горад мае магдэбургскае права. У горадзе праводзяцца кірмашы, адбываюцца суды і так званыя «генералы» — генеральныя сеймікі па выбару паслоў — дэлегатаў на сейм. Слонім меў рэдкае права складу — кожны купец, які вёз свой тавар праз Слонім, павінен быў спыняцца і весці тут гандаль. 56 крам прадавалі гарэлку на ўцеху купцам (пры тым самі сланімчане вызначаліся цвярозасцю). Паспрыяла развіццю горада і недалёкая адлегласць ад Жыровіц з іх вядомым манастыром і цудоўным абразом Маці Божай. Вялікія князі і каралі, што рабілі паломніцтвы да Маці Божай Жыровіцкай, спыняліся ў Слоніме, абдорвалі горад каштоўнасцямі і прывілеямі.

Час не пашкадаваў драўлянага палаца Сапегаў, але захаваў мураваныя кляштары і касцёлы, рэшткі жылой забудовы. Іх гмахі маўклівыя. Але тым, хто прыйдзе да іх з цярплівасцю і ўвагай, яны расчыняць свае дзверы і распавядуць свае таямніцы.

Дачакаемся ранішняй імшы ў былым касцёле бернардзінак. Заходзьце ў касцёл — ён сустракае тых, хто прыходзіць сюды з адкрытым сэрцам. У хвалях святла з вялікіх вокнаў, у гуках урачыстых спеваў нібы лунае абраз Бязгрэшнага Зачацця Прасвятой Марыі (выкананы ў 1764 годзе ў стылі ракако майстрам Гедэлем). Вас сустрэнуць сёстры ці сам ксёндз і не адмовяцца распавесці гісторыю слонімскіх святынь.

...У 1645 годзе пані Катарына Канстанцыя Юдыцкая, у першым шлюбе Сулятыцкая, у другім Камароўская, якой бацькі прызначылі лёс манашкі, адчула, што не мае адпаведных схільнасцей і цнот, і вырашыла замест сябе прысвяціць Богу цэлы кляштар сумленных дзяўчат. Яна купіла ў Казіміра Лявона Сапегі драўляны дом, у бернардзінцаў — стары драўляны касцёл і ў 1648 годзе прывезла сюды з Вільні першую групу манашак. Настаяцелькай кляштара стала Тэкля Сапежанка. Мураваны касцёл, аздоблены ўсімі дэталямі сталага барока, які мы бачым і сёння, быў узнесены паміж 1644 і 1670 гадамі.

Але ёсць у Слоніме помнік старэйшы — Траецкая царква, перароблёная з былога касцёла бернардзінцаў, пабудаванага ў 1645 годзе біскупам Андрэем Радванам у стылі



***Я хачу адкрыць вам маленькі прафесійны сакрэт і распавесці, як рыхтуюцца экскурсіі. Бо тое, што паказвае і расказвае вам экскурсавод — гэта вынік шляху, што складаецца з сустрэч, размоў, пошукаў у архівах, фотаздымкаў, успамінаў, паданняў. Я хачу правесці вас гэтым шляхам і запрашаю ў Слонім — самы звычайны, тыповы правінцыяльны беларускі горад. Але калі мы пройдзем па яго завулках, спусцімся ў сутарэнні і падымемся на званіцы і хоры, гартаючы старонкі гісторыі ад сярэднявечча да сучаснасці, то ўбачым нечаканыя скарбы.***

ранняга барока. Традыцыі готыкі яшчэ захавалі свой уплыў на архітэктуру гэтага магутнага і суровага будынка, які ўваходзіў калісьці ў сістэму абарончых збудаванняў горада. Моцныя контрфорсы, вузкія вокны, вежа-званіца з байніцамі ў арачных нішах нагадваюць аб тых часах, калі касцёл і кляштар пры неабходнасці ператвараліся ў цвярдыню, а манахі ўмелі трымаць у руках не толькі крыж, але і меч.

Згодна са статутам ордэна бернардзінцы заснавалі пры кляштары школу з трохгадовым курсам філасофіі, бібліятэку, у якой налічвалася амаль 1000 тамоў — колькасць, значная для таго часу, шпіталь. У перапынках паміж навукай і лекарскай справай айцы-бернардзінцы вывелі вядомы ў свой час гатунак груш «сапежанка», названы так у гонар слонімскага старасты.

У касцёле бернардзінцаў бываў у юнацтве Тадэвуш Касцюшка — яго радзінны маёнтак Мерачаўшчызна ляжыць за 50 км ад Слоніма.

Пасля паўстання 1863 года касцёлы аддаваліся пад праваслаўныя цэрквы, ордэны скасоўваліся. Пазбег гэтага лёсу ва ўсім Слоніме толькі кляштар бернардзінак, але царскім дэкрэтам было забаронена прымаць новых кандыдатак і кляштар павінен быў «вымерці». У 1906 годзе, калі ў ім засталі толькі дзве сястры сталага веку, з Польшчы (з той яе часткі, што была пад Аўстрыяй) у Слонім таемна, пераапранутыя ў свецкае адзенне, прыбылі сёстры непакалянкі і засталіся ў кляштары, маўляў бернардзінкі. Каб аб гэтым даведаліся ўлады, сясцёр чакала б Сібір. Нехта пільны, сапраўды, данёс, што ў бернардзінскім кляштары можна ўбачыць белыя хабіты непакалянак. Але калі царскія агенты ўварваліся з праверкай, нічога недазволенага не выявілі: сёстры, папярэджаныя прыхільнымі, у адну ноч перафарбавалі свае белыя хабіты непакалянак на бронзавыя бернардзінскія — за адсутнасцю іншых сродкаў — у каве.

Шмат цікавага могуць распавесці былыя каларытныя назвы вуліц і плошчаў Слоніма.

Плошча ля сінагогі з навакольнай забудовай — зразумела, яўрэйская дзяльніца. У адпаведнасці са знакамітай беларускай талерантнасцю ў цэнтры Слоніма знаходзяцца касцёл, царква, сінагога і мячэць... выбачайце, мячэць згарэла ў чэрвені 1944 года, а сінагога, барочны гмах якой, змрочны ад шчарбін і падцёкаў, дагэтуль узвышаецца над больш познімі прыбудовамі,— не дзейнічае. Яўрэі атрымалі дазвол сяліцца ў беларускіх гарадах прывілеем Вітаўта 1388 года і, пэўна, неўзабаве з'явіліся ў Слоніме. На старажытных слонімскіх яўрэйскіх могілках яшчэ не так даўно можна было пабачыць даты 1529 і 1641. Аднак пры будаванні газаправода могілкі па-варварску знішчылі, і цяпер на тым месцы — пачварная пустка. Здаўна слонімскія яўрэі славіліся вырабам пергаменту для рытуальных кніг, які быў вядомы на рынках Расіі, Амерыкі, Афрыкі, Аўстраліі. Нават яшчэ ў пачатку гэтага стагоддзя захоўвалася ў Слоніме гэтае старажытнае рамяство.

Да Гандлёвай плошчы сцякаюцца вуліцы Студэнцкая, Замкавая, Оперная, Рыбацкая, Татарская... Замкавая вяла да Замчышча, Рыбацкая, вядома ж, да Шчары. Студэнцкая вуліца памятае вясёлых навучэнцаў езуіцкага калегіума. Тут жа захаваўся будынак іх канвента, у якім у пазнейшы час мясціўся магістрат. Пасля скасавання ордэна езуітаў справа адукацыі ў Слоніме перайшла да латэранскіх канонікаў. Аб накірунку, у якім выхоўвалі вучняў канонікі, сведчаць імёны тых, хто выйшаў са сцен гэтай школы: Валовіч, Юндзіл, Масальскі, Керсноўскі — удзельнікі паўстанняў 1831 і 1863 гадоў.

На Татарскай вуліцы жылі, вядома ж, татары, якіх асадзіў на Беларусі яшчэ Вітаўт. Многія пакаленні іх служылі ў войску Княства, удзельнічалі ў паўстаннях, як, напрыклад, слонімскія татары Шэхідзевічы і Белякі, падпалкоўнік Александровіч, які, дарэчы, стаяў на чале магістрата. Пра гісторыю слонімскай татарскай абшчыны, а таксама і пра яе сучаснае жыццё мы даведаемся са слоў яе старшыні Сулеймана Байрашэўскага. Каб быў у нас час, мы б завіталі і на мусульманскія могілкі — мізар, але туды ісці каля пяці кіламетраў — толькі на такой адлегласці, каб не далятаў спеў пеўня, можна было згодна з мусульманскім звычаем хаваць нябожчыкаў.

На Опернай вуліцы быў тэатр, заснаваны слонімскім старастам Міхалам Казімірам Агінскім, з імем якога звязана другое адраджэнне горада ў XVIII стагоддзі. На месцы старога сапежанскага замка Агінскі ўзнёс велічны палац з разлеглым паркам, заснаваў друкарню, праклаў водаправод. Будынак тэатра ўражваў адмысловымі сцэнічнымі прыстасаваннямі і дэкарацыямі, а трупа — выключным майстэрствам выканаўцаў. Балет, падараваны Агінскім Станіславу Аўгусту Панятоўскаму, паклаў пачатак нацыянальнаму польскаму тэатру. Міхал Казімір Агінскі — сам выдатны кампазітар, аўтар опер, але яго вядомасць прыцьмілася славай пляменніка — Міхала Клеафаса Агінскага, аўтара знакамітага паланеза «Развітанне з радзімай» і верагоднага аўтара нацыянальнага польскага гімна «Мазурка Дамброўскага». У дзяцінстве Міхал Клеафас выхоўваўся ў дзядзькі, і, пэўна, яго станаўленню як кампазітара паспрыяла вытанчаная атмасфера «палескіх Афін», як называлі Слонім сучаснікі. Паланез «Развітанне з радзімай» зрабіўся гімнам Слоніма. Да другой сусветнай вайны кожны дзень а восьмай гадзіне на каланчу, што на Студэнцкай вуліцы, узыходзіў трубач, і на чатыры бакі свету несліся чароўныя гукі





паланеза. І сёння перадачы Слонімскага радыё пачынаюцца гэтай мелодыяй.

Міхал Казімір Агінскі пабудаваў канал, які злучыў Ясельду і Шчару — басейны Чорнага і Балтыйскага мораў — і зрабіў Слонім значнай прыстанню на Шчары. За гэтую справу ўрад Рэчы Паспалітай збіраўся паставіць Агінскаму помнік, але не здзейсніў сваіх намераў, бо неўзабаве Рэч Паспалітая знікла з палітычнай карты свету.

Напалеонаўскім трактам называюць сланімчане шашу, па якой адступала армія Баграціёна, а за ёй рушылі саксонскі корпус Рэйнье і аўстрыйскі Шварцэнберга. Як кожнае больш-менш значнае мястэчка Беларусі, закранутае вайной 1812 года, Слонім не абыходзіцца без падання аб напалеонаўскім скарбе. ...Як бліскавічным ударам захоплены Слонім расійскім генералам Чапліцам.





Як Канопка, камандзір палка літоўскай гвардыі, адыходзіць, праследаваны значна большымі сіламі. Ведаючы пра перавагу рускіх і, пэўна, прадчуваючы разгром, ён адсылае іншым шляхам жонку разам з жонкамі генералаў Дамброўскага і Заёнчка і палкавой касай. Ім наўздагон кідаецца атрад казакаў і насцігае за прадмесцямі Слоніма ля рэчкі Луконіцы. Але жанчыны паспяваюць пераправіцца і ўтрымліваюць паром на супрацьлеглым беразе. Вось толькі йдзе на дно карэта з палкавой касай... Дагэтуль ціхая плынь Луконіцы чакае шукальнікаў скарбаў.

Я спадзяюся, што мы з вамі ўсё ж не кінемся шукаць каштоўную карэту. Накіруемся лепей да Замосця (вядома ж, за мастамі — праз Шчару і канал Агінскага) — старажытнай дзяльніцы Слоніма; былога замчышча. Толькі не піце вады са Шчары, калі хочаце вярнуцца дамоў! Бо той, хто яе нап'ецца, назаўжды застанецца ў гэтых мясцінах, не адпусціць яго чароўная рака. Гэта вам пацвердзяць слонімскія старажылы, што прыехалі ў горад у маладосці і так і не здолелі адсюль пайсці. ...А вы падумалі ўжо, напэўна, што я вас перасцерагаю перад забруджанасцю вады! Хоць, канешне, можа з-за гэтай самай забруджанасці Шчара ўжо і страціла сваю цудоўную моц.

У Замосці я падрыхтавала вам сустрэчу з сапраўдным цудам — чароўным і найпрыгажэйшым касцёлам Святога Андрэя, пабудаваным у формах архітэктуры ракако, «палымянага барока», узораў якога безліч у Еўропе.

Упершыню я ўбачыла касцёл Святога Андрэя гадоў дзесяць таму. Пакуль наша экскурсійная група слухала традыцыйнае апавяданне мясцовага экскурсавода пра дасягненні сацыялістычнага будаўніцтва савецкага Слоніма, Валодзя Карэлін, адзін з тых, хто ў гады застою ўратоўваў нашае мінулае дзеля нашага будучага, правёў некалькі цікаўных па старажытных слонімскіх святынях. Касцёл Святога Андрэя ўяўляў тады сумнае відовішча: слабае святло праз забітыя дошкамі вокны, крык варання пад дахам, забруджаны неф, пачварныя рэшткі саляной купы на падлозе, з'едзеныя соллю фрэскі... Але і ў такім стане касцёл уражваў сваёй узнёслай прыгажосцю, маўляў, тая каралева, што і ў радне і ў турме застаецца каралевай.

Драўляны касцёл Святога Андрэя Апостала і Марыі Магдалены быў закладзены ў 1490 годзе Казімірам Ягелонам, сынам караля польскага і вялікага князя літоўскага Ягайлы. Некалькі разоў за гісторыю свайго існавання касцёл зруйноўваўся, здавалася б, назаўжды, але кожны раз адраджаўся, нібы фенікс з попелу. У 1595 годзе касцёл адбудаваў Леў Сапега. Знішчаны пад час вайны з Расіяй, ён зноў адбудаваны ў 1775 годзе ксяндзом Анцутам і біскупам Гедройцам. Да шэрагу гэтых славутых імён сёння трэба дадаць імя слонімскага пробашча ксяндза Вітальда Жэльветра. Некалькі гадоў таму ён узяўся адбудоўваць касцёл, ад якога адмовіліся ўсе ўстановы і арганізацыі, лічачы стан будынка безнадзейным, бо ў савецкі час быў знойдзены найлепшы спосаб загубіць святыню — у ёй зрабілі склад солі.

І вось сёння адроджаны касцёл ужо збірае вернікаў на імшу. Варта прыехаць нават з Мінска, каб на свае вочы пабачыць гэтую моцную пластыку фасада, характэрны попельны і ружовы колер, які дамінуе ў роспісах інтэр'ера, тры алтары: галоўны, Маці Божай з Люрдэс — з правага боку, Святога Андрэя — з левага. Па паданню, у крыпце пад касцёлам было пахавана сэрца Агінскага.

Нават найпрыгажэйшыя палацы і святыні застануцца бezжыццёвымі спарудамі з шыльдай «помнік архітэктуры», калі не сагрэць іх цяплом рук і сэрцаў неабыякавых людзей. Шчырая падзяка ўсім, хто дапамог нам у нашым завочным падарожжы па Слоніме — ксяндзу Вітальду і ксяндзу Яну, сёстрам-законніцам Яўгеніі Урублеўскай, Гелене Петраковай, Вікторыі Гразновай, спадарам Сулейману Байрашэўскаму і аматару-краязнаўцу Уладзіміру Лазару. А шаноўным чытачам — пажаданне хуткай сустрэчы з горадам над Шчарай. Нават калі не пашанцуе знайсці ў Луконіцы напалеонаўскі скарб, не шкадуйце — у Слоніме вы знойдзеце скарб большы: старажытную беларускую культуру.

**Наталля МЯЦЕЛЬСКАЯ,**
**намеснік дырэктара турыстычнай фірмы «Вяполь»**
Фота аўтара
**Уладзіміра КАРЭЛІНА.**
**Афармленне Алены ВАШЧАНКІ.**

# Сонейка

**Іван ГАЛУБОВІЧ**

## ЧАМУ ВАРОНЫ Ў ВЫРАЙ НЕ ЛЯЦЯЦЬ

КАЗКА



Аднойчы восенню, калі бярозкі ў золата прыбраліся, сустрэў грак варону. Варона на елцы каля гнязда шчыравала.

— Што ты робіш, шэрая! — пытаецца грак.

— Ат, не пытайся. Гэта ж зімою ледзьве не акалела, дык цяпер сваю хатку хачу ўцяпліць.

Паклала ў гняздо камячок ваты і далей кажа:

— Ад ляноты — чакай бядоты. І табе, грак, раю гэта зрабіць.

Грак адно рассмяяўся, пачуўшы такое:

— Хто па дарозе ходзіць — з сабой хаты не носіць. Я ж у вырай лячу.

— А як там, у выраі, раскажы! — цікавіцца варона.

— Хіба такое раскажаш,— пачаў грак.— Сонейка ўвесь час свеціць. Зялёная трава-мурава сцелецца. З рэчкі рыба ажно на бераг скача, сама ў рот просіцца. Райскае жыццё, адным словам, шэрая.

Надакучыла вароне мярцвячынай карміцца. Як пачула пра рыбу, дык і слінка ў яе пацякла.

— Слухай, грак,— гаворыць яна.— Вазьмі і мяне з сабой у вырай.

— Гэта — калі ласка, і нам весялей будзе. Ляці сабе,— адказвае грак.

Развіталася варона з сяброўкамі і паляцела разам з гракамі. Дзень ляцяць, а на другі і кажа:

— Не магу болей, крылы ўжо мяне не слухаюцца.

— Узяўся за гуж, не кажы, што не дуж,— суцяшае варону грак.

А яна ажно плача:

— Ой, сэрца з грудзей выскачыць.

Апусціліся птушкі на зямлю, адпачылі і ў неба падняліся. Варона зноў ззаду пляцецца. Так надакучыла ёй ляцець, што скрозь зямлю гатова праваліцца.

— Ці скора тая рэчка з рыбай будзе! — пытае ў грака.

— Туды яшчэ ляцець і ляцець. Мо праз тыдні два і будзем на месцы,— адказвае той.

Зусім зніякавела варона. Ужо не рада, што і ў вырай сабралася. А тут яшчэ новая бяда напаткала яе. На птушак чорныя каршуны напалі. Было драпежнікаў у чарадзе, як мурашак у мурашніку. Разляцеліся гракі хто куды, а варона ўпала пад куст і ляжыць ні жывая ні мёртвая.

Сабраліся раніцою гракі, да сябе варону клічуць, а тая і вухам не вядзе. Зусім перахацелася вароне ў вырай ляцець. Знаёмы грак наблізіўся да яе і кажа:

— Падымайся, шэрая. Ляцець пара.

— Спалохалася я каршуноў і занядужала нешта. Яшчэ паляжу крышку,— просіцца варона.

Пачакалі гракі варону, а пасля абеду зноў напомнілі ёй, што ў вырай спяшацца трэба.

Паднялася варона, пазяхнула.

— Ой, баюся,— кажа.— Такі страшны сон бачыла.

— Чаго баяцца, шэрая,— гаворыць знаёмы грак.— Тое дорага, што нялёгка даецца.

А варона зноў за сваё:

— Надта ж хочацца мне дамоў вярнуцца. Паглядзець: ці многа я праляцела! А як пагляджу — тады даганю вас.

— Глядзі сама, шэрая. Кожны свой розум мае.

Птушкі хвалююцца, бо колькі часу з воронай згубілі.

— Калі не музыка, кажуць, не бяры скрыпкі ў рукі.

Сабраліся — і паляцелі без вароны.

Вярнулася дамоў варона і заракласся болей у вырай ляцець. А тое, што перажыла, сваім сяброўкам расказала. З таго часу вароны выраю як агню баяцца.

Вось вам, дзеткі, такая казка. А мне — абаранкаў вязка.

**Васіль ЗУЁНАК**

### Верабейка, верабей...

*Верабейка, верабей,*
*Шэранькая світка,*
*Крошкі, зернеткі дзяўбе,*
*Ловіць мошак прытка.*

*Не лянівец-ліхадзей,*
*Як падумаць можна,—*
*Верабейка без людзей*
*Проста жыць не можа.*

*Гэта ж ён — гаспадароў*
*Першы прывітальнік*
*I яму: «Здароў! Здароў!» —*
*Ён крычыць шторанння.*

*Гаспадыні ён прывык*
*Печ распальваць змалку:*
*— Чык-чырык! Чык-чырык! —*
*Чыркае запалку.*

*А праверыць хто шчырэй*
*Зможа:*
*ці па норме*
*Ды і чым сваіх курэй*
*Гаспадыня корміць?..*

*Дармавога верабей*
*Хлеба не шукае:*
*I забавіць дзяцей,*
*I гасцей спаткае —*

*Угаворыць сваіх,*
*Каб часцей бывалі,*
*Папярэдзіць чужых,*
*Каб не забывалі...*

*Верабейка — чык-чырык!—*
*Шэранькая світка,—*
*На двары працаўнік*
*I не прыкарытнік!*

*Не лянівец-ліхадзей,*
*Як падумаць можна,—*
*Ён далёка ад людзей*
*Проста жыць не можа.*



**Уладзімір МАЦВЕЕНКА**

### ШАР

*Ветрык неяк*
*Жартаваў,*
*Шар у Косці*
*Адабраў.*
*Паляцеў улегцы*
*Шар*
*Аж да месяца*
*I хмар.*
*— Ты прабач! —*
*Ён крыкнуў*
*Косцю.—*
*Палячу*
*Да сонца*
*Ў госці!..*



**Галіна БАГДАНАВА**

### Збаночак

*Сеў за кола ганчар,*
*З гліны выкруціў шар,*
*Горла. Вушка прырабіў.*
*Пасля ў печы абпаліў.*
*I глядзіце: ўжо гатовы*
*Залаты збаночак новы.*

**Уладзімір ЯГОЎДЗІК**

ЛЯСНЫЯ ДЗЕЦІ

# ДЗІКІ

У свойскіх жывёл у лесе ёсць сваякі. У кошкі — рысь, у сабакі — воўк... Аднак я не раіў бы сабаку і кату трапляць на вочы сваім лясным суродзічам. Драпежнікі сваяцтва не прызнаюць, для іх найлепшы прыяцель той, каго лёгка з'есці.

У свіней таксама жывуць у лесе сваякі. Называюцца яны — дзікі. Дзікі не драпежныя жывёлы, але ўсё-такі звяры. У іх зусім іншае жыццё, чым у рахманых вясковых свінак, што не ведаюць ні голаду, ні холаду. А вось іх лясным родзічам нярэдка даводзіцца туга, асабліва зімой, калі насыпле гурбы снегу і трашчыць мароз. Паспрабуй, падсілкуйся карэннямі раслін, калі зямля нібы ўкамянела. Добра, што дзікі жывуць вялікім дружным статкам. Недарэмна ёсць прымаўка: дзе грамада, не страшная бяда. Старыя ікластыя вепрукі першыя капаюць зямлю, потым ім пасабляюць падсвінкі. Глядзіш — і ўсе пад'елі. Падмацаваўшыся, дзікі спяшаюцца ў зацішак на ўскрайку лесу. Нападзе — самы дужы вяпрук, якога з-за вострых іклоў паляўнічыя называюць секачом. Сякач пракладвае ў глыбокім снеге сцежку, а ўжо за ім цугам бяжыць увесь статак. Ад калючага марозу дзікі таксама ратуюцца гуртам: прыцісну цца шчыльна адно да аднаго і адпачываюць. Маладыя падсвінакі спяць, а старыя, залёгшы вакол маладняку, нясуць пільную варту. Пачуюць небяспеку — зараз жа падхопяцца на ногі, пабудзяць статак.

Найпершы вораг лясных свіней — ваўкі. Часцей за ўсё шэрыя разбойнікі нападаюць на маладых дзікоў. Старых вепрукоў яны баяцца, бо секачы здатны пабарукацца нават з мядзведзем.

У канцы красавіка — пачатку мая ў дзікіх свіней з'яўляюцца парасяткі. Рыжанькія, з цёмнымі палоскамі ўздоўж цельца, што памагае ім імгненна хавацца ў траве і хмызняку. Парасяткі растуць жвавыя, дужыя. І нядзіўна: вясною і летам ім хапае корму, бо зямля ажно захлынаецца сакавітай зелянінай. Потым надыходзіць восень, з дубоў сыплюцца жалуды — найлепшы ў свеце ласунак. Дзякуючы жалудам, дзікі нагульваюць шмат тлушчу, што вельмі прыдасца ў бяскорміцу і халады. А яшчэ восенню можна ўдосталь наесціся бульбы. Таму ледзь толькі сцямнее — дзікі спяшаюцца на бульбяныя палеткі. За ноч яны так папрацуюць лычамі, што потым не знайсці разораў. Людзі, якія пасадзілі бульбу, вядома, не рады такой дапамозе. Каб адпалохаць начных гасцей, яны ставяць пудзілы, вешаюць бляшанкі на дрот, нават бабахаюць са стрэльбаў. А мне здаецца — не трэба крыўдзіцца на дзікоў. Бо хто, скажыце, не любіць нашу смачную беларускую бульбу?

**РАЗМАЛЮЙ, КАЛІ ЛАСКА!**

**Малюнкі Анатоля АЛЕКСАНДРОВІЧА.**

## ДЫЯЛОГІ БАЦЬКОЎ І ДЗЯЦЕЙ

● *— Тата, няўжо гэты лысы чалавек яшчэ ў школу ходзіць?*
*— Наташка, чаму ты так думаеш?*
*— А я чула, як ён у суседкі прасіў грошы на чарніла.*

● *Маленькі Толік глядзіць на замёрзлае шкло ў аўтобусе і пытаецца ў маці:*
*— Мама, а як сюды мароз зайшоў?..*

● *— Танечка, чаму ты так доўга глядзіш у меню, ты ж яшчэ чытаць не ўмееш? — пытаецца маці ў дзяўчынкі ў кафэ.*
*— А я шукаю знаёмыя літары...*

● *Настаўніца пытаецца ў першакласніка:*
*— Коля, чаму раніцой на траве зззяе раса?*
*— Таму што Зямля круціцца, ёй цяжка і яна пацее...*

Пачуў Алесь МІХАСЕНАК.

**Анатоль ЗЭКАЎ**

### *Гром-вадавоз*

*Гром вязе па небе бочку,*
*Каб хутчэй паліць гурочкі.*

*А калі палье асот —*
*Ой, прыбавіцца турбот!*

*Але ж гром не вінаваты,*
*Што пралез асот у грады.*

### *Кнігаўкі*

*Кнігі кнігаўкі чыталі*
*Каля возера услых,*
*І таму, відаць, назвалі*
*Людзі кнігаўкамі іх.*

### *Дружок і стажок*

*Пад стажком ляжыць*
*Дружок —*
*Рыжы-рыжы, як стажок.*

*Ноч прысела на стажок —*
*Чорным стаў і мой Дружок.*

### *Шэршань і джала*

*Нехта ўкраў у шэршня джала.*
*Як без джала шэршню жыць?*
*Шэршня зло апанавала,*
*Закіпела ўсё ў душы.*

*Толькі шэршню верацъ мала,*
*Як ён злосна ні гудзе,*
*Бо не шэршань ён без джала,*
*А звычайны авадзень.*



50

## ДАКУМЕНТЫ БЕЗ ГРЫФА «САКРЭТНА»

«Пераправа, год 1944-ты...»
Малюнак Аляксандра ДЗЯМАРЫНА.



*Кажуць, што салдатамі не нараджаюцца.*
*І яшчэ кажуць: бацькоў не выбіраюць...*
*Але не ўсім дзецям Зямлі пашанцавала так, як нам, бо нас выхоўвалі бацькі з незвычайнага пакалення, якое перамагло ў самай жудаснай з войнаў у гісторыі чалавецтва.*
*Па завядзёнцы, у першыя дні ліпеня, калі зямля купаецца ў кветках і наліваюцца сокам першыя плады лета, мы ўсе, талакой, адзначаем свята — гадавіну вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.*
*Трэцяга ліпеня года 1944-га зямля Беларусі, беларускі народ са слязамі на вачах віталі сваіх вызваліцеляў — вядомых і невядомых салдат Савецкай Арміі і народных мсціўцаў — партызан.*
*Да канчатковай перамогі ў Вялікай Айчыннай яшчэ заставалася трыста з нечым дзён і начэй, тысячы, бадай, самых цяжкіх і доўгіх вёрст франтавых дарог і глухіх партызанскіх сцежак...*
*Сёння мы запрашаем чытачоў прайсці разам з удзельнікамі Вялікай Айчыннай па гэтых шматпакутных дарогах вайны, каб зразумець і глыбей асэнсаваць веліч нашай Перамогі ў маёвым дні сорак пятага. Франтавыя дарогі і памяць...*

**Германія ўжо акупіравала Польшчу, нямецкія войскі ўшчыльную наблізіліся да заходніх граніц СССР, і ўся краіна, і Беларусь у прыватнасці, жылі ў трывожным чаканні...**
**Перад разведкай стаяла задача: высветліць тэрміны магчымага пачатку вайны і, канешне ж, колькасць войск на напрамках галоўнага ўдару. Для гэтага патрэбны былі крыніцы інфармацыі, натуральна ў самой Германіі, а каштоўнасць іх уяўлялася толькі ў выпадку ўкаранення разведчыка ў палітычныя альбо ваенныя колы рэйха. Такая задача стаяла і перад чэкістамі Беларусі, бо менавіта яны рыхтаваліся першымі прыняць удар фашысцкай армады, балазе перадавыя часці можна было, асабліва не напружваючыся, разгледзець ужо са сцен Брэсцкай крэпасці...**
**Пачатак 1940 года... У тэрміновым парадку рыхтуецца план вываду ў Германію нашага агента «Максіма». Яго кандыдатура падыходзіла для гэтай мэты як нельга лепш. Прадстаўнік дваранскага роду, жонка — прыбалтыйская немка з сувязямі ў Германіі. Адукацыю «Максім» засведчыў у Францыі і ў Германіі. Пачынаў тэлеграфістам і кур'ерам губваенкамата ў Херсоне, працаваў на аўтарамонтным заводзе «Елібар» у Варшаве, на працягу года стажыраваўся ў Амерыцы.**
**Вярнуўшыся ў Еўропу, працаваў у сельскай гаспадарцы ў маёнтку дзядзькі ў Заходняй Беларусі.**
**За дружбу з сялянамі і заступніцтва сваяк абвінаваціў яго ў «бальшавізме» і... выгнаў з дому. Карацей, калі падрабязна пісаць біяграфію «Максіма» — раман атрымаецца, дзе самыя, бадай, драматычныя старонкі — служба ў інтарэсах савецкай разведкі.**
**Такім чынам, перагартаем некалькі тых старонак і мы.**
**У пачатку 1940 года «Максіма» з сям'ёю па каналу рэпатрыяцыі вывозяць у Германію. А ў лістападзе да яго з абумоўленым паролем ужо выйшла берлінская рэзідэнтура. «Максім» быў на той час членам НСДАП, паспеў займець сувязі, у тым ліку і ў колах белагвардзейскай эміграцыі. З гэтага моманту ад яго пачалі прыходзіць трывожныя паведамленні...**

# Разведчык «МАКСІМ» інфармаваў цэнтр:
# «ГІТЛЕР РЫХТУЕЦЦА ДА ВАЙНЫ З СССР...»
# У СТАЛІНА БЫЛА СВАЯ ВЕРСІЯ...

МЫ ПРА ГЭТА НЕ ПІСАЛІ. ВЫ ПРА ГЭТА НЕ ЧЫТАЛІ...

## 5 верасня 1940 года

Фігнер, які часта выязджаў на ўсход Германіі і, у прыватнасці, у былую Польшчу па справах будаўніцтва ад сваёй фірмы (падземныя ангары, бетанаваныя дарожкі на аэрадромах), расказвае, што ля граніц Савецкага Саюза назіраецца інтэнсіўнае будаўніцтва ўмацаванняў, асабліва паблізу Брэста.

Паводле яго слоў у Польшчы сканцэнтравана каля 100 нямецкіх дывізій. Ва Усходняй Прусіі расквартаравана 25 дывізій, такая ж колькасць у Славакіі.

Нямецкая армія рэарганізуецца ў напрамку, патрэбным Германіі для вайны супраць Савецкага Саюза. Навучэнец афіцэрскай школы ў Берліне Хольтман расказаў, што ўсе накірункі вучобы ставяць мэтаю падрыхтоўку германскіх афіцэраў да вайны з СССР. Дарэчы, заняткі па тапаграфіі праводзяцца выключна на мясцовасці, якая можа быць толькі на ўсходзе.

Так званая Берлінская дывізія, якая вярнулася з заходняга фронту, рэарганізуецца (для вайны з Англіяй гэта не патрэбна). Напэўна, можна меркаваць, што гэтая рэарганізацыя ідзе зноў-такі ў напрамку ўсходніх імкненняў Германіі.

«Максім».

## 1 кастрычніка 1940 года

Соф'я Фігнер атрымала ад свайго знаёмага (былога белага афіцэра, зараз нямецкага падданага Краўцова) ліст з Усходняй Прусіі, у якім ён піша, што тэрмінова мабілізаваны і накіраваны на ўсход. У яго часцях ідзе ўзмоцненая падрыхтоўка да ваенных дзеянняў, і намякае, што гэта падрыхтоўка накіравана на ажыццяўленне яго даўняй мары — вайны з бальшавікамі.

Генерал Біскупскі расказаў «пад найстражэйшым сакрэтам» Астэн-Саксну, а апошні мне, што цяпер мы стаім напярэдадні вялікіх падзей, што тычацца Савецкай Расіі.

«Максім».

## 29 лістапада 1940 года

Зольф запрасіў да сябе на вечар. Было каля сарака гасцей, у тым ліку бразільскі, швейцарскі і іншыя ваенныя аташэ, дырэктар з Міністэрства гаспадаркі і ваенныя.

Фігнер размаўляў з генералам Мюлерам, кіраўніком гаспадаркі ў Францыі. Мюлер сказаў, што Германія мабілізуе цяпер яшчэ адзін мільён салдат, бо Германія збіраецца радыкальна вырашыць «Балканскае пытанне». Не будзе забыты і Савецкі Саюз, якому хочуць прапанаваць пралівы. Мяркуецца наступленне праз Мосул і да Суэцкага канала.

Той жа Мюлер сказаў, што Германія перапыніла вытворчасць патронаў і снарадаў. Заводы часткова кансервуюцца, а рабочых перакідваюць на іншыя заводы. Галоўнае зараз — падводныя лодкі.

«Максім».

*Савецкі рэзідэнт «Захар» прыспешваў «Максіма» — патрэбны інфармацыя, новыя сувязі і, урэшце,— праца ў дзяржапараце, а яшчэ лепш — на спецслужбе. «Максім» на сустрэчах тлумачыў, што прапановы на гэты конт ёсць, яму нават пашчасціла пазнаёміцца з абвераўцамі. Гэтыя сустрэчы неабходны былі яшчэ і для таго, каб пазбегнуць мабілізацыі...*

*На чарговую сустрэчу «Максім» выклікаў рэзідэнта абумоўленым званком па тэлефоне — спяшаўся неадкладна перадаць свежыя звесткі.*

(...) 20 снежня адбылася сустрэча ў Фігнера, паведаміў «Максім», куды былі запрошаны Едэль (начальнік генеральнага штаба), генерал Бодэнштатц і генерал Мюлер. Па ходу вечарынкі, каб не атручваць настрою гасцей чаканнем трывогі, Едэль пазваніў у штаб і спытаў: «Ці аб'яўяць трывогу на сённяшнюю ноч?» Са штаба адказалі: трывогі не прадбачыцца. Едэль аб'явіў гасцям, што можна спакойна піраваць, англічане, маўляў, ім не перашкодзяць...

Праз пятнаццаць хвілін... завыла сірэна, і госці здзівіліся недасведчанасці штаба.

У момант налёту я стаяў разам з Едэлем на балконе і назіраў за стралянінай. Я заўважыў: «Якая страшэнная карціна». Едэль адказаў, што гэта яшчэ нічога ў параўнанні з тым, што тут будзе дзеяцца вясной. Гэта было сказана так проста, што можна было падумаць: у Едэля ўжо даўно «жыве» думка аб вайне.

(...) Пасля размовы пра Балгарыю Едэль сам пераключыўся на тэму аб палітыцы Савецкага Саюза. Гаварыў пра знешнюю палітыку СССР з вялікім раздражненнем. Заявіў: СССР спрабуе весці сваю ўласную палітыку, спадзяецца нешта выйграць, але гэта не здарыцца — СССР будзе рабіць тое, што яму загадаем мы. Калі ж бальшавікі паспрабуюць супраціўляцца і задумаюць з намі гуляць, мы разаб'ём гэту банду за два тыдні.

Едэль расказаў гасцям пра ўражанне, якое зрабіў Молатаў на Гітлера. Молатаў стварыў прыемнае ўражанне, але яго акружэнне даволі адмоўнае. Суправаджаючых Молатава людзей Гітлер называў «ланцужнымі сабакамі, якія робяць тое, што ім загадае Сталін».

На пытанне аднаго з гасцей, чаму Германія аказвае такую шырокую тэхнічную дапамогу СССР, Едэль адказаў: «Тое, што мы даём СССР, альбо ўжо тэхнічна ўстарэла, альбо нам самім не патрэбна. Нічога новага ці таго, у чым мы яшчэ зацікаўлены, мы СССР не далі. Супрацоўнікі гестапа пад маркай інжынераў раз'язджаюць з рускімі інжынерамі і пільна сочаць, каб фірма не паказала больш чым дазволена...»

Адзін з маіх знаёмцаў прысутнічаў на вечары, прысвечаным выпуску маладых афіцэраў. Вечар адбыўся 18 снежня у Спорт-паласе Берліна. Прысутнічала каля пяці тысяч чалавек.

З прамовай выступіў Гітлер, які заявіў, што Германію чакае



● Яму, як і «Максіму», ёсць што ўспомніць.

вайна з вельмі ўпартымі ворагамі і што менш за ўсё трэба спадзявацца на хуткае заканчэнне вайны, неабходна прывучаць сябе да думкі: змагацца будзем доўга і нягоды будуць цяжкімі. У гэтым выпадку вельмі радаснай будзе перамога. Схаваўшыся ва ўтульным «опелі» ад пранізлівага лютаўскага ветру, «Максім» расказваў нашаму рэзідэнту і пра візіт да Вольфа ў генштаб. Вось фрагмент іх гутаркі.

(...) Вольф паглядзеў на неба і сказаў:

— Хутчэй пацяплела б, падобна праз чатыры тыдні пачнём ваяваць.

— Дзе? — удакладніў я.

— Усюды,— адказаў Вольф.

— А як з Расіяй?

— Магчыма, што і з ёю... Усё залежыць ад таго, як Расія паглядзіць на нашы дзеянні на Балканах.

— А можа давядзецца змагацца і з англічанамі?

— Хто ведае, якія яшчэ будуць сюрпрызы...

«Максім» расказаў пра ўсё «Захару». І вось яшчэ пацешны эпізод сустрэчы.

Выходзячы са штаба, я падняў руку і сказаў усім прысутным у канцылярыі: «Хайль Гітлер!»

— Кінь ты, мы — людзі ваенныя. У нас гэта прывітанне не ў модзе. Тут табе не гестапа,— заўважыў Вольф.

## З паведамлення ад 15 сакавіка 1941 года

З 1 па 15 сакавіка я быў у раз'ездах па паўночна-ўсходняй Германіі.

(...) Перш-наперш пра ўражанні. Колькі б мы ні ехалі поездам і куды б мы ні ехалі, мы ўвесь час сустракалі эшалоны матарызаваных ваенных часцей, якія накіроўваліся на поўдзень.

Апроч гэтага, па дарозе ў Штэцін (пятнаццаць кіламетраў ад горада) направа — лясы, дзе безліч вайскоўцаў і аэрадромаў.

З гутарак з рабочымі ў лагерах каля Eggesina я вынес уражанне: рабочыя скардзяцца на харчы і цяжар работы.

Ніякага ваеннага энтузіязму я не прыкмеціў! Усе працуюць на абарону, будуюць нейкія падземныя гарады.

А ў адным лагеры, што ў кіламетры ад Eggesina, робяць выбуховыя рэчывы.

(...) У Штэціне стаяць два крэйсеры, але не ў порце, а проста ў заліве.

«Максім».

## З паведамлення ў Цэнтр рэзідэнта ў Берліне

*10 мая «Максім» прысутнічае на вечарынцы ў Фігнера.*

*Паведаміў наступнае:*

*1. Ген. Дэслах прызначаны галоўнакамандуючым паветранымі сіламі на ўсходзе.*

*2. Праводзіцца відавочна тактычная падрыхтоўка ваенных аперацый, бо ген. Дэслах тэлефанаваў і паведаміў, што не можа прыйсці — ён заняты распрацоўкай плана захопу Растова-на-Доне.*

*3. Немцы лічаць, што ў выпадку вайны Берлін будзе жорстка бамбардзіравацца. Пра гэта гаварыў ген. Мюлер, які знаходзіцца пры Браўхічы для асаблівых даручэнняў.*

*4. Нягледзячы на ваенную падрыхтоўку, гаварылі пра тое, нібыта СССР пагадзіўся ўжо аддаць Украіну пад кантроль Германіі і справа можа абысціся без кровапраліцця.*

«Захар».

## 15 мая 1941 года

**У хуткім часе «Максіма» мабілізавалі ў дзеючую армію і сувязь з ім перапынілася...**

**Выйсці ў эфір яму ўдалося толькі ў 1943 годзе, пасля пераходу лініі фронту.**

**Прыводзім некалькі вытрымак са справаздачы, якую «Максім» пісаў ужо ў Маскве.**

«Выехаў з Берліна 29 мая 1941-га, праз тры дні прыбыў у штаб дывізіі, дзе быў накіраваны ў аддзел контрразведкі.

Камдывам у той час быў ген.-лейтэнант Модэль.

З-пад Любліна дывізія прасунулася да граніцы СССР і да сярэдзіны чэрвеня знаходзілася за 4 км. ад чыгункі, ст. Кодэнь.

Пра вайну пагаворвалі, але думкі былі розныя. Большасць сцвярджала, што вайны не будзе. Камандзір 24-га танкавага корпуса генерал-лейтэнант Геер — былы ваенны аташэ ў Лондане. Дывізія належала танкавай групе Гудэрыяна.

Генерал фон Геер выклікаў мяне і задаў наступныя пытанні:

— Як узброена Чырвоная Армія?

— Паводле майго бачання ў Беларусі Чырвоная Армія ўзброена вельмі добра.

— Як вы думаеце, ці будзе ў нас вайна з СССР?

— Безумоўна будзе, бо нацыянал-сацыялістычная Германія не можа сабе дазволіць мець такога небяспечнага ворага, як СССР, у сябе ў тыле, калі яна хоча выйграць вайну з Англіяй.

— Калі будзе вайна, ці скарыстае Чырвоная Армія газы?

— Мяркую, што першай не...

— А я перакананы, што яна будзе ўжываць іх у першы ж дзень вайны, бо ўсё яе ўзбраенне — блеф.

У канцы размовы генерал фон Геер сказаў: «Дзякуй. Жадаю вам поспехаў на ваенным полі дзейнасці...»

## 21 чэрвеня 1941 года

У 5 гадзін вечара 21 чэрвеня маёр Памкоў распячатаў пакет з паметкай «Распакаваць па асобаму загаду», у якім быў заклік Гітлера да войск.

Усіх афіцэраў штаба і салдат выстраілі перад штабам, і маёр прачытаў заклік, у якім гаварылася, што супраць Савецкага Саюза Германія выступіць з вайной і пачынае ваенныя дзеянні пасля 0 гадзін 22 чэрвеня 1941 года.

Настрой у салдат быў прыгнечаны. Кожны ў глыбіні душы ўсведамляў, што «мы» нападаем несправядліва, дый Расія даволі вялікая. Гэта не Бельгія. Канешне, выгляду ніхто не падаваў. Здаецца, толькі афіцэры былі сапраўды задаволеныя навіной. Кожны з іх марыў атрымаць пасля вайны маёнтак у Расіі. Акрамя таго яны снілі ўшанаванні, ордэны і г. д. Я асабіста спадзяваўся, што мае паведамленні з Берліна былі прыняты пад увагу і Чырвоная Армія настолькі падрыхтавана, што з гонарам адаб'е вераломны ўдар ворага. Трэба было быць на маім месцы, каб уцяміць, што тварылася ў мяне на душы, калі на наступны дзень мы перайшлі Буг і я налічыў каля 200 жанчын і дзяцей, забітых артагнём у вёсцы пры Кодэні.

У 3 гадзіны 15 хвілін 22 чэрвеня 1941 года «загаварылі» гарматы ўсіх калібраў, і праз 15 хвілін мы атрымалі загад рухацца наперад і наблізіцца ўшчыльную да ракі Буг. Праз гадзіну мы даведаліся, што мост цэлы і большая частка дывізіі перайшла Буг і штаб можа прасоўвацца наперад. Пры пераходзе праз мост я здзівіўся, што ён абстрэльваецца артылерыяй: думаў, што савецкае супраціўленне ліквідавана.

Да здзіўлення ж немцаў, якія прызвычаіліся, што праціўнік да гэтага адразу здаваўся, рускія батарэі аднаго батальёна (пагран.) вытрымалі націск цэлай дывізіі і ні адзін салдат не здаўся ў палон — адстрэльваліся да апошняга снарада. А тыя, хто не загінуў ля сваіх гармат, адступілі за станцыю Кодэнь.

Атрымалася, што той канцэнтрацыі савецкіх узброеных сіл на германскай граніцы, пра якую столькі крычалі,— не было. Узяўшы Кодэнь, наша дывізія павінна была па плану рухацца на Маларыту (гэта на поўдзень ад шашы Брэст — Масква), але гэты план тут жа змяніўся, бо ні па шашы, ні па дарозе сярод балотаў нямецкія танкі не маглі рухацца, і мы ўзялі накірунак на Брэст. Тут наша дывізія была ўжо 23 чэрвеня ранкам у 3 гадзіны і без затрымак прасоўвалася па шашы на Кобрын.

У Кобрыне адбыўся бой. Было знішчана шаснаццаць савецкіх танкаў тыпу Т-26. Дывізія за гэтыя 30—35 гадзін мела страты невялікія (чалавек дзесяць забітых і раненых і адзін спалены танк ад прамога пападання снарада яшчэ на мосце праз Буг). У Кобрыне мы спыніліся на дзве гадзіны. Генерал Модэль разлічваў, што першая лінія абароны пройдзе на старой польскасавецкай граніцы, але яе тут таксама не аказалася і мы з даволі малымі баямі дайшлі да Слуцка прыблізна 25 чэрвеня. Горад быў узяты ў дзевяць гадзін раніцы.

Тут мне ўпершыню давялося ўбачыць, як «гуляюць» немцы.

Было дазволена рабаваць для падтрымкі добрага духу сярод салдат. Рабавалі абсалютна ўсе і ўсё. Упершыню я ўбачыў, што нямецкія афіцэры таксама цібраць, як і салдаты. Апустошвалі не толькі магазіны, але і грамадзян.

У Слуцку мы былі тры—чатыры гадзіны і рушылі далей.

З боем быў узяты Бабруйск, і тут паўтарылася тая ж карціна — грабеж, п'янства, гвалт... З Бабруйска, пераначаваўшы, пачалі прасоўвацца на Рагачоў. Тут упершыню сустрэлі сур'ёзнае супраціўленне: нас бамбіла савецкая авіяцыя, і мы панеслі вялікія страты сярод людскога саставу, а таксама і ў тэхніцы.

Рагачоў усё ж акупіравалі, пры гэтым страцілі шмат людзей. Пераадолелі Днепр, рушылі на Магілёў праз Крычаў. Тут таксама вымушаны былі сутыкнуцца з сур'ёзным супраціўленнем: савецкая артылерыя моцна абстрэльвала нас, што прывяло да значных страт.

11 ліпеня 1941 года падышлі да Магілёва і хацелі ўзяць яго штурмам, але савецкія войскі, знішчыўшы пятнаццаць танкаў, адкінулі нас ад горада. Модэль прыняў рашэнне горад не браць, а рухацца назад на Бабруйск. На наступны дзень фарсіравалі Днепр у Старым Быхаве, які быў ужо заняты 4-й танкавай дывізіяй. Пераадолелі Днепр і выйшлі ў тыл Магілёва на дарогу Магілёў — Чавусы. Узялі райцэнтр 13 ліпеня. З Чавусаў, дзе адбыліся таксама сур'ёзныя баі, рушылі на Рослаўль за чацвёртай танкавай дывізіяй. За пятнаццаць кіламетраў ад Рослаўля мы размясціліся ў лесе, непадалёку ад Клімавіч. Тут і паведамілі, што дывізія будзе «ачухвацца» ад баёў.

## Накід партрэта генерал-фельдмаршала Модэля

Модэль невялікага росту, рухавы, носіць у правым воку манокль, позірк пранізлівы, гаворыць у нос непрыемным голасам, абрывіста і вельмі неразборліва. Любіць глынуць гарэлкі, але пры гэтым не губляе глебы пад нагамі, на зададзеныя яму ў гэты час пы-

танні адказвае дыпламатычна і разумна. Захапляецца музыкай і асабліва рускімі песнямі. Неаднойчы ён сярод ночы падымаў мяне з ложка і прымушаў забаўляць яго спевамі.

У палітычных адносінах Модэль заўсёды і ўсюды падкрэсліваў сваю адданасць Гітлеру. Я ж упэўнены, што гэта толькі хітрая гульня, бо ён кар'ерыст і прытым даволі высокага палёту. Гітлер яго цэніць, і цяпер, я лічу, у яго вачах Модэль з'яўляецца найбольш аўтарытэтным генералам, і не без падставы: з пункту гледжання арганізацыйных здольнасцей ён наўрад ці мае сабе роўных. Модэль дужа разумны і з вялікай асцярожнасцю прадугледжвае свае «хады». У маю бытнасць пры ім у чэрвені — верасні 1943 года ён праяўляў немалую цікавасць да лёсу Паўлюса і іншых генералаў, якія трапілі ў палон пад Сталінградам. Я заўсёды гаварыў яму, што ўсе палонныя нямецкія афіцэры ў Савецкім Саюзе знаходзяцца ў добрых умовах. Модэль пры гэтым пазіраў удалячынь і аб чымсьці засяроджана думаў...

«Максім», Масква.

**Лёс «Максіма», як і многіх разведчыкаў, склаўся складана. Сваё знаходжанне ў логаве праціўніка «Максіму» нейкі час давялося апраўдваць у турме Ляфортава.**

**Калі высветлілася, што яго не перавербавалі іншыя разведслужбы, «Максіма» зноў накіравалі на Захад, дзе ён выконваў заданні савецкай разведкі ў шэрагу еўрапейскіх краін.**

**У апошні перыяд жыцця «Максім» працаваў за акіянам.**

**Дакументы пад грыфам «сакрэтна» падрыхтаваў да друку Генадзь СЕНЮКОЎ.**

**АД РЭДАКЦЫІ. Што ні кажыце, а ў спецслужбаў традыцыі па-ранейшаму крутыя. Мы рыхтуемся адзначыць 50-годдзе з дня Вялікай Перамогі, а імёны многіх з тых, хто гэтую Перамогу набліжаў, хто змагаўся за яе ў варожым логаве, не можам нават назваць, бо іх лёс пазначаны грыфам «сакрэтна». Разведчык з Беларусі «Максім» і па сёння застаецца «Максімам»... І справа тут не ў гуках фанфар, не ў жаданні пабачыць героя ў твар, а ў тых сціплых словах «Дзякуй!» і «Віншуем з Днём Перамогі», якія нам, нашчадкам, варта сказаць «байцам нябачнага фронту». Тым больш, што ёсць на тое добрая падстава: набліжаецца паўвекавы юбілей з дня Вялікай Перамогі. Не выкажам словы падзякі сёння — заўтра будзе позна — час імчыць няўмольна...**

50

**Галіна АРЛОВА,**
**народная артыстка**
**Беларусі**

# ВІЦЕБСКІ НАПРАМАК

З Віцебска я, мама і бабуля ад'язджалі самым апошнім эшалонам. Гэта быў даволі доўгі таварняк, пад самую завязку набіты дзецьмі, жанчынамі, старымі.

Кірунак — на Смаленск. Але за два дні мы ледзьве адолелі пяцьдзесят кіламетраў. Чыгунку бамбілі, і мы надоўга спыняліся, пакуль яе рамантавалі. Нарэшце, на трэція суткі, непадалёку ад станцыі Рудня наш эшалон спыніўся ў адкрытым полі з рэдкім хмызняком.

Сем гадзін раніцы. Я стаяла каля нашага вагона, калі ў небе пачуўся гул самалётаў, якія набліжаліся да нас. Мы беспамылкова вызначылі: нямецкія. Нехта выказаў здагадку — ляцяць бамбіць Віцебск. Яны імкліва набліжаліся да нашага эшалона. Адзін з іх развярнуўся — і я выразна ўбачыла ненавісныя крыжы на крылах. Пачуўся віск падаючай бомбы і следам страшэнны грукат. Закрычалі дзеці, жанчыны кінуліся закрываць іх сабою, нібыта гэта іх магло ўратаваць.

Тыя, хто выскокваў з вагонаў, на роўным полі былі добрай мішэнню, і іх спакойна расстрэльвалі нізка лятаючыя самалёты. Многія вагоны былі ахоплены полымем. Наш вагон быў у сярэдзіне, і яго толькі прашыла асколкамі ў некалькіх месцах. Мы не выбеглі з вагона — і гэта, мусіць, было нашым збавеннем.

Колькі працягваўся гэты кашмар, я не памятаю. Я дзейнічала неяк механічна, як у жудасным сне. Напэўна, уступілі ў сілу нейкія абарончыя механізмы, каб не страціць розум. Гаварылі, што самалётаў было 27. Прыгадваю: у мяне ў руках вялікі медны чайнік, якога, я ведаю, у нас не было. Да мяне падыходзіць дзед з хлопчыкам на руках. У малога наспех забінтавана галава і з-пад павязкі сочыцца кроў. Стары просіць наліць бедалагу ў рот крыху вады — я гэта раблю. Да глыбокай ночы ў варонках ад бомбаў хавалі загінуўшых.

Мама вырашае — кінуць усё, што ў нас было, і ісці ў Смаленск пешшу. Мы ішлі два дні, правільней, дзве ночы.



Па старой смаленскай дарозе рухаліся нашы адступаючыя войскі, і дарогу пастаянна бамбілі. У фільме рэжысёра Столпера «Жывыя і мёртвыя» гэта карціна ўзноўлена з дакументальнай дакладнасцю.

Калі на трэці дзень мы ўвайшлі ў Смаленск і спусціліся да Дняпра памыцца, пачаўся налёт на горад. Нехта сказаў, што бамбяць у раёне вакзала. Смаленск быў у агні. Нейкім чынам мама даведалася, што сёння апошні эшалон пакідае Смаленск. Гэтым эшалонам мы і паехалі.

Увесь месяц, праз усю Расію, вёз нас гэты эшалон на Урал. З многімі прыгодамі дабраліся, нарэшце, да Свярдлоўска. З вакзала на трамваі мы паехалі ў цэнтр горада. Сышлі на плошчы 1905 года. Горад жыў мірным жыццём. На вуліцах гандлявалі марожаным, сельтэрскай вадой, піражкамі. Мы купілі гарачых піражкоў і селі каля помніка на плошчы. Ну вось, прыехалі, а што далей? Куды ісці? Дзе будзем начаваць? Міма праходзіць жанчына сярэдніх гадоў, спыняецца:

— Вы бежанцы?
— Ага.
— Адкуль вы?
— З Беларусі...
— А дзе начаваць будзеце?
— Не ведаем...
— Тады пойдзем да мяне.

І так было паўсюдна. Тысячы бежанцаў прынялі ў сябе ўральцы. Дзяліліся сваім дахам, адзеннем, давалі работу, месца ў школе.

Назаўсёды засталася ў нашых сэрцах удзячнасць простым рускім людзям, якія працягнулі руку дапамогі ў цяжкую часіну. Гэтую дапамогу мы не забудзем ні-ко-лі.

▣

Першыя паўгода наша жыццё было нармальным. Хаця былі ўжо ўведзены карткі, набор прадуктаў быў дастатковым. Самым цяжкім і крызісным стаў 1942 год. Ён быў найцяжэйшым на ўсіх франтах і ў тыле. У вачах маёй прыгажуні мамы, якой у той час было крыху больш за трыццаць, я ўсё часцей прыкмячала сполахі адчаю. Часта, акрамя акрайца хлеба з соллю і кубка кіпеню, нічога болей не было. І калі ёй прапанавалі выйсці замуж, я была ініцыятарам, каб гэту прапанову яна прыняла як мага хутчэй. На пачатку жніўня 1943 года айчым выклікаў нас са Свярдлоўска ў Маскву, дзе часова пасяліў нас у сваёй пляменніцы, вядомай балерыны Вялікага тэатра. Сам паехаў у Мажайск падрыхтаваць жыллё і запісаць мяне ў школу да пачатку навучальнага года. Літаральна на другі дзень нашага прыезду ў Маскву мы сталі сведкамі першага пераможнага салюту ў гонар узяцця Арла і Белгарада.

Новая радня сустрэла нас ветліва і гасцінна. Гэта быў даволі вялікі клан старой маскоўскай інтэлігенцыі. Шмат вядомых і нават знакамітых дзеячаў мастацтва, літаратуры мне пашчасціць убачыць у гэтым доме. Але гэта здарыцца пазней, калі я буду прыязджаць на школьныя канікулы. А цяпер наш візіт быў кароткачасовым. Трэба было ехаць у Мажайск, уладкоўвацца на новым месцы.

Мой айчым быў начальнікам ПВА на мажайскім чыгуначным вузле, які ў той час лічыўся вельмі важным стратэгічным аб'ектам. Днём і ноччу грукацелі эшалоны. Часта, асабліва ноччу, чыгуначны вузел бамбілі. З першымі сігналамі паветранай трывогі мы з мамай стараліся збегчы з вакзала як мага далей, куды-небудзь у



поле. На шчасце, ніводная бомба не трапіла ў будынак вакзала.

Мама ўладкавалася кухаркай у афіцэрскай сталовай на гэтым жа вакзале. Эшалоны ішлі і ішлі. Стаянка — некалькі хвілін, і за гэты момант трэба было накарміць сотні ваенных. Я вярталася са школы і з вялікім энтузіязмам падключалася да абслугоўвання франтавікоў. Я прасіла маму, каб яна паболей ставіла талерак на мой паднос.

— Сястрычка! Дачанька! — чулася з усіх бакоў, і я з поўным падносам віхурыла з канца ў канец вялікай залы. Іншы раз пад час стаянкі ў нашай сталовай давалі канцэрты маскоўскія артысты з франтавых брыгад. Пасля яны ехалі з канцэртамі далей, на фронт. Адсоўваліся ўбок сталы, вызвалялася, такім чынам, невялікая прастора, і пачынаўся канцэрт. І да гэтага часу перад вачамі твары тых гледачоў. Як непасрэдна, шчыра яны ўсё ўспрымалі, як ад душы радаваліся, смяяліся, жартавалі.

На адным з такіх канцэртаў я ўпершыню пачула песню Марка Фрадкіна «Афіцэрскі вальс», альбо як яе пазней пачалі называць «Выпадковы вальс». Гледачы былі зусім побач, і выканаўца пачынаў нягучна і цёпла:

Ночь коротка, спят облака,
И лежит у меня на ладони
Незнакомая чья-то рука...

Песня так спадабалася, што артысту давялося выконваць яе яшчэ раз.

Грымела каманда: «Па вагонах!», і наша сталоўка пусцела да чарговага эшалона.

Ужо ішлі баі за вызваленне Беларусі. Са зводак Інфармбюро мы пачулі, што з'явіўся «Віцебскі напрамак». Гэта абнадзейвала, што мы хутка вернемся ў свой родны горад. Але міне шмат месяцаў упартых і цяжкіх баёў, з'явіцца яшчэ адна назва — «Віцебскі кацёл», перш чым мы туды вернемся. А я праводзіла эшалоны, якія імчалі на «Віцебскі напрамак». Шмат маладых ваенных, вясёлых, сімпатычных, якіх бачыла я ў цяплушках, напэўна, назаўсёды засталіся на тым напрамку...

Вярнуцца ў свой горад я марыла з самага пачатку вайны. Гэта быў любімы горад. Мне ў ім падабалася ўсё: неширокія вуліцы, усё ў зеляніне, старажытныя дамы старой цагельнай кладкі, з літымі ўзорамі металічныя балконы і лесвіцы. З паласатымі тэнтамі над вітрынамі маленькіх магазінаў, якія прыдавалі гораду нейкую ўтульную патрыярхальнасць.

Наша вуліца і наш двор сніліся мне ўсю вайну. Даваенныя двары — цудоўны мікрасвет дзяцінства. А наш двор асаблівы. У ім квітнеў невялікі фруктовы сад, радавалі вока дзве вялікія бярозы і палісаднік з язмінам, бэзам, ружамі. Кветкавую клумбу мы, дзеці, кожную вясну рабілі самі. Пасля ўрокаў беглі да Полацкага рынку і на грошы, якія нам давалі на сняданак, куплялі насенне розных кветак. Ніхто нас не «ахопліваў» на гэта «мерапрыемства». Усё артымлівалася як бы само па сабе.

Наша вуліца была знакамітая тым, што на ёй знаходзіўся аэраклуб. Перадваенны час — эра авіяцыі, лётчыкаў. Моладзь апантана мроіла небам. Гэтаму садзейнічала і сусветная слава нашых слынных асаў — Чкалава, Громава, Какінакі і многіх іншых. Кінафільмы «Знішчальнікі», «Валерый Чкалаў» мы глядзелі па некалькі разоў. Спявалі не толькі «любімы горад можа спаць спакойна», але і «калі заўтра вайна». Схватка з фашызмам, усе адчувалі, набліжалася. Аэраклуб быў цэнтрам прыцягнення дзятвы не толькі нашай вуліцы, але і ўсіх прылеглых. Як я пасля даведалася — праз наш аэраклуб прайшоў і легендарны тройчы Герой Савецкага Саюза Іван Кажадуб. Наогул, трэба сказаць, моладзь, якая была старэйшай за нас на некалькі гадоў, выклікала наша захапленне.

Любіла тая моладзь збірацца і ў нашым двары. Юнакі і дзяўчаты прыходзілі да сваіх равеснікаў з нашага дома ў перыяд экзаменаў і проста паганяць мячык альбо пагуляць у лапту. Наўрад ці звярталі яны ўвагу на шмыгаючую вакол іх малечу, і ўжо тым больш наўрад ці здагадваліся, што былі пад пільнай нашай увагай, таму што вельмі нам падабаліся. Дзівоснае гэта было пакаленне — чыстае, рамантычнае, беднавата апранутае. Мы бачылі іх улюбёнасць, захапленні без нахабнасці, пошласці.

Шмат добрых спраў змаглі б зрабіць гэтыя хлопцы і дзяўчаты, якія сябравалі з кнігай, але вайна крывавым смерчам прайшлася менавіта па гэтым пакаленні.

Калі чытаеш вершы паэтаў, якія загінулі на вайне ў сваё 18—21 гадоў і не паспелі напісаць цудоўныя вершы, — з пякельным болем думаеш: ой, колькі ж вайна праглынула таленавітага, добрага, можа, геніяльнага. Ветразі рамантычнай «Брыганціны» арганічна з'явіліся менавіта ў гэтага пакалення. «Брыганціну» напісаў адзін з таленавітых маладых паэтаў, якія засталіся на вайне, Павел Коган.

...Пьем за яростных, за непохожих,
За презревших грошевой уют.
Вьется по ветру веселый роджер,
Люди Флинта песенку поют...

Цяжка нават уявіць, каб сёння нарадзілася нешта падобнае.

Дэградацыя духоўнасці пачалася не сёння — сёння яе апафеоз. Слава Богу! Тое пакаленне не забыта. Пра яго складзены вершы, напісаны кнігі, зняты кінафільмы, якія сталі класікай: «Балада пра салдата», «Ляцяць жураўлі», «Дом, у якім я жыву» і шмат іншых.



Калі мы ад'язджалі з Масквы ў Мажайск, родзічы ўзялі з мяне слова, што ўсе канікулы я буду праводзіць у іх. Угаворваць мяне доўга не трэба было — я аб гэтым толькі і марыла. Даведаўшыся пра маё захапленне тэатрам і наогул мастацтвам, Соф'я Мікалаеўна, так звалі балерыну, шчодра забяспечвала мяне білетамі ў любы тэатр на любы спектакль. На маё нясмелае пытанне «А можна ў Вялікі?» Соф'я Мікалаеўна адказвала: «Няма нічога прасцейшага! Што табе больш падабаецца: опера ці балет?» Я гаварыла: «балет», і гэта не было данінай вядомай балерыне — я сапраўды вельмі любіла балет. Яна працягвала: «Паслязаўтра ў тэатры «Лебядзінае возера» з удзелам Вольгі Лепяшынскай — вось і пойдзеш».

Радня крытычна агледзела мой гардэроб і зрабіла аднадушны вывад: у такім выглядзе ў Вялікім тэатры паказвацца нельга. Вырашылі звярнуцца да Сонечкі, каб яна падабрала што-небудзь для Галі са свайго гардэроба.

У дні, калі адбывалася Тэгеранская канферэнцыя кіраўнікоў трох дзяржаў — СССР, ЗША і Вялікабрытаніі, туды для канцэртаў вылецела група артыстаў Вялікага тэатра. У гэтай групе была і Соф'я Мікалаеўна. І там, у Тэгеране, яна купіла чароўнае плацце за 60 туманаў.

Вось гэтую сукенку і далі мне на «Лебядзінае возера», папярэдне крыху ўкараціўшы. Маё наведванне Вялікага тэатра было ў дні, калі толькі што адкрылі другі фронт. Не дачакаўшыся аслаблення Савецкай Арміі, а наадварот — уба-

чыўшы яе нарастаючую магутнасць, нашы саюзнікі ЗША і Англія напрыканцы вайны, нарэшце, адкрылі другі фронт. Я не гісторык, але гэта агульнавядома.

▣

У перапоўненай зале было многа англійскіх і амерыканскіх ваенных, па-мойму, у асноўным лётчыкаў. Адусюль чулася англійская мова.

Рэакцыя гледачоў была адназначная — захапленне. Тое, што адбывалася на сцэне, іншай рэакцыі выклікаць не магло. Лепяшынская была ў той час у самым росквіце свайго таленту і славы. Яе вогненны тэмперамент літаральна наэлектрызоўваў залу, і кожны выхад суправаджаўся авацыямі. А калі яна бліскуча выканала знакамітыя 32 фуэтэ,— быў шквал апладысментаў і воклічаў «Брава!»

Соф'я Мікалаеўна аднойчы паставіла мяне перад цяжкім выбарам. Прынесла білеты адразу на дзве прэм'еры ў адзін і той жа дзень. Адзін білет быў, калі мне не здраджвае памяць, у ЦДРМ, на першы канцэрт Аляксандра Вярцінскага пасля яго вяртання з эміграцыі, другі — на прэм'еру па п'есе Гусева «Сыны трох рэк» у Маскоўскім тэатре драмы. Пазней гэты тэатр будзе называцца тэатрам імя Маякоўскага.

Урэшце, шчыра кажучы, выбар быў не такім ужо цяжкім, таму што ў той час майму пакаленню імя Вярцінскага нічога не гаварыла. Калі ён быў у зеніце славы — нас яшчэ не было на свеце. А калі мы з'явіліся — яго імя замоўчвалася.

Даведаўшыся, што ў спектаклі заняты Яўген Самойлаў, якога, канешне, ведала па кінафільмах «Сэрцы чатырох», «У шэсць гадзін вечара пасля вайны» і інш., аддала перавагу тэатру. Дый пастаноўшчык спектакля Ахлопкаў быў таксама вядомы па кіно як артыст. П'еса, напісаная белым вершам, была схематычная, і нават мой кумір здаваўся хадульным і нежыццёвым. Я пачала ўжо шкадаваць, што выбрала гэты спектакль, як на сцэне з'явілася актрыса. Яна яшчэ не вымавіла ні слова, а я адразу неяк унутрана насцярожылася, падалася наперад і не магла адарваць позірку ад чароўнага аблічча кволай бялявай маладой жанчыны ў цёмным аксамітным касцюме і такім жа берэціку. Яна загаварыла меладычным серабрыстым голасам, і ўсе астатнія персанажы перасталі для мяне існаваць. Я чакала толькі выхаду гэтай актрысы. Але выхадаў было ўсяго тры. Роля была эпізадычная, але менавіта яна занатавалася ў маёй памяці, адзіная з усяго спектакля. У антракце куплю праграму і чытаю: «Француженка Мары — артыстка М. І. Бабанава». На жаль, гэта імя мне нічога не гаварыла (яна ж не здымалася ў кіно). Паколькі гэта была прэм'ера — у канцы спектакля выходзіў раскланьвацца элегантны, прывабны рэжысёр Ахлопкаў і выводзіў на апладысменты акцёраў, але я бачыла толькі твар чароўнай актрысы.

▣

У 1987 годзе, калі мы з тэатрам Янкі Купалы былі на гастролях у Маскве, Усерасійскае тэатральнае таварыства ў цыкле сустрэч «Бацькі і дзеці» (акцёрскія дынастыі) рашыла ў Цэнтральным Доме акцёра наладзіць наш сямейны вечар. Да мяне і майго мужа Мікалая Яроменкі далучыўся і наш сын Мікалай Яроменка-малодшы (так яго прадстаўляе прэса), які толькі што вярнуўся з кінаэкспедыцыі і быў дома, у Маскве.

Трэба аддаць належнае масквічам — яны ўмеюць наладжваць такія вечары. Зала была паўнюткая. Вечар вяла народная артыстка СССР Людміла Касаткіна. Прысутнічала многа акцёраў з розных тэатраў Масквы. Прыём быў цёплы і сяброўскі. Пасля вечара да нас за кулісы завітала нямала артыстаў і сярод іх быў Яўген Самойлаў — кумір майго дзяцінства. Мы пілі чай з мятай і яшчэ з нейкімі травамі, размаўлялі. Накіроўваюся да Самойлава і кажу:

— А ведаеце, Яўген Валяр'янавіч, я была на вашай прэм'еры «Сыны трох рэк».

Ён пляснуў рукамі і ўсклікнуў:

— Божа! Як даўно гэта было!..

Соф'я Мікалаеўна была на першым канцэрце Аляксандра Вярцінскага, дзе, паводле яе слоў, знаходзілася «ўся Масква». «Уражанне хвалюючае і драматычнае». Неўзабаве ў яе кватэры з'явіліся стосы пласцінак Вярцінскага — амаль увесь яго рэпертуар. Паступова і я іх ведала практычна ўсе. Многія песні сталі любімымі, асабліва «У стэпе Малдаванскім».

...И две ласточки, как гимназистки,
Провожают меня на концерт...

Пасля, калі я стала актрысай, гэтыя веды мне вельмі спатрэбіліся. У п'есах, дзе дзеянне адбывалася ў гады рэвалюцыі, грамадзянскай вайны альбо ў асяроддзі белай эміграцыі, гэтыя песенькі былі істотнай падмогай у стварэнні вобразаў.

▣

Наступіла вясна 1944 года. Яна была шчымлівая-радаснай. З фронту ішлі добрыя звесткі. Наша армія па ўсіх франтах граміла фашысцкую нечысць. Вызвалялася родная Беларусь. З паведамленняў-зводак мы даведаліся, што асабліва лютавалі фашысты на «Віцебскім напрамку». Віцебск гітлераўцы называлі «шчытом Прыбалтыкі». Вясна 1944 года была цёплая; парыльня з частымі навальніцамі, ліўнямі, пасля якіх зноўззяла сонца. Усё расло, квітнела. Асабліва буйна раскашоўваўся бэз у закінутых палісадніках каля разбураных дамоў. І адусюль несліся салаўіныя спевы. Такога хору я больш ужо ніколі не зведала. Калі я чую песню ваенных гадоў «Салаўі», мне прыгадваецца вясна 44-га года ў разводдзі салаўіных трэляў.

Песні вайны... З мноства гукаў іх беспамылкова пазнаеш па цёплай, шчырай інтанацыі. Іх было многа (вось ужо дзе музы не маўчалі!). Яны адразу, імгненна станавіліся вядомымі, і іх усюды спявалі. Яны прайшлі выпрабаванне часам, сталі песеннай класікай, залатым запасам духоўнага жыцця народа.

Калі цяпер псіхіка іншы раз не вытрымлівае віскатлівага і дрыгаючага сатанінства, паставіш на дыск прайгравальніка песню тых гадоў і ў душы наступае раўнавага, пачынаеш спадзявацца, што, можа, не канчаткова страчаны здаровы сэнс...

▣

Вясна 1944 года засталася для нас незабыўнай і яшчэ адным штрыхом, як бы мовіць, на бытавым узроўні. Нагаладаўшыся ў Свярдлоўску, мама задумала вырашыць харчовую праблему ўласнымі сіламі. У нашай прывакзальнай зоне было многа разбураных дамоў, каля якіх некалі знаходзіліся гароды. Мы ачысцілі іх ад бітай цэглы, ускапалі і засадзілі бульбай, капустай і іншай агароднінай. Гэта было добрай дапамогай, а лішкі мы нават з мамай вазілі прадаваць у Маскву. Добра запамяталася, што цягнік адыходзіў у чатыры гадзіны раніцы. Ніякіх сігналаў адпраўлення не было, толькі раздаваўся лязгат, моцны штуршок і ў поўнай цемры, паступова набіраючы хуткасць, поезд ішоў да Масквы. Аднойчы, збіраючыся ў чарговы вояж у Маскву на Цішынскі рынак, мы набілі вялізны мех маладымі буракамі з бацвіннем, зацягнулі яго на самую верхнюю паліцу, а самі размясціліся ўнізе, чакаючы адпраўлення. Насупраць нас сядзеў інтэлігентнага выгляду масквіч у акулярах, і, згорбіўшыся, драмаў. Як заўсёды, пачынаецца лязгат, штуршок — і наш мех скочваецца з верхняй паліцы і падае прама на масквіча. Злятаюць акуляры, ён клюе носам у калені. Ад нечаканасці мы заміраем, потым хапаем злашчасны мяшок і закідваем яго назад, чакаючы папрокаў пацярпеўшага. Ён адшуквае акуляры, надзявае іх і ціхім, інтэлігентным голасам гаворыць:

— Вы б свой мяшэчак прывязалі неяк, а то... неяк неінцярэсна.

Гэтае «неяк неінцярэсна» прымушае мяне заціснуцца ў вугал і літаральна рыдаць ад смеху.

▣

Вось і наступіў доўгачаканы дзень — 24 чэрвеня 1944 года вызвалілі Віцебск. Мною авалодала нясцерпнае жаданне пачаць збіраць рэчы і як мага хутчэй вяртацца ў свой горад. Рыгор Васільевіч, мой айчым, ахалоджвае:

— Вось пачакай, спачатку я паеду туды адзін, пагляджу, што і як.

І сапраўды — неўзабаве паехаў. Вярнуўся праз тыдзень змарнелы, маўклівы. На ўсе мае пытанні адказваў коратка:

— Прыедзеш — убачыш усё сама...

Аднойчы ён прынёс радасную вестку: нам і яшчэ некальkім сем'ям выдзяляюць адкрытую таварную платформу і ў вызначаны дзень мы можам ехаць.

Наша адкрытая платформа была добрай агляднай пляцоўкай. Па абодва бакі чыгуначнага палатна мы бачылі страшэнныя сляды вайны. Прыцемкамі мы прыбылі ў Віцебск. У першы свой прыезд Рыгор Васільевіч нагледзеў на ўскрайку некалькі ўцалелых драўляных домікаў, і ў адным з іх мы пасяліліся.

Я ўжо была падрыхтавана да таго, што Віцебск моцна разбураны, але што майго горада болей няма — гэтага я сабе ўявіць не магла. Мне сказалі — на працягу некалькіх месяцаў баёў за вызваленне Віцебска, дзень за днём, дом за домам, вуліца за вуліцай, метадычна знішчаўся горад. Нават трамвайныя рэйкі былі павырываныя. Чыстакроўныя арыйцы пакідалі пасля сябе мёртвую прастору. Горада майго дзяцінства болей не існавала.

Калі паўстала пытанне аб аднаўленні Віцебска, многія нашы спецыялісты і амерыканская камісія лічылі немагчымым яго аднавіць і прапаноўвалі перанесці будаўніцтва ў іншае месца.

Але наш народ, як ні гучна гэта гучыць, наш шматпакутны савецкі народ, не адпачыўшы ніводнага дня пасля найжудаснейшай вайны, напружваючы апошнія сілы, узяўся за аднаўленне. Многае ён пабудуе нанава — і масты, і чыгункі, і гарады. Падымуць з попелу і цябе, мой горад.

Адновяць. Пабудуюць. Нізкі, да зямлі, ім паклон і вечная ўдзячнасць.

**Пераклад з рускай Алеся БЯРЖЫНСКАГА.**

# 50

# «Мне давялося асабіста пабываць на камандным пункце дывізіі...»

**На адным з дамоў, што стаіць у пачатку нашай вуліцы, прымацавана шыльда, якая сведчыць: «Вуліца названа ў гонар Героя Савецкага Саюза Івана Русіянава». І ўсё. Невядома, ці вызваляў ён Уручча і калі вызваляў, то ў які час. Можа, «Беларусь» мае магчымасць больш падрабязна расказаць аб гэтым чалавеку?**

**Іван КАСПЯРОВІЧ,**
**жыхар Мінска.**

У жніўні 1940 года Іван Мікіціч Русіянаў быў прызначаны камандзірам 100-й стралковай дывізіі, якая дыслацыравалася ва Уруччы, што паблізу Мінска, і ўжо на трэці дзень Вялікай Айчыннай уступіла ў бой. І з 25 па 28 чэрвеня нанесла значныя страты 35-й пяхотнай дывізіі праціўніка. Каля Астрашыцкага Гарадка байцы Русіянава ўпершыню прымянілі супраць нямецкіх танкаў бутэлькі з гаручай сумессю. У баях за Мінск дывізія знішчыла полк варожай пяхоты, паўтара батальёна матацыклістаў, амаль поўнасцю 25-ты танкавы полк.

Сілы аднак былі няроўнымі. 29 чэрвеня пачаўся адыход, прытым праз вузкі калідор на Волме. Па знаёмых пераправах дайшлі да ўсходняга берага Бярэзіны. І тут зноў завязаліся жорсткія баі. «Сотая» мужна адбівалася некалькі дзён. У той час сярод войскаў Заходняга фронту была распаўсюджана лістоўка, падпісаная маршалам Цімашэнкам і Мехлісам. У ёй сцвярджалася: «Сотая дывізія не баіцца нямецкіх танкаў — яна іх спальвае». Пасля 16 знясільваючых дзён у акружэнні генерал Русіянаў з групай байцоў усё ж прабраўся да сваіх непадалёку ад Смаленска.

Менавіта тут, у Беларусі, Іван Мікіціч стаў першым гвардзейцам Чырвонай Арміі. Яго дывізія вызначылася і ў баях пад Ельняй у верасні сорак першага. Загадам наркома абароны яна была перайменавана ў 1-ю гвардзейскую стралковую дывізію, а ў пачатку 1943 года разгорнута ў першы гвардзейскі механізаваны корпус. Ён удзельнічаў у Сталінградскай бітве, вызваляў Украіну, вызначыўся ў баях за Будапешт і Вену. Трынаццаць разоў корпус адзначаўся ў загадах Вярхоўнага Галоўнакамандавання, быў узнагароджаны ордэнам Кутузава II ступені, атрымаў ганаровае найменне «Венскі».

Генерал-лейтэнант Іван Русіянаў быў удастоены звання Героя Савецкага Саюза, трох ордэнаў Леніна, чатырох — Чырвонага Сцяга, ордэнаў Суворава другой і Кутузава першай ступені, а таксама ордэнаў шэрагу замежных дзяржаў.

Вось што пісаў пра яго Маршал Савецкага Саюза Георгій Жукаў: «Мне давялося асабіста пабываць на камандным пункце камандзіра дывізіі паважанага І. М. Русіянава. Я бачыў, з якім бясстрашшам і імклівасцю часці дывізіі грамілі адборныя нямецка-фашысцкія войскі, а камандна-палітычны састаў дывізіі ўмела і ўпэўнена кіраваў боем...».

Памёр Іван Мікіціч у 1984 годзе.

Вуліца ва Уруччы яго імем названа не выпадкова. У гэтых мясцінах ён змагаўся. Змагаўся за шчасце тых, хто жыве цяпер у гэтым прыгожым мікрараёне.

**Барыс ДАЛГАТОВІЧ,**
**кандыдат гістарычных навук.**

**— 3 ліпеня мы адзначаем 50-я ўгодкі з дня вызвалення Беларусі ад гітлераўскіх захопнікаў. Дата і ўрачыстая, і журботная. Журботная не толькі таму, што звязана з паміналнем мільёнаў загінуўшых, але і таму, што «новы погляд» на Вялікую Айчынную многіх сучасных гісторыкаў і палітыкаў часта выклікае горкія пачуцці. Што думаеце вы, франтавік і мастак, чыя творчасць звязана з ваеннай тэмай, аб той пераацэнцы каштоўнасцей, якая адбываецца ў грамадстве!**

— Усіх, хто спрабуе сказіць праўду гэтай вялікай вайны, хто імкнецца прынізіць нашу перамогу, паказаць нязначным гераізм нашых салдат, а на п'едэстал узводзіць здраднікаў радзімы, я называю здраднікамі.

**— Навошта так сурова, Мікалай Іванавіч! Давайце цвяроза зірнём на рэчы. Вядома ж, колькі людзей загінула з-за бяздарнасці камандзіраў, асабістых амбіцый палкаводцаў ды і самога Сталіна...**

— Я хоць і не тэарэтык, і не ваенны гісторык, але бачу, што вы блытаеце палітычныя і ваенныя пытанні. Паспрабуем падзяліць іх. Дыктатарскі метад кіравання, прымат адзінаначалля прывёў да цяжкіх пралікаў, да вялізнай трагедыі для дзяржавы і народа. Сталін не быў ваенным чалавекам, ён быў кіраўніком краіны. Да таго ж кіраўніком дыктатарскага тыпу, які лічыў, што ён разумнейшы за ўсіх, далей за ўсіх бачыць. А паколькі метады кіравання ў яго былі дыктатарскія, то і пярэчыць яму ніхто не мог. У выніку адсутнічаў аб'ектыўны погляд на ацэнку падзей.

Цяпер — уласна ваеннае пытанне... І ў першую чаргу аб кадрах. Сорак першы год паказаў, што палкаводцы грамадзянскай вайны не гадзіліся для новых змаганняў. Старыя маршалы — Варашылаў, Будзённы, Кулік і іншыя аказаліся бездапаможнымі ў непрывычных умовах, не выйгралі ніводнай бітвы. Магчыма, я памыляюся, але ж... Толькі ў баях Вялікай Айчыннай сфарміравалася новая плеяда камандных кадраў. Якраз яны і змаглі зберагчы мільёны салдат і афіцэраў — сваімі прадуманымі тактычнымі і стратэгічнымі дзеяннямі.

**— Дапусцім, што з роляю палкаводцаў мы разабраліся. А як ацаніць ролю палітрукоў, якія часта гналі байцоў пад кулі!**

— Гэтае пытанне не да мяне. Я — радавы вайны, дакладней — сяржант-кулямётчык, які выконваў загады камандзіраў. Тым не менш, на маю думку, пытанне трэба ставіць шырэй: пра ролю камуністаў, якіх цяпер абвінавачваюць ледзь не ва ўсіх грахах. Згадваючы пра страты ў той вайне, нельга не сказаць, што з тых трох мільёнаў вайскоўцаў, якія загінулі ў першыя паўгода вайны, паўмільёна былі камуністамі. А ўсяго з васьмі мільёнаў загінуўшых іх было 2 мільёны 300 тысяч чалавек. Амаль кожны трэці. Партыйныя прадстаўнікі ў часцях дапамагалі забяспечваць асабовы састаў усім неабходным, падтрымлівалі пэўны маральны стан, павышалі баявы дух людзей. Значыцца, партыя сумела арганізаваць і згуртаваць савецкі народ, прывесці яго да Перамогі. Згодны, не ўсё было добра ў палітыка-выхаваўчай рабоце. Але ж ніхто нікому не загадваў пісаць перад боем: «Калі загіну, прашу лічыць камуністам», а такіх прыкладаў не пералічыць... Усё робіцца ведамі, перамога — таксама. А яе забяспечвае сіла духу.

**— Не баіцеся, што могуць залічыць у «чырвона-карычневыя»!**

— Не баюся. Толькі крыўдна. Так, мы сапраўды ішлі ў бой пад чырвонымі штандарамі, каб перамагчы карычневых. Пераможны сцяг над рэйхстагам таксама быў чырвоным. Злучыць гэтыя два колеры ў адно — самая вялікая абраза для ветэранаў.

**— Скажыце ўсё ж, як чалавек, які не раз быў сам-насам са смерцю, хто выйграў вайну: чалавек ці сістэма!**

— У апошні час можна пачуць ад сяго-таго, што перамога дасягнута ў выніку прымусу, што гераізм здабыты з-пад палкі. Гэта лжывыя сцвярджэнні. Не за Сталіна мы кідаліся пад кулі, а за ісціну, за будучыню. Глыбока перакананы, што перамога дасягнута якраз наперакор прымусу. Гераізм з-пад палкі проста немагчымы. І народ, толькі разагнуўшыся, аказаўся здольным на Перамогу. Успомніце хоць бы беларускіх партызанаў. Хто іх, пажылых мужчын, маладых жанчын прымушаў браць у рукі зброю, хадзіць у разведку, штодзённа рызыкаваць сваім жыццём і жыццём сваякоў? Любоў да свайго краю, народа, нянавісць да прыгнятальнікаў штур-



Фота Яўгена ПЯСЕЦКАГА.

# Мікалай КАНДРАЦЬЕЎ:
# «ГЕРАІЗМ НА ФРОНЦЕ І Ў ТЫЛЕ ПАД ПРЫМУСАМ БЫЎ ПРОСТА НЕМАГЧЫМЫ»

хала іх на подзвіг. А што гэта, як не патрыятызм? Не-не, тое, што тоіцца ў душы, адняць нельга.

**— Здавалася б, пераможцы павінны і жыць, як належыць пераможцам...**

— Ну, гэта не іх віна, гэта віна тых, хто разбурыў вялікую дзяржаву, перарэзаў яе межамі і мытнямі, якія скалечылі і калечаць лёсы людзей, асабліва ветэранаў. Мы цяпер падзелены да такой ступені, што не толькі не можам сустрэцца з сябрамі-аднапалчанамі, але і напісаць адзін аднаму пісьмо, пасласць віншавальную тэлеграму.

Ведаеце, мне было сорамна глядзець на фотаздымкі ў газеце «Рэспубліка». Сфатаграфаваны ветэраны гітлераўскай арміі, якія скідваюць дойчмаркі-падачкі нашым ветэранам — нямоглым і бедным старым...

**— Два вялікія народы перажылі страшэнную вайну, больш як 30 мільёнаў забітых, мёртвых з двух бакоў. Калі лічыцца з логікаю, калі не пераступаць нейкі рубеж,— даравання быць не можа! Міжволі прыгадваюцца словы Хрыста: «Любіце ворагаў вашых». Прыгадваюцца, бо любоў Бога, якая жыве ў сэрцы чалавека, змушае яго быць літасцівым да былых ворагаў...**

— Аднак гэта зусім не значыць, што мы павінны кідацца да іх з абдымкамі і дзякаваць ім за кроў і слёзы нашы. Да нашых ворагаў мы павінны быць бязлітаснымі. Бязлітаснасць — ад усведамлення сваёй справядлівасці. Ведаеце, гэтае сённяшняе масавае братанне, даранне, пакаянне, на мой погляд, не што іншае, як гульня ў высакароднасць. Мне не раз даводзілася сустракацца з былымі салдатамі рэйха. І што? Ніводзін з іх не прызнаўся, што ён забіваў, страляў, здзекаваўся... А зазірніце ў музей Вялікай Айчыннай, якія жудасныя малюнкі ўбачыце! Хто мне дакажа, што менавіта яны не вешалі нашых дзяцей, не спальвалі ў крэматорыях нашых дзяўчат, не выраблялі сумак са скуры нашых ваеннапалонных... Не, мы не можам забыць... Не маем права...

**— У тым і справа, што забываем...**

— Мінулае нельга адпрэчыць, адсекчы адным ударам сякеры — яно з намі, і мы ўспамінаем его, каб праверыць дзень сённяшні. Для гісторыі ўсё роўна, як адбываюцца падзеі — яна становіцца на бок тых, хто здзяйсняе вялікія справы і дасягае вялікіх мэтаў. Так, сёння некаторым найбольш спрытным спадарам хочацца перапісаць і гісторыю Вялікай Айчыннай: маўляў, калі б здаліся гітлераўцам, то даўно ўжо на кожным скрыжаванні стаяла б бясплатнае баварскае піва. Які здзек над ветэранамі, загінуўшымі, іх дзяцьмі! Не, сто разоў меў рацыю лакскі паэт Гафураў, калі сказаў: «Калі стрэліў у мінулае з пісталета, будучае стрэліць у цябе з гарматы».

**— Мікалай Іванавіч, вы па нацыянальнасці — рускі, сібірак, больш як дваццаць гадоў працуеце ў Беларусі, тут жывуць вашы дачка, унук. Дык хто вы ўсё ж — рускі ці беларускі скульптар!**

— Гледзячы што мець на ўвазе... Разумееце, не па прыналежнасці да той ці іншай нацыянальнасці мяне ў свой час узнагародзілі ордэнам Дружбы народаў. Не чыста нацыянальнымі інтарэсамі я кіраваўся, калі працаваў над стварэннем мемарыяльных комплексаў у Дорах Валожынскага і Брыцалавічах Асіповіцкага раёнаў, над помнікамі і скульптурнымі кампазіцыямі ў Мінску, Маларыце, Іўі... Гераіні маіх «Удоў» — не толькі нястомныя працаўніцы калгаса «Чырвоны сцяг», чый лёс зламала вайна,— там і мая бабуля Груня, і ўдовы хутара Равяцічы Бярозаўскага раёна, якія не дачакаліся сваіх каханых. Вобраз гэты — збіральны, інтэрнацыянальны.

Я не магу назваць сябе, як некаторыя мае калегі, патрыётам Беларусі ці Расіі. Патрыятызм і інтэрнацыяналізм — дзве сілы, якія дзейнічаюць у адным напрамку і знаходзяцца ў дыялектычнай сувязі і ўзаемаабумоўленасці. Я хутчэй за ўсё — савецкі мастак, ім застаюся.

У 17 гадоў я трапіў на фронт, ваяваў у першым механізаваным корпусе былой 100-й дывізіі, якой камандаваў генерал Русіянаў. Камандзірам маёй роты быў мардвін, камандзірам аддзялення — беларус, старшыной — данскі казак, першым нумарам разліку — казах... Мы па-брацку дзялілі апошнюю скарынку хлеба, апошнюю цыгарку, накрываліся адным шэрым шынялём. А цяпер...

**— Час іншы, Мікалай Іванавіч.**

— Па-мойму, не час вінаваты, а дэвальвацыя сумлення, прагнае жаданне перакроіць мінулае. Мы, быццам бы, не па правілах жылі, няправільна будавалі гарады, вырошчвалі хлеб, раджалі дзяцей. Няправільна верылі, не так кахалі, не так ненавідзелі. Ведаеце, мне часам страшна слухаць некаторых сваіх калег... Я, паверце, не супраць самастойнасці і незалежнасці Беларусі, якую я вызваляў ад фашыстаў і якая стала для мяне другой радзімай. Наадварот, я жадаю маёй рэспубліцы росквіту і раблю ўсё магчымае для гэтага. Я ўдзячны гэтай зямлі і яе цудоўным людзям за тое, што яны даюць мне прыліў творчых сіл. Тэму вайны, гераізму я наўрад ці змог бы так дакладна і глыбока паказаць, жывучы ў іншым месцы.

Я ніколі не лічыў беларусаў, як і прадстаўнікоў іншых народаў, чужымі, а заўсёды адчуваў, што мы жывём у адной сям'і, і калі жывём не так, як хацелася б, то гэта віна не кагосьці аднаго, а агульная віна, бяда і боль. Крыўдна, канешне, што патрыятызм рускіх сталі змешваць з не маючым нічога агульнага шавінізмам.

**— А вы асабіста адчуваеце на сабе прэс так званых нацыянал-патрыётаў!**

— Я стараюся слухаць голас часу і ісці сваёй сцяжынаю. Час не чакае, таму трэба спяшацца жыць і працаваць, а не цешыць сябе размовамі аб тым, хто вінаваты ў нашай галечы. Я — за нацыянальнае адраджэнне. Аднак робіцца крыху боязна (а гэта пацвярджаецца жыццём), што ледзь толькі пачынаецца актывізацыя пэўных сіл, робіцца стаўка на нацыянальнае ў палітыцы, рэлігіі, культуры,— узнімаецца хваля нацыяналізму, і ўсё духоўнае, грамадзянска-патрыятычнае, гуманнае, што было крытэрыем супольнасці народаў, адпрэчваецца. Дзякуй Богу, што Беларусь, як іншыя былыя саюзныя рэспублікі, не зачапіла чума XX стагоддзя — нацыяналізм. Спадзяюся, што так будзе і надалей.

**— Хацелася б ведаць вашу думку аб ролі манументальнай прапаганды, якая ў апошні час аказалася ў заняпадзе.**

— Згодны, становішча крытычнае. У рэспубліцы няма планавай дзяржаўнай палітыкі фінансавання манументальнай прапаганды. Звярніце ўвагу: мы да гэтага часу на месцы баёў, на вайсковых могілках устанаўліваем бетонныя абеліскі. Яны ператварыліся проста ў пазнавальныя знакі. Маркотныя, аднастайныя, абязлічаныя і абяздушаныя. На большае няма грошай. Аднак чаму б міністэрству абароны не ўнесці сюды свой уклад? Яно знаходзіць немалыя сумы на ўтрыманне спартыўных каманд, трэніровачных баз, на правядзенне разнастайных конкурсаў і г. д. А вось на ўзвядзенне мемарыялаў, на святую справу... Нядобра тут штосьці.

Зірнём на праблему і з другога боку. Колькі ў нас малых гарадоў, што далі радзіме славутых людзей, якія сваімі дзеяннямі ўславілі не толькі бацькоўскі парог, але і Айчыну ў цэлым? Ці ёсць ім помнікі? Часцей за ўсё — няма. Вось дзе спатрэбіўся б наш традыцыйны метад ахвяравання. Цяпер вяртаюцца народу імёны яго слынных сыноў і дачок. Хацелася б, каб яны былі ўвекавечаны ў метале. Ды так, каб да іх можна было падысці, звярнуцца са сваімі думкамі, сумненнямі...

**— Вось толькі ці надыдзе такі час! А пакуль, як казаў Ясенін, «край мой болен»...**

— Дык і давайце дружнай талакою лячыць яго. Вылечыць радзіму — усё роўна што вылечыць маці. Яна, радзіма, даецца кожнаму і аднойчы. Яе не выбіраюць па свайму густу і жаданню, дакладна так, як і не выбіраюць сабе маці. Таму і ўспрымаць яе трэба без наракання і крыўды, без плебейскай зайздрасці да іншых людзей і народаў, да іншай, магчыма, больш цёплай і ўрадлівай зямлі.

**Гутарыў Уладзімір БАЦКАЛЕВІЧ.**




**● Мемарыяльны комплекс у калгасе «Іскра» Пухавіцкага раёна. Аўтар — скульптар Мікалай Кандрацьеў.**

# Хрысціянскі каляндар



## ЛІПЕНЬ

### ПА ПРАВАСЛАЎНЫМ ЗВЫЧАІ

**3 (нядзеля)** — Усіх святых зямлі Рускай.
**6 (серада)** — Уладзімірскай Іконы Божае Маці. Сабор Уладзімірскіх святых. Купалле.
**7 (чацвер)** — Нараджэнне Прарока, Прадцечы і Хрысціцеля Гасподняга Іаана.
**10 (нядзеля)** — Сабор Беларускіх святых. Сабор Наўгародскіх святых.
**12 (аўторак)** — Першавярхоўных апосталаў Пятра і Паўла.
**13 (серада)** — Сабор 12 апосталаў.
**17 (нядзеля)** — Сабор Цвярскіх святых.
**18 (панядзелак)** — Аднойдзенне мошчаў прап. Сергія, ігум. Раданежскага (1422).
**19 (аўторак)** — Сабор Раданежскіх святых.
**26 (аўторак)** — Сабор Архангела Гаўрыіла.
**28 (чацвер)** — Роўнаапостальнага вялікага князя Уладзіміра (1015).
**31 (нядзеля)** — Памяць святых айцоў шасці Усяленскіх сабораў.

### ПА КАТАЛІЦКІМ ЗВЫЧАІ

**5 (аўторак)** — Святых Кірылы і Мяфода.
**20 (серада)** — Прарока Іллі.
**24 (нядзеля)** — Святых Барыса і Глеба.
**25 (панядзелак)** — Святое Ганны.

Фота Алены ЛЕВІТМАН.

**Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ**



*Зноў не пра тое гаворым,*
*Зноў не пра тое крычым.*
*І адзінока ўначы*
*Думку балючую творым.*

*Плачам калі — то жывём,*
*Стогнем калі — то кахаем.*
*Вечны свой шлях абіраем*
*І праз пакуты ідзём.*



*Якія пальцы ў арганіста!..*
*Такі магутны ў рухах дух,*
*Што вымкне гук, празрыстачысты,*
*Нібыта птушаня з-пад рук.*
*І зоры ўсё бліжэй і вышай,*
*І сэрца б'ецца ўсё часцей.*
*І на душы спакой і ціша*
*Пад ззяннем дарагіх вачэй.*
*Тваё дыханне адчуваю*
*Нібы праз трапяткі туман.*
*Тут я такі, тут ты такая,*
*Тут Бог, пяшчота і арган.*



*Не, не варта вінавапіць лёс*
*І шукаць апірышча ў адчаі.*
*Кожны сам, урэшце, вызначае*
*Свой канец, як вызначыў Хрыстос.*
*Бо лягчэй скарыцца і зманіць,*
*Пашукаць абставін вінаватых...*
*Бледны месяц над бацькоўскай хатай*
*Як сумленне вечнае вісіць.*
*Крыкне птушка. Зазвініць лядок.*
*Недзе рэха адгукнецца гулка.*
*Хоць душы збалелай у целе мулка,*
*Але тэрмін вызначыць ёй Бог.*
*Вінаваціць некага цяпер.*
*І паходняй неба ружавее.*
*Я прымаю лёс свой напавер*
*У самоце, скрусе і надзеі.*



*Не будзе іншае зямлі,*
*Не будзе іншага пагоста.*
*Я змыю, як гадоў каросту,*
*Усё, што з роспаччу дзяліў.*
*Не будзе іншых моў і слоў,*
*Бо запаліўся беззваротна*
*Агнём святым гаворкі роднай,*
*Якая даражэй за кроў.*
*На ёй маліцца і кахаць,*
*І развітацца ў час апошні,*
*Калі надзеі вечны позірк*
*Пачне ў маіх вачах згасаць.*



*О, горды Рым, высакародны Рым,*
*Высокая і грозная стыхія!..*
*Палохаюць зноў іменем тваім*
*Нашчадкаў найраскошнай Візантыі.*

*І кожны новы дзень, і кожны год*
*Мы назіраем праз сябе са страхам:*
*Супрацьстаянне — Захад і Усход,*
*І прыцягненне зноў — Усход і Захад.*

*Вось гэтак лёс складалі на касцях,*
*Шукаючы паміж вякамі згоду*
*І трызнячы знайсці нарэшце шлях,*
*Адзіны шлях між Захадам і Усходам.*

**Алег ЛОЙКА**

### *Праклящце беларушчыны*

*Дзе стрэць такога скорага —*
*Самазабіцца пры́ткага,*
*Такога самаворага,*
*Як беларуса-вырадка?!*

*Тралюе: час упушчаны,*
*Традыцыі раструшчаны,*
*Нат не да беларушчыны*
*Самім, хто з яе гушчы быў.*

*І не прыняць за ворага,*
*І не прыняць за хворага,—*
*Нібы асот раскушчаны,*
*Не вытаптаць каторага,*
*Не выпаляць каторага.*

*Туман на душах — полагам,*
*Ані прасвету кволага,—*
*Ні ўцяць ні ўзяць, як з голага,*
*З праклацця беларушчыны!*



*Я ведаю: баяцца лідэра,*
*Не сцяць якога, не купіць,*
*Не ўгаманіць ліхім гармідарам*
*І ў чарцы горкай не ўтапіць!..*

*То ж не чыноўнік, што пры літары,*
*Па духу — дух, што не патух,—*
*О як яны баяцца лідэра,*
*Як вычуваюць яго дух,*

*Якімі ходзяць вокал добрымі,*
*Бягуць туды, сюды — назад,*
*Гатовыя рукамі-кобрамі*
*Да сэрцайка прытульваць нат;*

*Рукой памашуць акуратненька,*
*Праводзячы за акіян,*
*Шкадуючы, што не ў цялятніку,*
*Не ў Магадан, а ў ААН;*

*Хай лідэрствуе над Гудзонамі,*
*Да хрыпаты раве здароў:*
*Бізоны, будучы бізонамі,*
*Не ператворацца ў зуброў!*

*А мо напхаць захоча сідары?..*
*О'кэй! Тады яму — гуд бай!..*

*О, як яны баяцца лідэра,—*
*Мой дружа, гэта — памятай!*

*Хай хваля штармавая кідае,*
*Ды разбівацца ёй ля ног...*
*Слабых прыкмета — боязь*
*лідэра*
*І запарука перамог.*

## *Смерць колеру*

*Аднойчы Уладзімір Караткевіч здзівіў мяне, паказваючы ахвяраваны яму археолагамі віток валаска маманта вогненна-рыжага колеру. Такога ж колеру сталі мне ўяўляцца ўсе маманты, хоць то было далёкім ад сапраўднай явы...*

*Ад рыку глух бор і лясок,*
*Кап'ё, што карк праніжа,*
*І рыжы, рыжы валасок,*
*Што быў яшчэ не рыжы.*

*Зрок кроўю набухаў, пясок,*
*Што больш ён не паліжа,*
*І рыжы, рыжы валасок,*
*Што быў яшчэ не рыжы.*

*Хвейна слабеў апошні крок,*
*І неба — ніжай, ніжай,*
*І рыжы, рыжы валасок,*
*Што быў яшчэ не рыжы.*

*Зялёным быў? Чырвоным*
*быў?..*
*Не знаць мне і да крыжа...*
*Мяне ж, як сонца, асляпіў*
*Прах колеру — прах рыжы...*

## *Перадмаё*

*Твар мой змяніўся і звычкі мяняюцца,*
*Ды нешта, ды нешта — ва мне, ва мне:*
*Не дзень, не вечар, не ноч, не раніца,*
*А штось перад імі, з чаго ўсё імкне.*

*Месячык бліскаў, выплыла пойня,*
*Ды нешта, ды нешта — ва мне, ва мне:*
*Не папялішча і не жароўня,*
*А штось перад імі, з чаго ўсё імкне.*

*Сцежкі віліся, віецца дарога,*
*Ды нешта, ды нешта — ва мне, ва мне:*
*Не ціша-спакой і не гора-трывога,*
*А штось перад імі, з чаго ўсё імкне.*

*Крыніцы струменяць, раджаюцца зоры,*
*Ды нешта, ды нешта — ва мне, ва мне:*
*Не час невідомы і не прастора,*
*А штось перад імі, з чаго ўсё імкне.*

*Не Бога шукаю, Божа мілы!*
*А нешта, а нешта — ва мне, ва мне:*
*Не волю-бязволле, не сілу-бяссілле,*
*А штось перад імі, з чаго ўсё імкне.*

*І не пытайце, з якіх зямель ты,*
*Нешта, нешта — ва мне, ва мне,*
*Не венеды, не анты, не кельты,*
*А штось перад імі, з чаго ўсё імкне.*

*Кропка яно ці святло, ці бязмежжа,*
*Нешта-нешта — ва мне, ва мне,*
*Што ад анічога не залежыць,*
*Ды толькі з яго ўсё імкне ды імкне.*

*Толькі з яго я і толькі ў ім я,*
*Нешта-нешта — вечны працяг,*
*З перадідэі, з перадімя,*
*З перадбыцця і пераджыцця.*

*З перадсябе я, і зорка, і знічка,*
*Парастак, дрэва, кветка, цаўё...*
*Твар мой змяніўся, змяніліся звычкі,*
*Ды не мяняецца перадмаё.*

**Пятро ГАРЭЦКІ**

*У чэрвені спаўняецца 75 гадоў Пятру Гарэцкаму — вядомаму ўкраінскаму паэту і руплівому перакладчыку беларускай літаратуры. Прапануем некалькі вершаў П. Гарэцкага.*

## *Успамін*

*Я ў стэпе быў, калі ў неба клінам*
*Агонь узвіўся, зырка палыхнуў,*
*Тады дыхнула ў мае грудзі дымам,*
*Што мы ўдыхалі ў страшную вайну.*
*Ен закрываў нам сонца на світанку,*
*Калі, як смерць, раз'юшана паўзлі*
*Крыжастыя па нашых нівах танкі,*
*Зямлю апусташалі і таўклі.*
*Тады гарэлі каласкі — не жнеўнік,*
*І горкі попел дыхаць не даваў...*
*Боль невымоўны ў згарэлым зерні*
*Нам гневам лютым сэрца напаўняў.*
*Палі, палі...*
*Люблю я сінь над імі,*
*Як хваляў бег, плывуць па збажыне...*
*З гадоў ваенных ненавіджу дым я —*
*Суровы час нагадвае ён мне.*

**Пераклад Ю. СВІРКІ.**

## *Пракосы*

*У садзе падаюць лісты,*
*На травах серабрацца росы.*
*З касой іду я ў чэрвень босы*
*І за радком кладу радок —*
*То восені маёй пракосы.*
*Душа так прагне шчырых слоў,*
*Каб песня слалася на гоні.*
*І думка думку ўдалеч гоніць,*
*Натхненнем сэрца б'ецца зноў.*
*Прайшоў нямала я дарог,*
*Пазасяваўшы зернем ніву.*
*І каб у працы быць*
*шчаслівым —*
*Я права гэтае збярог.*
*Тым ганаруся, што ў жыцці*
*Кляпаць даўно навучыўся косы.*
*І класці за радком радок —*
*То ж восені маёй пракосы.*

**Пераклад П. ПРЫХОДЗЬКІ.**

## *Роздум*

*У горадзе жыццё штодзень*
*цяжэе,*
*Гармідар і разбой тут*
*правяць баль.*
*А ў вёсцы ўсё цішэе і цішэе*
*І ўся ўжо яна вымерла амаль.*
*Амаль не чую звонкі спеў*
*дзявочы*
*У родным полі ў летні цеплавей.*
*А некалі ж гармонік да паўночы*
*Не сунімаўся, быццам салавей.*
*Таму не цешыць думка*
*і не грэе,*
*І роздум мой пра першую*
*з патрэб:*
*Як вёска яшчэ трохі пастарэе,*
*То горад скуль на стол*
*паложыць хлеб?*

**Пераклад Ул. ПАЎЛАВА.**



# Дзеянні

Абамлець — прыкрая навіна.
Абдзіраць кару з дрэва — даведаешся аб праўдзе.
Абдзіраць скуру з авечкі — нявіннага скрыўдзіш.
Абкалоцца цярністаю раслінкаю — спаткаешся з перашкодамі і ўшчыплівасцю.
Абмераць зямлю пад новы будынак — дрэнны знак; пад сад ці агарод — шчасце.
Абувацца ў стары абутак — падарожжа; у новы — незнаёмае падарожжа.
Адрэзаць у сне сабе руку — памрэ хто або ад'едзе; калі балела пры гэтым рука — блізкі, а калі не — дык памрэ або ад'едзе хтось далёкі.
Адходзіць у дарогу, плачучы — будзеш весяліцца. (Гл. плакаць.)
Апранаць каго-небудзь у белую адзежу — хваліць; у чорную — нябожчык будзе. Апранацца ў белую адзежу — хораша, а ў чорную — людзі чэрняць.
Араць — нядобра. Непрыемнасці. Труды.
Ашукаць каго — бач, каб сам не быў ашуканы.

Бажыцца — будзеш сведкай.

Бараніцца — клопат.
Бегчы — прыйдзецца завіхацца пра нейкую справу.
Біць каго — нядобра: прыб'ецца чалавек. Таксама: памірышся са злоснікамі.
Любая бойка ў сне прадказвае чый-небудзь прыезд у дом, госця. Простая бойка — прыезд хоць і дарагога госця, але не сваяка, у той час калі крывавая бойка заўсёды паказвае на прыбыццё госця з крэўных сваякоў. Узаемная і працяглая бойка паказвае на адначасовае прыбыццё двух і болей гасцей; перанясенне простых і крывавых пабояў ад каго-небудзь — прыбыццё нежаданага госця. Удары пры падзенні, брыканне каня, баданне кароў, да крыві ці без яе, паказваюць на прыбыццё госця з нядобрымі намерамі, безадносна — будзе гэта родны ці чужы чалавек. Але бачыць бойку без асабістага ўдзелу ў ёй — нечакана апынуцца госцем сваяка ці чужога, а таксама прыняць пачастунак, напр., у карчме. Бойка жывёл служыць, так сказаць, аддаленым водгаласам чалавечай бойкі і часта паказвае на прыблуднасць да чужога статка ці прыбыццё чужога, незнаёмага чалавека.
Біць жонку — вялікая прыкрасць або хто-небудзь прыб'ецца.
Біць жалезам — пачуешся моцным.
Блудзіш у сне і выйдзеш, то выйдзеш з бяды, а не — то чакае бяда, турма.
Заблукаць у лесе — перашкода.
Заблудзіць у доме — клопат; у лесе — цяжкая справа.
Будаваць новую хату — часам хаўтуры блізкіх, некаторым добрая змена жыцця.
Буяніць — неспакой з суседзямі.
Важыць хлеб — прыбытак; абразаць — крэўны памрэ, а тое ж кажуць, што нехта павесіцца. Таксама: дождж пойдзе.
Валіцца з гары ўніз — няўдача.
Варажыць у сне — быццам не паможацца гору твайму.
Варыць што-небудзь — сварка будзе.
Вастрыць нажы — кепска; будзе бітва. Таксама: задумаць зло. Ураджайны год будзе, калі сон сасніўся вясной.
Везці з дому — нябожчыка вывозіць будзеш. Тое ж: да п'янства. Дзяліцца будзеш (сямейны падзел). Везці ў дом — сын павянчаецца; ураджай, прыбытак. Вазіць сена ў пуню — нябожчык.
Веяць хлеб — карысць.
Вінаваціць каго — спрэчка.
Вучыцца — пільнуйся свайго, май рупнасць.
Выганяць быдла ўночы — небяспека ад пажару.
Выйсці замуж за маладога ці ажаніцца з маладой і прыстойнай жанчынай — абяцае хваробу і смерць.
Выходзіць замуж — перамены ў жыцці.
Выязджаць з дому — зачнеш інтарэс ці службу.
Вянчацца — будзе сварка з прыяцелем.

Гаварыць у сне самому з сабой — нявысветленае палажэнне, клопат, незадавальненне. Гаварыць у сне — будзеш пацешаны.
Гаманіць — людзі судзяць.
Галіцца (брыцца) — госці, расходы.
Ганіць кагось — з цябе нехта смяецца.
Гінуць на вайне — небяспека, смутак.
Гнацца за кім — непатрэбна час страціш.
Грэбці сена — на хваробу і смерць.
Грэбці сена — клопат і цяжкая работа.
Грэбці сена зімой — неспадзяванае шчасце, улетку — таксама добра.
Гультаіць у сне — перасцярога ад праўдзівага гультайства на яве (значэнне благое).
Давіць каго — несправядлівасць.
Дакучаць камусь гаворкай — пусты клопат.
Даручаць сваю справу камусь — хвароба або звальненне са службы.
Дарыць — дужа добра.
Дзівіцца з чаго-небудзь у сне — пачуеш аб перамене.
Дзяліцца — убытак, аслабленне.
Дзяліць што-небудзь, жыта, сена — ураджай; тое ж: бацька памрэ, гаспадар на той свет пойдзе.
Дружыць з незнаёмым — карысць, даход.
Душыць каго-небудзь — дамавы скацінку тваю падушыць. Нядобра. Тое ж: хвароба задушыць.
Есці ў сне салёнае — добрыя весткі. Таксама: ураджай. І наадварот — голад (у прыватных выпадках гл. аддзел «Стравы»).
Есці што-небудзь — галадаць.
Есці бліны — пісьмо атрымаеш.
Есці боб — клопат.
Есці булкі — ашуканства.
Есці грыбы — сцеражыся нястраўнасці.
Есці гарох — слёзы.
Есці гусінае мяса — пазбудзешся клопату.

---

Працяг. Пачатак у №№ 3—5.

### КАБ НЕ РАСПУСЦІЦЦА Ў БЕЛЫМ СВЕЦЕ

**Беларусы, заспеўшы суседа за ядою, зычылі яму с м а ч н а е с ц і. Або казалі: «Х л е б д ы с о л ь!», «С м а ч н о г а в а м!» Публікацыю маладога даследчыка-аспіранта Тадэвуша Навагродскага, не цураючыся жорсткай праўды, мы назвалі «Смачна елі...». Тым самым як бы падгарчылі першародны смак спаконвечных страў Палесся. Куды дзенешся ад драматычных рэалій часу! Адсяленне цэлых паселішчаў з іх гістарычных мясцін стала на сённяшняй Беларусі характэрнаю з'явай. Сумна і горка.**

**Скрануўся з месца і пласт шматвяковых духоўных набыткаў, матэрыяльных, культурных каштоўнасцяў, у тым ліку і кулінарны народны досвед. На пакутлівым шляху выгнання рэальнасць страт вялікая. У літаральным сэнсе пакідаецца д'яблу матэрыяльны нажытак. Раздрабняецца людская супольнасць. Разбураецца ўсталяваны лад. Напрыклад, жыхары адной вёскі ў пошуках новай сялібы раз'язджаюцца часам на сотні кіламетраў. Толькі памяць асобных старэйшых жыхароў ды маладзейшых найбольш свядомых пераемнікаў захоўвае скарбы багатай ды унікальнай этнічнай спадчыны. Ці будуць яны запатрабаваныя ў далечыні ад дому, ці знойдуць прыдатную глебу, каб прарасці і ўзбагаціць заўтрашні дзень нацыі! Увогуле, ці захаваюцца, ці не пойдуць на распыл!**

**Матэрыялы экспедыцыі падаюць надзею. Магчыма, іх публікацыя паспрыяе духоўнай лучнасці людзей, крыўдна названых «чарнобыльцамі». Упэўнены, для многіх з іх «кулінарны апавяд» будзе вяртаннем у родныя хаты, за сямейны стол, у кола сваякоў і блізкіх, суседзяў і землякоў. Няхай публікацыя «Беларусі», як і праца маладога навукоўца, станецца маленькай часцінкай нашага агульначалавечага доўгу ахвярам няўдзячнага лёсу (дарэчы, гэты аспект ужо зацікавіў вучоных-этнографаў з Нямеччыны). Урэшце, будзем цешыць сябе надзеяй, што публікацыя зблізіць усіх, хто зведаў дарогу выгнання з чарнобыльскіх папялішчаў. Зблізіць і хоць трошкі сагрэе. Мы шчыра гэтага зычым. І кажам, насуперак усім акалічнасцям: «С м а ч н а е с ц і!..»**

**Валерый ДРАНЧУК,**
**вядучы рубрыкі «Наваколле»,**
**аглядальнік часопіса па пытаннях экалогіі і чалавека.**



# Смачна елі...

## Народная кулінарыя Гомельшчыны



*ЖНІВЕНЬСКАЕ сонца — сляпучае, яркае, зіхаціцца ў чарнаце асфальтаванай вуліцы. Паабапал здзічэлая раскоша травы, якая ніколі ў часы жыцця вёскі не падступалася так блізка да жытла чалавечага. Я іду пустой вуліцай роднага Бабчына. Крокі — важкія, расстайныя. З кожнае пустой хаты кідаецца насустрач нейкі дарагі прыпамін...*

*Мая хлебасольная палеская вёска! З маленства ў памяці тваё гасціны, шчодрыя на чалавечае цяпло. Спакуслівая смаката ўсіх тваіх небагатых па тым часе ласункаў — упрэлага печыва бабкі ды кавалачка «зайцава хлеба», прынесенага бацькам з лесу.*

*Гляджу на пустыя, бязлюдныя хаты, а цішыня поўніцца адтуль, з памяці, галасамі. Вось сусед, калгасны каваль, апрануты ў «сетку», з дымаром у руках, выходзіць з саду — падглядаў пчол. Кліча нас, дзяцей, паласавацца.*

*Перавязаныя на крыж ручнікамі сваты на Варыным падворку — маладая, сарамлівая Алена выходзіць насустрач з хаты... Вара, шчаслівая за дачку, сâдзіць гасцей за стол. З гарышча зняты коўбік — рыжыя лустачкі мяса растаюць у роце.*

*А яшчэ ж на схіле ўтомленага верасня прыходзіла ў вёску святое Узвіжанне. Вёска на некалькі дзён адрывалася ад працы. Ад хаты да хаты вандравалі падвяселеныя госці, гучала музыка, песні. На лавачках каля брам у святочный вопратцы сядзела ўся вуліца.*

*Багатая, шчодрая восень абуджала кулінарную здатнасць гаспадынь. Усе славутыя стравы Бабчына названыя былі імёнамі тых, у каго яны атрымліваліся найздатней.*

*А была ж яшчэ і свая Радаўніца — ссамочаная бяседа на магілках, Куцця і Дзяды з пакінутымі на ноч стравамі на стале для нябожчыкаў, якія абавязкова ў гэтую ноч наведваюцца.*

*Былі і радзіны, і мярліны...*

*Сягоння ў маім Бабчыне няма ўжо гэтага. Толькі водгалас збераджонае памяці. Ён і даносіць усю гармонію нядаўняга чалавечага бытавання, рупліва занатаваную ды прапанаваную на суд чытача ў артыкуле «Смачна елі... Народная кулінарыя Гомельшчыны». Гэта перш-наперш неад'емная частка нашай культуры, тое, што павінна застацца захаваным на смутнай дарозе чарнобыльскага выгнання.*

*Колькі такіх, як мая, пакінутых вёсак на Беларусі? Колькі ведамай ім памяці можа назаўсёды застацца не пачутаю, калі не будуць знаходзіцца сярод нас удзячныя збіральнікі ўсяго таго, што прасвятляе да крынічных глыбінь душу народа.*

*Мяркую, што часопіс «Беларусь», які ці не першы распачынае публікацыю такога матэрыялу, робіць нацыянальна адметную і вельмі высакародную справу, засцерагаючы нашу этнічную спадчыну ад забыцця і магчымых страт.*

**Мікола МЯТЛІЦКІ,**
**прэзідэнт дабрачыннага фонду садзейнічання развіццю літаратуры і культуры «Палескі смутак».**

**Н**АРОДНАЯ кулінарыя, як адзін з найважных элементаў матэрыяльнай культуры нацыі, у адрозненне ад іншых яе частак (скажам, адзення) куды менш падпадае пад наносна-модныя ўплывы і таму ў сваіх, больш устойлівых, формах яе асабліва значэнне пры вывучэнні этнічнай гісторыі беларусаў. Што да ўплывовых чыннікаў, якія пульсуюць з глыбінь часу, дык сярод іх варта назваць перш-наперш геаграфічнае асяроддзе, скіраванасць гаспадарчай дзейнасці, народныя традыцыі і звычаі.

Не будзе перабольшаннем і тая высnова, што кулінарыя беларускага народа в е л ь м і б а г а т а я і р а з н а с т а й н а я як на стравы, так і на спосабы нарыхтоўкі і апрацоўкі прадуктаў, шматлікія святочныя прысмакі.

На жаль, разам з каранямі ў выніку адсялення людзей з гістарычных мясцін шмат якія элементы народнай культуры страчваюцца, у тым ліку і навыкі прыгатавання ежы. Унікальныя рэцэпты народнай кулінарыі, такім чынам, могуць незваротна забыцца, згубіцца.

Каб гэтага ўрэшце не здарылася, і была наладжана этнаграфічная экспедыцыя (жнівень 1992 года) па вывучэнню народнай кулінарыі Гомельшчыны. Даследаваліся Рэчыцкі, Хойніцкі, Брагінскі, Калінкавіцкі, Светлагорскі і Жлобінскі раёны. Былі зроблены таксама запісы ў вёсках, якія сёння ўжо адселены. Трэба было бачыць і чуць, як людзі, да каго мы звярталіся, дзячылі нас за тое, што мы апынуліся побач з імі ў цяжкую часіну лёсу, і з вялікай асалодай дзяліліся набытым багаццем-досведам.

АСНОВУ народнай кулінарыі Гомельшчыны складаюць прадукты земляробства і жывёлагадоўлі. З мукі пяклі хлеб, пірагі, булкі, каржы, кулічы, хрушчы, бліны, налісnікі, скавароднікі, рэзнікі, варылі саладуху, вішняк, клёцкі, кулеш.

Шырока ўжываліся бульбяныя стравы — салонікі, паронікі, смажонікі, жаронікі, кашы, таўканіца, бабка, дранікі, цупкі.

З круп гатавалі крупнікі, булёны, варылі разнастайныя кашы.

Часта ўжывалі малако. З яго рабілі смятану, тварог, сыр, білі масла, на сыроватцы пяклі бліны, варылі малочныя стравы (беленае, зацірку, клёцкі, кашы).

Многа розных страў гатавалі з мяса. Елі сала, каўбасы, рабілі каўбух, патраўку, верашчаку. З крыві рабілі крывяныя каўбасы (крывянка), пяклі бліны («крывянікі»).

Гародніна ішла на прыгатаванне першых страў — варылі капусту, буракі («бацвінне»), фасолю, гарох. Елі квашаную капусту і гуркі.

Самымі распаўсюджанымі напоямі былі бярозавы і кляновы сокі («берка» і «кляновік»), хлебны квас, кампот з сухіх яблыкаў («узвар»). Пілі бруснічнік, звerабой, ліпавы цвет, маліннік, мяту, чабор.

Улюбёнай і частаю стравай былі грыбы, смажаныя з салам, а таксама соленыя і марынаваныя. З сушанымі грыбамі варылі капусту, крупнікі, юшку, дабаўлялі іх у тушаную гародніну і ў мясныя стравы.

Ужывалі ў ежу ягады, арэхі, рыбу, прадукты палявання.

У галодныя гады варылі крапіву, лебяду, суп з мерзлай бульбы, рабілі праснакі з жолуда, шчаўя, акацыі.

Разнастайнымі былі святочныя і абрадавыя стравы. Так, на Куццю, Вялікдзень, Міколу смажылі рыбу, пяклі налісnікі, аладкі з макам, булкі («паскі»), на Дзяды гатавалі боршч з грыбамі, варылі кашу з проса, церлі хрэн, рабілі ўзвар, полива. На хрэсьбіны абавязковай была бабіна каша.

Пасля чарнобыльскай аварыі адбыліся значныя змены ў харчаванні насельніцтва так званых забруджаных раёнаў. Стала нельга ўжываць у ежу мясцовае малако, саджаць і вырошчваць бабовыя, небяспечна — збіраць і есці ягады, грыбы, лавіць рыбу, займацца паляваннем. Людзі вымушаны прыстасоўвацца да новых умоў. Карыстаюцца прывазным перапрацаваным малаком і малочнымі прадуктамі. Замест сыроваткі для выпякання бліноў пачалі ўжываць лімонную кіслату, разведзеную з вадой, праводзіць больш рацыянальную кулінарную апрацоўку прадуктаў (аблупліваць скуру з караняплодаў, папярэдне вымочваць мяса ў халоднай вадзе на працягу 2—3 гадзін), ды ўсё часцей... успамінаць тое, што яшчэ нядаўна здавалася непарушна вечным, дадзеным назаўсёды.



## МУЧНЫЯ І КРУПЯНЫЯ СТРАВЫ

**ВЫПЕЧКА ХЛЕБА.** Рашчыняюць хлеб увечары перад тым днём, у які пякуць. Жытнюю муку сеюць праз сіта і сыплюць у дзежку. Дадаюць ваду, размешваюць, атрымліваючы не вельмі густое цеста. Некаторыя, у каго не хапала мукі, дабаўляюць драную на тарцы бульбу. Каб цеста закісла і добра падышло, дзяжу накрываюць векам, зверху прыкрываюць яшчэ чымнебудзь і ставяць на ноч у цёплае месца. Квасяць цеста з дапамогай рошчыны. Звычайна рошчынай служыць невялікі кавалачак цеста, пакінуты ад папярэдняй выпечкі («хрэшчык», **в. Паселішчы, Хойніцкі р-н**).

Раніцай бяруць муку, сыплюць у цеста, дабаўляюць соль і кулакамі месяць («мясі хлеб, пакуль лысіна мокра»; **в. Баршчоўка, Рэчыцкі р-н**). Каб цеста добра адставала ад рук, рукі перыядычна змочваюць у вадзе.

Печ добра працальваюць, старанна вымятаюць памялом. На вока бяруць кавалак цеста, прыгладжваюць яго рукамі і кладуць на драўляную лапату, якая пасыпаецца мукой або засцілаецца капусным, кляновым, аеравым лістамі або лістамі хрэну. На кожнай порцыі цеста робяць крыжык. З лапаты цеста садзяць у печ, рэзка выцягваючы да сябе лапату, а цеста застаецца на чарэні ў печы... Гатоўнасць хлеба правяраюць па-рознаму. Як пára роўна ўверх ідзе — значыць спечаны (**в. Мікулічы, в. Шкураты, Брагінскі раён**); клалі на руку і стукалі: як падскочыць — гатовы (**в. Слабажанка, Хойніцкі раён**); клалі на руку і націскалі: як лёгкі — гатовы, а як цяжкі — засоўвалі дапякаць (**в. Паселішчы, Хойніцкі р-н**). Вымаюць хлеб з печы на лаву, ачышчаюць ад лістоў, накрываюць ручніком. Выпякаюць ад 4 да 7 буханак (колькасць у залежнасці ад сям'і).

**ПІРАГІ.** Кіпяцяць малако, разводзяць у ім дрожджы. Усё гэта льюць у муку, дабаўляюць масла, цукар, смятану і пакідаюць начаваць. Уранні цеста раскладваюць у формы, яно падыходзіць. Тады засоўваюць у печ і праз гадзіну вымаюць гатовы пірог.

*в. Баршчоўка, Рэчыцкі раён.*

**БЛІНЫ.** Добра прасеяную муку замешваюць на сыроватцы, дабаўляюць туды соду, соль. Цеста наліваюць драўлянай лыжкай на ўсю скавараду або маленькімі блінцамі (аладкамі), некаторыя падціраюць у бліны бульбы.

*в. Барсукі, Светлагорскі р-н.*

**НАЛІСНІКІ.** Муку замешваюць на свежым малацэ. Дабаўляюць соду, яйка, соль, крыху цукру. Усё гэта размешваюць да рэдкага цеста і пякуць на скавародцы блінцы. Затым гэтыя блінцы начыняюць тварагом або сырам, згортваюць у трубку або складваюць учацвёра, зверху кладуць яшчэ масла і пякуць на скавародцы. Спечаныя налісnікі складваюць у гаршчок, дабаўляюць масла або смятану і ставяць у духавую печ.

*в. Баршчоўка, Рэчыцкі р-н.*

**ВАРЭНІКІ.** Пшанічную муку замешваюць на сыроватцы. Цеста тонка раскачваюць і рэжуць на невялікія кавалкі, начыняюць варэнікі тварагом, сырам, варэннем або макам. Варэнікі вараць, кідаючы іх у чыгун з кіпетнем. Потым вымаюць, астуджваюць, складваюць у макацёр, дабаўляюць масла і ставяць у «дух». Варэнікі таксама запякаюць на скавародзе.

*в. Веляцін, Хойніцкі р-н.*

**СЫРНІКІ.** Месяць сыр, яйкі, муку і цукар да густаватага цеста. Затым у руках робяць невялікія кругленькія аладачкі і пякуць на алеі на скавародзе.

*в. Паселішчы, Хойніцкі р-н.*

**ЛАДКІ.** Учыняюць на ноч цеста. Раніцай сыплюць пшанічную муку, дабаўляюць соду, трохі дражджэй і месяць. Потым цеста раскачваюць, рэжуць наўскос і складваюць на патэльню або бляху ў печ.

*в. Салонае, Жлобінскі р-н.*

**КАРЖЫ.** Цеста замешваюць на малацэ або сыроватцы. Дадаюць яйкі і соду. Затым цеста раскачваюць, наразаюць наўскос у выглядзе няправільных ромбаў і пасыпаюць цукрам. Пякуць іх на скавародзе або блясе ў гарачай печы.

*в. Паселішчы, Хойніцкі р-н.*

Аўсяную муку ўчыняюць. Яна закісае, тады сцэджваюць і на гэтай юшцы месяць цеста. Дабаўляюць цукру, часам — цукровых буракоў. Цеста раскачваюць і наразаюць ромбікамі. Пякуць на блясе ў печы.

*в. Шкураты, Брагінскі р-н.*

**БУЛКІ.** Муку замешваюць на гатаваным малацэ. Дабаўляюць яйкі, масла, смятану. Раніцай месяць цеста, начыняюць тварагом, варэннем або макам і пякуць у печы на блясе.

*в. Паселішчы, Хойніцкі р-н.*
*в. Шкураты, Брагінскі р-н.*

**ХРУШЧЫ.** Цеста рашчыняюць на кіслым ма-

лацэ. У цеста дабаўляюць соды, яек, тлушчу, цукру. Цеста раскачваюць, рэжуць і пякуць на скаварадзе або на бляхе. Зверху хрушчы пасыпаюць цукрам.

*в. Веляцін, Хойніцкі р-н.*

Бяруць муку, убіваюць у яе яйкі, сыплюць соду, шклянку цукру, паўчаркі гарэлкі і замешваюць цеста. Потым цеста тонка раскачваюць, рэжуць на каржы (г. зн. наўскос у выглядзе няправільнай формы ромбаў). Гэтыя каржы кідаюць у міску з кіпячым алеем. Яны падымаюцца.

*в. Паселішчы, Хойніцкі р-н.*

**КОНІКІ.** Муку замешваюць на сыроватцы. У цеста кладуць тварог, варэнне, складваюць учацвёра і кладуць у чыгунак. Зверху дадаюць масла і ставяць у духавую печ.

*в. Мікулічы, Брагінскі р-н.*

**ЛАЗАНКІ.** Цеста замешваюць на малацэ. Дабаўляюць соду, цукар. Потым цеста раскачваюць, разразаюць на коржычкі і кідаюць у кіпячую ваду. Часам такія лазанкі начыняюць сырам, абліваюць смятанай.

*в. Малішаў, Хойніцкі р-н.*

**КЛЁЦКІ («ВУШКІ»).** Месяць цеста, раскачваюць, наразаюць ромбікамі і вараць у гатаванай вадзе. Ядуць з алеем, семем або цукрам.

*в. Шкураты, Брагінскі р-н.*

**ЗАЦІРУХА.** Жытнюю або пшанічную муку заціраюць з вадой. Атрыманыя рваныя кавалачкі цеста засыпаюць у каструлю з варам, потым забельваюць малаком. Вараць на невялікім агні, перыядычна памешваючы.

*в. Барсукі, Светлагорскі р-н.*

**САЛАДУХА.** Бяруць жытнюю або грэцкую муку, размешваюць з вадой і вараць, увесь час дабаўляючы гарачай вады замест той, што выкіпела. Затым ставяць яе ў халоднае месца, пакуль не астыне, дабаўляюць крыху цеста з дзяжы, разбаўленага вадой, і зноў ставяць у печ варыцца. Потым вымаюць, зноў студзяць, і калі саладуха астыне, ядуць. Называюць яшчэ **ПЯТРОЎКА.**

*в. Паселішчы, Хойніцкі р-н.*

**КРУПНІК.** Крупы (проса, ячныя і інш.) перабіраюць, прамываюць у цёплай вадзе, засыпаюць у гаршчок з падсоленай вадой і вараць да няпоўнай гатоўнасці. Тады ў гаршчок кладуць нарэзаную бульбу, сала, цыбулю, лаўровы ліст і вараць да гатоўнасці.

*в. Града, Калінкавіцкі р-н.*

**ПРАСЯНЫ СУП.** Прасяныя крупы старанна прамываюць, заліваюць малаком і на малацэ вараць да гатоўнасці. Некаторыя яшчэ ўліваюць крыху смятаны.

*в. Баршчоўка, Рэчыцкі р-н.*

**ГРУЦА.** Ячныя крупы прамываюць, сыплюць у чыгунок, заліваюць вадой, соляць, кладуць мяса і вараць у печы.

*в. Мікулічы, Брагінскі р-н.*

**ГРАЧАНАЯ СЫРОВАТКА.** Грэцкія крупы прамываюць і вараць на малацэ. Затым для кісласці туды ўліваюць сыроватку.

*в. Веляцін, Хойніцкі р-н.*

**ПРАСЯНАЯ КАША.** Крупы мыюць, заліваюць малаком і вараць у гаршках. Потым вымаюць, запраўляюць і ставяць зноў у печ.

Гэтак жа вараць кашу з панцаку.

*в. Дунай, Рэчыцкі р-н.*

**ФАСОЛЯ У ШАЛУПАЙКАХ.** Фасолю ў струках параць у саганчыку ў печы, потым вымаюць, высыпаюць на стол і ядуць. Зялёныя струкі фасолі таксама вараць у чыгунку.

*в. Баршчоўка, Рэчыцкі р-н.*

**ГРЭЦКАЯ КАША.** Грэчку параць і таўкуць у ступе, а потым вараць у чыгуне. Асобна ў варэйцы (гаршку) адтопліваюць малако і заліваюць кашу.

*в. Барсукі, Светлагорскі р-н.*

**КІЯХІ.** Кукурузу адварваюць. Для гэтага спелыя ачышчаныя ад лісця пачаткі кукурузы складваюць у чыгун, заліваюць вадой, соляць, накрываюць накрыўкай і ставяць варыць у печ. Звараныя «кіяхі» ядуць цёплымі, некаторыя змазваюць іх маслам.

*в. Карпілаўка, Хойніцкі р-н.*

**Тадэвуш НАВАГРОДСКІ,**
**аспірант Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН Беларусі.**

**Працяг будзе.**

*Аўтар выказвае ўдзячнасць Рэспубліканскаму фонду захавання помнікаў гісторыі і культуры за фінансавую дапамогу ў часе правядзення экспедыцыі.*





# «ДЗЯДЗЬКА АДОЛЬФ, У ЦЯБЕ БОТЫ ПАРВАЛІСЯ...»

Чаму менавіта пра яго? У знакамітым тэатры ёсць, нібыта, асобы і больш значныя, і не менш тытулаваныя... Ды вось што развярэдзіла душу: колькі можна знаходзіцца ў цянёчку дрэў, якія раскашаваліся не заўсёды натуральным чынам?! Ганаровае званне атрымаў і Арнольд, хаця па-ранейшаму застаўся сціплым працаўніком сцэны, надзвычай дысцыплінаваным; ён ніколі не раздражнее «зоркавай» капрызнасцю рэжысёраў, не патрабуе ні галоўных роляў, ні нейкіх прывілеяў для сябе. Тыповы «камунальнік», які атрымаў свой куток ужо ў тым узросце, калі больш пранырлівыя атрымліваюць шыкоўныя апартаменты не толькі для сябе, але і для сваіх дзяцей, і — дзіва дзіўнае! — нават для ўнукаў...

Тым не менш залатыя бліскаўкі ёсць і на яго акцёрскім мундзіры. Уражвае роля пана Адольфа Быкоўскага ў неперавызданай п'есе Янкі Купалы «Паўлінка». Смешны, брыдотны перакупшчык абяднелага шляхецкага роду, які захаваў яшчэ маніяўскія ўспаміны аб высакароднасці свайго паходжання, пан Адольф быў у перыяд развітога сацыялізму сімвалам выраджэння класа эксплуататараў, служкай пэўнай ідэалогіі. Цяжка паверыць, што Янка Купала пісаў яго партрэт, зыходзячы менавіта з гэтых прадбачанняў. Хутчэй за ўсё выдатны драматург, паэт-чалавекалюб адлюстраваў рэальнасць існавання адэкватных людзей з уласцівай яму спагадай да кожнага абяздоленага, няхай ён будзе ці то шляхцюком, ці то з простага люду. Узяцца за гэтую ролю ва ўласнай інтэрпрэтацыі пасля такіх таленавітых акцёраў, як Платонаў, Стома, Кін-Камінскі і іншыя, Арнольду Памазану дазволілі толькі юнацкая апантанасць і вялікае жаданне праявіць сябе ў класічным рэпертуары.

▣ Арнольд Кандратавіч ахвотна прыгадвае пацешны эпізод. Аднойчы ставілі «Паўлінку» на цеснай сцэне сельскага клуба. Гледачоў — яблыку няма дзе ўпасці. Купка вяскоўцаў уладкавалася напрыканцы падмосткаў. І вось што здарылася... У той момант, калі шляхетны госць пачаў «кляваць носам», задрамаў пад гукі «мужыцкай» песні, акцёр адчуў, што хтосьці... пагладжвае залатаныя халявы ягоных ботаў. Крыху прыадкрыўшы адно вока, Арнольд убачыў, што робіць гэта хлапчанё, якое сядзіць амаль упрытык. Да слыху данеслася спачувальная, замілавана-шчырая, ажно да няпрошаных слёз, рэпліка: «Дзядзька Адольф, у вас боты парваліся...»

Дзеці, як вядома, тыя крытыкі, якія не ведаюць пасрэднасці, псіхалагічных нюансаў, усё прымаюць, што называецца, за чыстае срэбра... Пан Адольф спадабаўся гэтаму галапузіку. Смешны, але добры, яму не пытуюць іншыя, значыцца, ён мае патрэбу ў абароне і дапамозе. Мяркую, такому павароту дзеі парадаваўся б сам дзядзька Купала...

У той вечар акцёру Арнольду Памазану суджана было двойчы адчуць найвышэйшую асалоду. Чамусьці іменна да пана Адольфа Быкоўскага пасля спектакля падышла бабуля, абняла яго і сказала: «Дзякуй Богу, «Паўлінку» пабачыла, цяпер і паміраць можна...»

▣ Нідзе так не шануюць юбілеі, як у тэатрах: дзяржаўныя — адзначаюць адпаведнымі прэм'ерамі, святкуюцца круглыя даты драматургаў, акцёраў, мастацкіх кіраўнікоў, але нешта не даводзілася чуць пра юбілей выканання акцёрам адной і той жа ролі. А вось Арнольд Памазан збіраецца (пажадае, праўда, гэта зрабіць кіраўніцтва тэатра ці не?) сваімі сіламі адзначыць тысячны выхад на сцэну ў грыме пана Быкоўскага.

Лічба, пагадзіцеся, фантастычная! Але вось што здзіўляе-ўражвае: працуючы ў гэтай ролі без дублёра, Арнольд Кандратавіч не прапусціў ніводнага спектакля з-за хваробы альбо па нейкай іншай прычыне. Але не жалезны ж ён! Урэшце, дастаткова ўважліва паглядзець на твар і фігуру гэтага чалавека, каб прыемна падмануцца адносна ягонага ўзросту. Таму і мы не будзем афішыраваць чужы сакрэт. Хаця ў Арнольда ёсць таямніца іншай афарбоўкі — фізічнага і духоўнага нестарэння. Сам «пан Быкоўскі» ўсміхаецца:

— А вы змаглі б... Не, не «іграць на флейце вадасцёкавых трубаў», а кожную раніцу адольваць пяцікіламетровы крос і круглы год купацца ў адкрытай вадзе? Калі так, шчыра жадаю заўсёды быць «у форме»...

Асцярожна і далікатна кранаю аддаленыя струны душы маржа і артыста Памазана:

**— Я не сказаў бы, што твой акцёрскі лёс склаўся без хмурынак. Ва ўсякім выпадку, калі крочым з табой па вуліцы, далёка не ўсе пазнаюць «пана Быкоўскага»... А папулярнасць, нікому не сакрэт,— бальзам для творчага натхнення, поспехаў. Асабліва, мусіць, для людзей тваёй прафесіі...**

— А ці многа беларускіх акцёраў хапаюць зоркі з неба? Папулярнасць стварае не тэатр, нават не кінематограф, бо кінарэжысёры паласаваліся запрашаць на галоўныя ролі ў сваіх фільмах заслужаных, «сваіх», як кажуць... А нам ужо застаецца абы-што. Не да твару хваліцца, але нагадаю: усё-такі за маімі плячамі каля ста роляў у тэатры, кіно, на тэлебачанні і радыё. Асабіста я ніякага душэўнага дыскамфорту не адчуваю.

**— А ці не гняце цябе так званы «характарны» акцёр, у прыватнасці камічны — як-ніяк менавіта такім уяўляецца твой галоўны персанаж!**

— Дзякуй Богу, акцёрскі дыяпазон у мяне неабмежаваны. Між іншым, камедыйныя сітуацыі часцей адбываліся ў жыцці, а не на сцэне...

**— Арнольд, ты нарадзіўся ў тым самым далёкім Камсамольску-на-Амуры, наведаў розныя мясціны тады яшчэ неабсяжнага Саюза. Цікава, дзе пачалося тваё акцёрскае жыццё!**

— Каб доўга не распаўсюджвацца, скажу: першы раз выйшаў на прафесійную сцэну ў Львове, пасля заканчэння студыі пры мясцовым драматычным тэатры, а затым, як і ўсе апантаныя, паехаў штурмаваць тэатральную Мекку — Маскву...

**— ...А скарыў Мінск!**

— Служба ў Львоўскім тэатры падкінула мне злосны жарт. Жадаючы дапамагчы свайму мужу паступіць у прэстыжную навучальную ўстанову (за спіной былі ўжо тры конкурсныя туры), жонка адправіла ў прыёмную камісію характарыстыку з тэатра, вельмі да мяне спагадлівую. Не ведала яна, што галоўным крытэрыем адбору абітурыентаў там быў прынцып «гліны» — бралі таленавітую моладзь, яшчэ не сапсаваную правінцыяльнай сцэнай. І я апынуў-

# Арнольда ПАМАЗАНА

***М**агчыма, нехта абвінавачіць мяне ў плагіяце... Але тады я спашлюся на сваю дрэнную памяць, а пакуль буду адстойваць уласны афарызм: акцёры — гэта дзеці, якія не жадаюць стаць дарослымі...*

*Сапраўды, хіба здольны чалавек пражыць усё жыццё іграючы?!*

*Здольны, калі ён акцёр.*

*А хіба здольны аблытаны жыццёвымі альбо сямейнымі бедамі чалавек на рабочым месцы ўсміхацца, жартаваць, «валяць» дурня?!*

*Здольны, калі ён акцёр...*

*Вось такая атрымалася нечаканая формула, калі наважыўся пісаць пра свайго сябра, акцёра Нацыянальнага тэатра Беларусі імя Янкі Купалы заслужанага артыста рэспублікі Арнольда Памазана.*

ся за такімі жаданымі і, на вялікі жаль, зачыненымі дзвярамі. Добрыя людзі параілі: «Едзь у Мінск»...

**— Арнольд, тут я міжволі хачу пацікавіцца, падкінуць пытанне, якое цяпер не ў модзе: хто ты па нацыянальнасці!**

— Калі меркаваць па савецкім пашпарце — украінец. А калі «капнуць» генеалагічны пласт, высвятляецца: славянін у самым шырокім сэнсе гэтага слова: у маіх жылах пульсуе ўкраінская, польская, беларуская і руская кроў. Да слова сказаць, усімі гэтымі мовамі я і валодаю. І мне, скажу з усёй шчырасцю, вельмі балюча, калі бачу, як ірвуцца былыя трывалыя сувязі братоў-народаў...

**— Аднак пяты пункт, што называецца, даўся ў косці...**

— Так, пасля няўдачы ў Маскве я вярнуўся ў Львоў і даведаўся, што ў нашым тэатры ідзе скарачэнне. Кіраўніцтва паставіла пытанне рубам: «Украінец?» — «Так». «Адкуль родам?» — «З Камсамольска...» «Ну і газуй туды...» Паехаў у Мінск і ўдзячны лёсу, што ён злітасцівіўся. І цяпер, калі ў мяне пытаюцца пра нацыянальнасць, з гонарам кажу: «Я — беларус!..» І ў гэтых словах не толькі ўдзячнасць народу, з якім знітаваў свой лёс, але і даніна ягонай культуры, мастацтву, гуманізму...

**— І мне здаецца, ты душэўна ўспрыняў адну важную рысу беларускага народа — уменне суперажываць бліжняму. Спярша быў пан Быкоўскі, затым Андрэй Буслай у п'есе Аляксея Дударава «Парог», горкі п'янтос, чалавек, варты нянавісці,— у тваім прачытанні выклікае ў гледача боль спачування, ад непрыняцця вядзе да жадання зразумець, чаму ў прынцыпе добры чалавек пераступіў парог, за якім — бездань! І тут не абыходзіцца без дапамогі гумару. Таму прашу цябе ў гэтай жа танальнасці закончыць нашу гамонку.**

— Пасля прэм'еры «Парога» мы з сябрам зайшлі адзначыць гэтую падзею ў кафэ, непадалёку ад тэатра. За сталом шчабятала чародка дзяўчат-прыгажунь, якія, як высветлілася, апынуліся тут адразу пасля спектакля. Уяўляеш, якое іх было здзіўленне, калі яны зноў убачылі... Андрэя Буслая?! Тры гадзіны на сцэне, і вось у кафэ... А наогул я, хаця і не аскет, але не злоўжываю, і калі б выпала магчымасць падняць бакал за здароўе ўсіх чытачоў часопіса, да якога ты маеш дачыненне, прапанаваў бы даволі прыстойны тост: «За будучыню!» Не тую далёкую, міфічную і светлую, абяцаную нам і нашым бацькам і, як высветлілася, недасягальную, а будучыню самага бліжэйшага дня, калі і душа, і ўся істота ўвойдуць у стан поўнай гармоніі і разам будуць імкнуцца да цудоўнага, адным з галоўных праяўленняў якога ёсць Мастацтва.

**Валерый ХОЛАД.**
**Здымкі Віктара ДРАЧОВА.**



# У СЯМ'І СОТА 77 ДЗЯЦЕЙ

**Гэта маці стала сенсацыяй сусветнай прэсы. Яна мае ўжо 77 дзяцей. Цяпер Клеменція Сота цяжарная ў саракавы раз.**

Пяцідзесяцічатырохгадовая аргенцінка нарадзіла адразу пяцярых, потым двойчы чатырох, тройчы — траіх дзяцей. Блізнят ужо і не лічылі. Яна выйшла замуж і нарадзіла першае дзіця, калі ёй было 15 гадоў.

Адзінаццаць дзяцей памерла пры родах, але іх вясковы дом усё роўна напоўнены жыхарамі — ад гадавалых малышоў да саракагадовага. Ніхто не здзіўляецца, што маці зноў цяжарная, і ўрач зноў прадказвае блізнят.

— Мой муж Леон і я верым, што Бога цешаць вялікія шчаслівыя сем'і,— гаворыць чарнавокая Клеменція, якая і цяпер выглядае маладой і прыгожай.

Сям'я жыве на ферме паблізу Лас Плумас. Усе дзеці (некаторыя ўжо з уласнымі сем'ямі) жывуць тут жа. Частка з іх працуе на полі, частка ў горадзе.

Іх дом складаецца з 26 пакояў, вялікай залы, яшчэ большай сталовай і прасторнай кухні, у якой гаспадарыць Клеменція. Сто родзічаў пад адным дахам! Але ніхто не скардзіцца.

— Мы амаль ніколі не спрачаемся, справа да сварак не даходзіць,— гаворыць 57-гадовы Леон Сота.— Калі ўзнікае нейкае напружанне, яго адразу здымае цёплая ўсмешка маёй жонкі. У доме цяжарнай кабеты павінны быць добразычлівасць, лагодная атмасфера, а Клеменція цяжарная... амаль заўсёды.

**Алесь МІХАСЕНКА.**

## У ГОД САБАКІ

# «ДАЙ ЛАПУ, АНТЭК...»

Барбара Рэхенбергер вось ужо дзесяць гадоў (ёй няма і сарака) рухаецца толькі з дапамогай інваліднай каляскі. Яе паралізавала пасля аўтамабільнай катастрофы. Сваім найлепшым памочнікам яна лічыць сабаку па мянушцы Антэк.

«Гэта самы мудры чатырохногі, якога калі-небудзь бачылі ў Берліне»,— так напісаў пра сабаку часопіс «Більд».

Антэк ходзіць у магазін, падае сваёй гаспадыні акуляры, умее выклікаць ліфт. Калі яго гаспадыні становіцца дрэнна, ён не панікуе, а хуценька бяжыць да знаёмага ўрача, які жыве непадалёку...

— Я доўга вучыла Антэка,— расказвала Барбара карэспандэнту часопіса.— Напрыклад, клала ў шуфляду яго любімыя ласункі і называла прадмет, які ён павінен узяць. Так ён навучыўся адчыняць шуфляду і прыносіць мне патрэбныя рэчы, найперш — лекі.

Пасля публікацыі рэпартажу ў «Більдзе» Антэк набыў вялізную папулярнасць.

Барбара паведаміла рэпарцёру, што Антэка ёй купіла сяброўка з Польшчы за 1 500 марак. Сёння за яго ёй даюць 30 тысяч. Але Барбара не жадае прадаваць Антэка ні за якія грошы. Жанчыну можна зразумець.

**(Па матэрыялах замежнага друку.)**




**Вясёлы фламастэр Віктара ДУБОВІКА**

г. Мінск

# ПЫТАЛІСЯ? АДКАЗВАЕМ!..

## ЯК ЗНАЙСЦІ МЕСЦА ДЛЯ КАЛОДЗЕЖА!

**Хацеў бы на ўчастку альбо паблізу дачы выкапаць калодзеж. Ці не параіце, як вызначыць для яго месца!**

**І. Махнач,**
г. п. Зэльва.

Назавём некаторыя прыёмы, якімі даўно карыстаюцца вяскоўцы пры пошуках вады.

Каб упэўніцца, ці варта на гэтым участку капаць калодзеж, робяць так: ачысціўшы глебу ад лісця, смецця, перакульваюць чыстую жалезную патэльню альбо шклянку, напоўненую ватай. Калі праз суткі высветліцца, што ўнутраная паверхня патэльні альбо вата ў шклянцы вільготная, гэта — лепшая прыкмета таго, што крыніца знаходзіцца неглыбока. І чым вільготнейшыя названыя прадметы, тым бліжэй да паверхні вада.

Аб блізкасці да паверхні крыніцы мяркуюць таксама па пары, якая ўздымаецца на гэтым месцы ў ціхае бязветранае надвор'е.

## ЖАРТАЎЛІНКІ

Два шкаляры ўспамінаюць летнія канікулы:

— У нас было так горача, што літаральна праз дзесяць хвілін усе станавіліся карычневымі,— гаворыць адзін.

— Во здзівіў! — кажа другі.— У нас было так спякотна, што мы саджалі курэй на лёд. Бо інакш яны б неслі яйкі, звараныя ўкрутую.

▣ ▣ ▣

Два чалавекі плятуцца па пустыні. Насустрач рухаецца караван. Адзін з вандроўнікаў пытаецца ў караваншчыка:

— Ці далёка адсюль мора?

Караваншчык адказвае:

— Кіламетраў пяцьсот будзе.

Другі вандроўнік гаворыць першаму:

— Вось які даўжэзны пляж зрабілі!..

**Алесь БАБРОЎ.**

# «ПАНОВЕ ПРОСТЫЯ! ЗАПРАШАЕМ У ДАМКІ...»

Вядома, што простая шашка не роўня дамцы. Таму чорныя, кранутыя велікадушнасцю белых, з удзячнасцю заходзяць у дамкі. А там — правакацыя. Белыя заманілі чорных у дамкі, адну з іх (у залежнасці ад ходу чорных) запіраюць, а другой, простай, прыкрываюць яе, пазбаўляючы ўсякіх рухаў.

**Задача А. Афоніна (г. Жукоўскі Маскоўскай вобласці)**



**Заперці дамку і простую.**

Развязванне: 1. d4—e5! a7—b6 (калі 1... a3—b2, тады — 2. c7—b6 3. e5—d6 4. d2—c3 5. g5—f6 6. h6—e3 і 7. a5—e1) 2. e5—f6 3. f6—e7 4. h2—g3 5. d2—c1! 6. f4—g5 7. c1—g5 8. f2—e3 9. a5—c3 і 10. h6—c1. Прыгожая задача з многімі «лжывымі паваротамі»...

# САМ САБЕ ДОКТАР

**У вас баліць галава! У вас кепскі настрой! Вам усё «да лямпачкі»!.. Гэта, на жаль, першыя праявы неўрозу, а гэтую хваробу мае сёння кожны трэці. Дзе паратунак! А вось прыслухайцеся...**

● Вы пачулі раніцай пра «кепскія» ў медыцынскім плане дні тыдня. Што далей? Выкіньце гэтую інфармацыю з галавы!

● Загартоўка, абліванне халоднай вадой — працэдура не для кожнага. Тут патрэбна і фізічная, і псіхалагічная падрыхтоўка. Аднак «размінку» пасля сну зрабіць лягчэй лёгкага. «Пацягніцеся» ў ложку (як кошка), зрабіце масаж жывата, шчыкалатак, шыі, вушных ракавін і — абавязкова — ступняў. А потым пераходзьце да водных працэдур у... ванне.

● І ўрэшце... пажадана часцей лётаць у марах, як у снах. Вы хацелі б пабачыць Гаваі? Канарскія астравы? Ці — Парыж? А можа — Токіо? Трапіць у Эрмітаж ці ў Галівуд? На баль, дзе танцуюць адны каралевы? Калі ласка! Фантазіруйце!.. Тры хвіліны такой фантастычнай вандроўкі ў марах дададуць вам некалькі месяцаў жыцця...

**03. АПТЭКА НА ФАЗЭНДЗЕ**

# БУКЕТ ТРАЎ СУПРАЦЬ «БУКЕТА» ХВАРОБ

**На зямлі, напэўна, не існуе народа, які для лячэння не выкарыстоўваў бы расліны. «Тры зброі ёсць ва ўрача: слова, расліна, нож»,— казаў усім вядомы Авіцэна.**

**З глыбіні стагоддзяў дайшлі да нас лекарскія кнігі-траўнікі, якія змяшчаюць апісанне розных спосабаў лячэння травамі. Таму зараз мы, перш чым звярнуцца да хіміі, стараемся паспрабаваць бабуліны сродкі. Некаторыя з іх прапануем вам.**

**Такім чынам, «зброя» № 2...**

**КАБ НЕ СТАРЭЦЬ.** Для таго, каб адчуваць сябе заўсёды бадзёрым, энергічным і жыццярадасным, трэба пастаянна ачышчаць арганізм ад шлакаў і сачыць за абменам рэчываў. У гэтым запэўніваюць нас як старыя лекары, так і сучасныя ўрачы.

Лепшым сродкам для паляпшэння абмену рэчываў многія лячэбнікі прапанавалі марскую капусту — цудоўную прыправу да любой ежы. Раілі лекары прымяняць і палявы хвошч. Высушаны і дробна парэзаны хвошч заварваюць і п'юць як чай.

Авіцэна выкарыстоўваў сок хвашчу для лячэння ран і язваў, а настоі — для лячэння пухліны печані і страўніка.

Заўсёды цаніліся чаі з бярозавых пупышак альбо лісця. Сто грамаў іх бярэцца на шклянку вады. Такі чай выдаляе з арганізма шкодныя рэчывы, а гэта прыводзіць да амаладжэння. Разгладжваюцца маршчыны, з'яўляецца малады бляск у вачах, больш энергічнай становіцца паходка, адкрываецца яснасць думкі.

**ГАЛАВА ТРАШЧЫЦЬ, РАЗЛОМВАЕЦЦА.** Часцей за ўсё гэта адбываецца, калі арганізм і сасуды засмечаны шлакамі. Спярша трэба ачысціць арганізм, а потым выкарыстоўваць чай і настойкі. Вось тут і спатрэбіцца вам святаяннік. Але ў саставе з коранем валяр'яну, лісця суніц, мяты, кветак рамонку, календулы. Усяго вазьміце па адной лыжцы, заліце літрам кіпеню, некалькі хвілін патрымайце на агні. Астудзіце, працадзіце. Піць трэба па чвэрці шклянкі два разы на дзень.

Пры галаўных болях дапамагае і свежы сок каліны звычайнай альбо сок свежай бульбы. Можна прыкладваць да галавы і свежыя лісты капусты.

Таксама прымяняюць і настой кветак канюшыны лугавой. Неабходна сталовую лыжку кветак заварыць шклянкай кіпеню, настаяць 30 хвілін, працадзіць. Піць па паўшклянкі тры разы на дзень.

## «НЕ ЗНАЙШЛОСЯ АНАЛЬГІНУ? ТАДЫ ШУКАЙЦЕ МОРКВУ, РЭДЗЬКУ, МЕД І БУРАКІ...»

● Сок рэдзькі дапамагае пры захворваннях пячонкі, парушэнні сардэчнага рытму. Трэба прымаць па 1—2 сталовыя лыжкі соку, пажадана перад ядой. Сок з мёдам (у прапорцыі 1 : 1) спрыяе лячэнню катару верхніх дыхальных шляхоў, кашлю. Сок рэдзькі з мёдам (у прапорцыі 3 : 1) карысны пры неўрытах, болях у суставах. Сок і цёртая рэдзька — гаючы сродак пры лячэнні гнойных язваў і ран. Чысты сок з рэдзькі лечыць міязіты і радыкуліты.

Але — увага! Урачы рэкамендуюць не ўжываць рэдзьку і сок пры захворваннях сэрца, абвастрэнні язвы страўніка.

● Сок морквы карысны пры астэахандрозе, захворваннях страўніка, кішэчнага тракта і пячонкі, сухасці скуры, выпадзенні валасоў, а таксама пры прастудных захворваннях. Прымаць па 1/3 шклянкі за 30—40 хвілін да яды. Сок морквы з мёдам (у прапорцыі 1 : 1) рэкамендуецца пры кашлі, ахрыпласці. Прымаць па 1—2 лыжкі 2-3 разы на дзень. Чай з бацвіння морквы карысны пры гемароі.

● Цяпер пра буракі. Бураковы сок (папярэдне астуджаны ў халадзільніку) вельмі карысны пры атэрасклерозе, гіпертаніі, захворваннях шчытападобнай залозы, нырак, жоўцевага пузыра. Доза такая: па 1/3 шклянкі соку 2-3 разы на дзень. Бураковы сок з мёдам (у прапорцыі 1 : 1) дапамагае пры павышанай нервовасці, раздражнёнасці. У такім выпадку трэба прымаць па 1/3 шклянкі соку 2-3 разы на дзень. Пры катары сок вараных буракоў можна закапваць у нос.

**Працяг будзе.**

**Здымкі Віктара ЖЫЛІНА.**



# КРЫЖАВАНКА

**ПЕРАКЛАДЗІЦЕ З РУСКАЙ НА БЕЛАРУСКУЮ МОВУ.**

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ: 5. Пример. 6. Янтарь. 10. Поговорка. 11. Окончание. 12. Льдина. 15. Междометие. 16. Зачёт. 18. Зоб (у птиц). 19. Безуспешность. 22. Жажда. 24. Выстрел. 26. Бдительность. 27. Закром. 29. Салфетка. 30. Владение. 31. Юношество. 32. Чувство.**

**ПА ВЕРТЫКАЛІ: 1. Каракули. 2. Крыльцо. 3. Мысль. 4. Рыболовство. 7. Привкус. 8. Привилегированность. 9. Торговля. 13. Избранник. 14. Интерес. 17. Запятая. 18. Сорванец, повеса. 20. Статья. 21. Июнь. 23. Годовщина. 25. Дешевизна. 27. Заявление. 28. Кисть (украшение).**

**Склаў Рыгор ЯКУШ.**

# МАТАЙ НА ВУС!

● Збор шкла, калі разбілася лямпачка або фужэр,— занятак і складаны, і небяспечны, бо дробныя асколкі могуць параніць рукі. Што ў такім выпадку рабіць? Вазьміце кавалачак ваты, скачайце шарык, абмакніце яго ў ваду і... спакойна збірайце шкло.

● Калі швейная машынка «не бярэ» матэрыялу з гумы або пластыку, пратрыце свечкай тыя месцы матэрыі, дзе павінна быць строчка.

● Кухонныя нажы хутчэй заточацца, калі перад гэтым пакласці іх на палову гадзіны ў салёную ваду.



**Адказы на крыжаванку, змешчаную ў № 5.**

**УРЭШЦЕ...**

**БЕЛАРУСЬ**

**ПУБЛІЦЫСТЫЧНЫ І ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ ІЛЮСТРАВАНЫ ШТОМЕСЯЧНІК**

ВЫДАЕЦЦА СА СТУДЗЕНЯ 1930 ГОДА

**№ 6 (666) ЧЭРВЕНЬ 1994**



НА ПЕРШАЙ СТАРОНЦЫ ВОКЛАДКІ: **народны пісьменнік Беларусі Васіль БЫКАЎ.**

Фота **Яўгена КОКТЫША.**

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
САЮЗ ПІСЬМЕННІКАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ
І ПРАЦОЎНЫ КАЛЕКТЫЎ РЭДАКЦЫІ.

**Выдавецтва «Полымя» Міністэрства культуры і друку Рэспублікі Беларусь. Мінск.**

**Здадзена ў набор 13.04.94. Падпісана да друку 19.05.94. Фармат 70×108 1/8. Афсетны друк. Ум. друк. арк. 7. Ул.-выд. арк. 11,1. Ум. фарбадаб. 12,6. Т. 7300 экз. Зак. 358.**

**Кошт у розніцу — 300 рублёў.**

**Адрас рэдакцыі: 220005, Мінск, вул. Захарава, 19. Тэлефоны для даведак: 33-02-29; 33-20-54.**

**Рэдакцыя разглядае рукапісы памерам не больш як 10 машынапісных старонак.**
**Допісы, рукапісы, фотаздымкі і малюнкі, атрыманыя рэдакцыяй, не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.**
**220013, Мінск, праспект Францыска Скарыны, 79. Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку».**





*Ішла Купала сялом,*
*сялом...*
*Пляла вяночкі шаўком,*
*шаўком...*
*Сьвяціла ночкі агнём,*
*агнём...*
*Слыла Купала цяплом,*
*дабром...*

З БЕЛАРУСКІХ КУПАЛЬСКІХ ПЕСЕНЬ

Ліцейны цэх —
адна з самых «гарачых ячэек»
Мінскага трактарнага завода,
які мы па-ранейшаму
называем флагманам
сельскагаспадарчага
машынабудавання Беларусі.

РЭПАРТАЖ
ЧЫТАЙЦЕ
НА ПАЧАТКУ
НУМАРА.

Здымкі
Віктара ЖЫЛІНА.

Індэкс 74820.
ISSN 0320-7544. «Беларусь», 1994, № 6, 1—36.
Кошт у розніцу — 300 рублёў.